

*Арнольфо ды Камбыо.*
*Бронзавая фігура апостала Пятра*
*ў базыліцы святога Пятра ў Ватыкане.*



Ірэк Шэлаг. Кракаў, вуліца Кананічная.

* * *

*Калі думаю пра Айчыну — тады прарастаю,*
*пускаю карэнне,*
*пра тое сэрца гаворыць, як нябачная мяжа,*
*якая з мяне перабягае да іншых,*
*каб усіх агарнуць мінулым, даўжэйшым*
*за кожнага з нас:*
*з яе я выходжу... калі думаю пра Айчыну —*
*каб замкнуць яе ў сабе, як скарб.*
*І ўсё пытаю: як мне яго памножыць,*
*як пашырыць тую прастору, у якой яму цесна...*

Караль Вайтыла,
«Калі думаю пра Айчыну...»

Пераклад з польскай мовы
Дануты Бічэль.



**У нумары 1/2014**

# НАША ВЕРА



Благаслаўлёны Ян XXIII.



Благаслаўлёны Ян Павел II.

# НАБЛІЖЭННЕ СВЯТАСЦІ

На сайце польскага каталіцкага тыднёвіка «Нядзеля» на адмысловым табло пастаянна пазначаецца колькасць дзён, гадзінаў і хвілінаў, якія застаюцца да кананізацыі двух благаслаўлёных Папаў — Яна XXIII і Яна Паўла II. Кожная адлічаная секунда змяншае часавую адлегласць да гэтай гістарычнай падзеі, якая адбудзецца ў Ватыкане 27 красавіка ў свята Божай Міласэрнасці. Такі зрокава-асязальны адлік часу дапамагае больш востра і выразна адчуць усю яе важнасць і неардынарнасць і разам з тым згадаць, што 9 гадоў назад, 8 красавіка 2005 года, увесь свет развітваўся з Янам Паўлам II. Менавіта тады на плошчы святога Пятра ў Рыме прагучала ўпэўненае: *«Santo subito» — «Ужо святы»*. Вось жа сапраўды: *Vox populi, vox Dei*. I гэтая кананізацыя, якая так хутка — усяго праз няпоўнае дзесяцігоддзе — спраўдзіць тыя словы, стане першаю ў нашым стагоддзі, падчас якой будуць абвешчаныя святымі адразу два Папы. «Мы жывём у перыяд ззяння папства», — слушна заўважыў ксёндз Славамір Одэр, пастулатар у кананізацыйным працэсе благаслаўлёнага Яна Паўла II.

Будучыя святыя — па сутнасці нашы сучаснікі, і таму яны асаблівым чынам набліжаюць святасць да кожнага з нас, як бы асвойваюць яе з гэтым светам, які ўсё больш і больш аддаляецца, уцякае ад святасці...

Благаслаўлёны Ян Павел II пісаў, што святыя «з'яўляюцца прадстаўнікамі Бога, які прамаўляе праз іх». На гэты раз Бог прамаўляе да нас праз Яна XXIII і Яна Паўла II, праз іх жыццё, поўнае любові і ахвяры, праз прыклад іх веры і малітвы, праз іх навучанне і ўрэшце — праз іх незабыўныя ўсмешкі і выдатнае пачуццё гумару, уласцівае абодвум Папам...

У гэтым нумары, шаноўныя чытачы, вы знойдзеце прыгожыя і кранальныя прыклады святасці двух вялікіх Папаў у прысвечаных ім матэрыялах. Касцёл узносіць іх да хвалы алтароў, каб дзякуючы ім і праз іх усе мы лягчэй і смялей знаходзілі свой шлях да святасці, бо кожны чалавек, створаны па вобразе Божым, да яе пакліканы.

*Рэд.*



Папа Ян XXIII падчас адкрыцця Другога Ватыканскага Сабору. 11 кастрычніка 1962 года.

# Добры папа Ян — вартае захаплення жыццё Яна XXIII

Нягледзячы на кароткі Пантыфікат (1958–1963), благаслаўлёны Ян XXIII лічыцца адным з найбольш знаных Папаў у гісторыі Касцёла. Вядомы найперш тым, што распачаў II Ватыканскі Сабор, *«добры Папа»*, як яго называлі, быў перадусім чалавекам, поўным абаяльнасці, сціпласці і пакоры, вядомым сваім адметным пачуццём гумару. З «Дзённіка душы», які ён пакінуў пасля сябе, вымалёўваецца вобраз улюбёнага ў Бога хрысціяніна, які асцерагаўся граху і адорваў прыязнасцю ўсіх людзей, нягледзячы на іх погляды і рэлігійную прыналежнасць. Аднак рысаю, якая найбольш характарызавала яго, была незвычайная бадзёрасць духу, якою ён дзяліўся з іншымі. Ён казаў: «Сумны ксёндз — дрэнны ксёндз».

**Кожны можа стаць Папам**

Калі 9 кастрычніка 1958 года амаль пасля 20 гадоў Пантыфікату памёр папа Пій XII, усе лічылі, што адзіным годным яго наступцам можа быць арцыбіскуп Мілана Джавані Батыста Манціні, які доўга супрацоўнічаў з Папам. На жаль, ён не быў кардыналам. Паводле людскіх меркаванняў, цяпер трэба было выбраць, як казалі злыя языкі, «самага старога і дурнога» з кандыдатаў, каб той надаў Манціні годнасць кардынала, а пасля, хутка адышоўшы з гэтага свету, вызваліў для яго Пасад святога Пятра. 28 кастрычніка, на трэці дзень канклаву, падчас адзінаццатага галасавання патрэбную большасць галасоў атрымаў кардынал Анджэла Джузэпэ Ранкаллі, патрыярх з Венецыі, якому было амаль 77 гадоў. Ён прыняў імя Яна XXIII.

«Кожны можа стаць Папам; я — найлепшы гэтаму доказ» — гэтыя словы добра пацвярджалі тое, што новы біскуп Рыма выдатна разумеў сваю ролю. Ужо 17 лістапада імя арцыбіскупа Манціні стаяла на першым месцы ў лісце намінантаў, якія 15 снежня павінны былі атрымаць кардынальскія берэты. Пасля Папа называў яго кардыналам Гамлетам... Яшчэ нішто не было прадвесцем буры, якую выклікаў Ян XXIII, абвясціўшы 25 студзеня 1959 года рашэнне склікаць Паўсюдны Сабор.

**Благаслаўлёная беднасць**

Ён нарадзіўся ў горнай вёсцы недалёка ад Бергама, у паўночнай Італіі. Яго бацька, маючы на ўтрыманні дзесяць дзяцей, доўга быў толькі арандатарам шматка зямлі. «Я вырас у асяродку самадастатковай благаслаўлёнай беднасці, якая вучыць малым патрабаванням», — узгадваў Папа. Гэты досвед паўплываў на ўсё яго жыццё — Папа вылучаўся вялікай простасцю. Яму не даспадобы былі тыя знакі пашаны, якімі адзін за адным адорваў яго Касцёл. Ён не хацеў іх, прымаў з неахвотаю, у духу паслухмянасці. Менавіта дзякуючы гэтаму ён стаў адным з найлепш падрыхтаваных да свайго служэння Папаў, і не толькі ў XX стагоддзі.

Хлопчыкам ён мусіў хадзіць у школу па 6 кіламетраў у кожны бок, праз горы, і часцёй за ўсё басанож. Маючы здольнасці, ён усё ж не любіў вучыцца і часцей



Клерык Анджэла Джузэпэ Ранкаллі (у цэнтры). 1901 год.

за ўсё атрымліваў нізкія адзнакі. Нягледзячы на гэта, яго прынялі ў семінарыю ў Бергама. Ён марыў аб святарстве з дзяцінства, жадаў быць вясковым пробашчам... «Не памятаю ні хвіліны, калі б я не хацеў служыць Богу як святар», — казаў ён праз шмат гадоў.

Тэалагічнае навучанне працягнулася ў рымскай семінарыі імя святога Апалінарыя са спецыялізацыяй у гісторыі Касцёла, якая не перастала быць яго вялікім захапленнем і тады, калі ён стаў Папам.

### Хачу быць добрым

На наступны дзень пасля святарскага пасвячэння, укленчыўшы перад святым папам Піем X, ён пачуў словы: «Жадаю табе, каб тваё святарства стала суцяшэннем для Божага Касцёла». «Я заўжды і да ўсіх хачу быць добрым», — занатаваў малады святар.

Калі праз некалькі дзён ён цэлебраваў прыміцыйную Імшу ў роднай вёсцы, нехта пажартаваў: «Цяпер ксёндз павінен парупіцца і стаць Папам». Бацька Анджэла не меў планаў, якія сягалі б так далёка. Аднойчы, убачыўшы сына ў сутане, ён так укапаў рыдлёўку ў зямлю, што тая ззяла на сонцы, як інфула на галаве біскупа, і ўздыхнуў: «Ах, мне б калі-небудзь убачыць інфулу на тваёй галаве!».

Увосень Ранкаллі стаў прэфектам у семінарыі імя святога Апалінарыя і працягваў вучыцца, цяпер — кананічнаму праву. Аднак хутка, у 1905 годзе, новы біскуп Бергама — Джакама Марыя Радыні-Тэдэшы, прызначыў яго сваім сакратаром. Прайшло няшмат часу, і 24-гадовы Ранкаллі пачаў выкладаць у семінарыі ў Бергама спачатку гісторыю Касцёла, а пасля таксама апалагетыку і патрыстыку. Біскуп палюбіў сакратара як сына. З цягам часу ён усё больш далучаў яго да справаў кіравання дыяцэзіяй і грамадскай дзейнасці, лічачы, што Касцёл не павінен замыкацца ў сакрыстыі. Ён прызначыў маладога святара галоўным рэдактарам «Дыяцэзіяльнага жыцця», пасылаў яго ў Францыю, Іспанію, Аўстра-Венгрыю, Святую Зямлю... Часам гэтыя вандроўкі мелі характар асаблівых камандзіровак па заданні Апостальскай Сталіцы. Справаздача ксяндза Ранкаллі з Люрда ў 1908 годзе павінна была змусіць Рымскую курыю прыхільна ставіцца да цудаў, якія адбываліся там, прываблiваючы натоўпы пілігрымаў.

### «Вайна шмат чаму мяне навучыла...»

Першая сусветная вайна прымусіла Ранкаллі апрануць мундзір жаўнера. Насамрэч яшчэ падчас вучобы ў семінарыі ён прайшоў вайсковую службу, а цяпер служыў ужо капеланам ў званні сяржанта, а пазней паручніка, у шпіталі, аказваючы паслугі параненым. Калі параненых было шмат, ён выконваў працу санітара, доктара і нават хірурга. Пазней тыя, кім ён апекаваўся, узгадвалі, што адна яго прысутнасць супакойвала: голас, погляд, жэсты. Перш за ўсё ён клапаціўся пра тое, каб выратаваць іх целы, а калі на гэта ўжо не было спадзявання — то іх душы. Вобразы паміраючых параненых, якія біліся ў канвульсіях, якія з прычыны вялікай колькасці былі пазбаўленыя належнай апекі, якія пакутавалі ад гарачкі і ляжалі ў лужынах крыві, без лекаў, адзін каля другога, жывыя побач з памерлымі, моцна ўрэзаліся ў памяць будучага Папы. «Вайна шмат чаму мяне навучыла. Як жа добра я пазнаёміўся тады з чалавечымі сэрцамі», — казаў ён праз шмат гадоў. Праз паўвека ён узгадваў: «Я ўсё яшчэ памятаю крыкі аўстрыйца, якому штыком разарвалі грудную клетку. Гэты вобраз як жывы стаяў перад маімі вачыма, калі я працаваў над энцыклікай “*Pacem in terris*”».

Вяртанне ў Бергама азначала новыя абавязкі: ён не толькі выкладаў у семінарыі, стаўшы там духоўнікам, але і займаўся моладдзю, стварыўшы Дом студэнта. Дзякуючы яго арганізацыйным здольнасцям папа Бэнэдыкт XV паставіў святара на чале справы распаўсюджання веры ў Італіі. Па заданні папы Пія XI ён падрыхтаваў дэкрэт аб наданні справе місій папскага тытулу. Новы стыль працы (спрашчэнне працэдураў, скасаванне даўніх традыцый, раптоўныя замежныя візіты), поспех місійнай выставы, арганізаванай ім, а таксама ўнёсак у падрыхтоўку Святога года 1925-га, былі ацэнэныя: ксяндза Ранкаллі запрасілі на працу дыпламата ў Ватыкан.

### Нецікавае жыццё бюракрата

Адразу пасля біскупскага пасвячэння і ад’езду ў Балгарыю ў якасці Апостальскага візітатара ў жыцці Ранкаллі распачаўся амаль трыццацігадовы перыяд дыпламатычнай працы. Адначасова гэта стала перыядам пазнавання хрысціянскага Усходу і крушэння лёду ў

адносінах з праваслаўнымі іерархамі. Вялікую дапамогу ў гэтым мелі рысы характару папскага пасланніка, асабліва непасрэднасць у адносінах з людзьмі і дар знаходзіць адпаведныя словы для кожнай сітуацыі. Спачатку арцыбіскупа прынялі з прахалодаю, але паступова атмасфера стала сардэчнаю.

У праваслаўнай Балгарыі ён здолеў заснаваць каталіцкую духоўную семінарыю і дабіцца прызнання дыпломаў, выдадзеных каталіцкімі школамі. Але няўдачаю скончылася пасрэдніцтва Ранкаллі ў справе шлюбу цара Барыса з італьянскай княжной Джаваннай. Насамрэч маладыя людзі ўзялі каталіцкі шлюб у Асізі, але, вярнуўшыся ў Сафію, паўтарылі цырымонію ў праваслаўнай катэдры, і дзіця, насуперак дамове, было ахрышчанае ў праваслаўнай веры. Нягледзячы на гэта, калі праз дзесяць гадоў арцыбіскуп пакідаў Балгарыю, ён быў улюбёны ў гэтую краіну і нават папрасіў Папу перанесці тытулярную біскупскую сталіцу з Арэопаліса ў Нэсэмбрыю (цяперашні Нэсэбр).

Ранкаллі не забываўся, што ён не толькі пасланнік Апостальскай Сталіцы, але і перадусім біскуп. «Якое няшчаснае жыццё біскупа або святара, вымушаных выконваць адну толькі ролю дыпламата або бюракрата», — шкадаваў ён. Ён вучыў мову краіны, дзе працаваў, каб наведваць мясцовых католікаў, часта ў глухіх і далёкіх горных вёсках, куды вельмі цяжка дабрацца і прапаведаваць. Ён, раней ведаючы толькі рымскую літургію, цэлебраваную па-лацінску, цяпер удзельнічаў у набажэнствах візантыйскага абраду. Апостальскі візітатар заклікаў католікаў любіць сваіх праваслаўных братоў. Ён знаёміўся з мясцовымі традыцыямі, спяшаўся з дапамогаю беднякам — калі быў вялікі голад, каля сядзібы візітатара збіраліся кіламетровыя чэргі, а ён сам на возе, запрэжаным муламі, ездзіў па краіне, развозячы бедакам запасы ежы.

**Арцыбіскуп у кацялку**

Калі праз дзесяць гадоў яго ў якасці Апостальскага дэлегата перавялі ў Грэцыю і Турцыю, арцыбіскуп Ранкаллі стаў Апостальскім вікарыем Стамбула. Менавіта ён наладзіў добрыя стасункі паміж Каталіцкім Касцёлам і экуменічным патрыярхатам Канстанцінопаля, якія трываюць і дагэтуль. Ён зрабіў так, каб казанні і заключныя малітвы падчас святой Імшы прамаўляліся па-турэцку. Адначасова арцыбіскуп падпарадкоўваўся закону, што забараняў у Турцыі нашэнне святарскага адзення: на працягу дзесяці гадоў ён хадзіў у свецкім адзенні і ў кацялку на галаве.

У Грэцыі ён дамогся палёгкі ў законе супраць празелітызму, які прыніжаў католікаў. Калі распачалася Другая сусветная вайна, Ранкаллі дапамагаў бежанцам, быў пасрэднікам у перасылцы ваеннапалонным лістоў ад сем'яў і перш за ўсё арганізоўваў забеспячэнне харчаваннем і лекамі для сотняў тысяч галадаючых грэкаў. «Патрэбныя былі жахі вайны, каб нашыя шляхі перасякліся», — сказаў яму праваслаўны мітрапаліт Дамаскінас, калі яны разам наведвалі сіроцкі дом.

Калі нямецкі амбасадар спрабаваў праз пасрэдніцтва Ранкаллі паўплываць на папу Пія XII, каб той маральна падтрымаў Рэйх, што ваяваў супраць атэістычнага СССР, арцыбіскуп гнеўна адказаў яму: «А што з тымі мільёнамі габрэяў, якіх суайчыннікі спадара нішчаць у Польшчы і Германіі?».

Асабіста ён выратаваў тысячы габрэйскіх дзяцей, якія ўцякалі з Еўропы, прымушаючы ўлады Турцыі дазволіць ім свабодна адплыць у Палестыну.



Папа Ян XXIII у *sedia gestatoria*.

**«Навяртайцеся, навяртайцеся, навяртайцеся…»**

Напрыканцы снежня 1944 года арцыбіскуп Ранкаллі прыбыў у Парыж у якасці Апостальскага нунцыя. Дастаткова было некалькіх гадзінаў, каб «вясковы пробашч, такі тоўсты, што ў сутане не змяшчаецца», стаў сапраўды паважанай персонай і ўлюбёным госцем парыжскіх салонаў. Будучы дэканам дыпламатычнага корпусу, ён павінен быў ад імя дыпламатаў павіншаваць з Новым годам кіраўніка ўраду — генерала Шарля дэ Голя. Паколькі не было ўпэўненасці ў тым, што арцыбіскуп прыбудзе ў горад своечасова, на ўсялякі выпадак прамову падрыхтаваў амбасадар СССР. Ранкаллі не паспеў падрыхтаваць уласнага выступлення, таму звярнуўся да савецкага амбасадара і пазычыў у яго прамову, якую і прачытаў, дадаўшы ад сябе некалькі словаў аб Божым Провідзе.

Ён прымаў у сябе людзей розных палітычных поглядаў, у тым ліку і вядомых антыклерыкалаў. «Нас раздзяляюць погляды? Прызнайце ж, што гэта такія дробязі», — пераконваў арцыбіскуп аднаго з іх. Па ўсёй Францыі ха-

дзілі анекдоты пра нунцыя. Аднойчы на банкеце яго пасадзілі побач з жанчынаю, апранутаю ў сукенку з вельмі вялікім дэкальтэ. Падчас дэсерту ён падаў жанчыне яблык і сказаў: «Ева толькі з'еўшы яблык зразумела, што яна голая». Ён любіў жартаваць з уласнай вялікай вагі. Пасля ўрачыстай сесіі ў Французскай Акадэміі арцыбіскуп заўважыў, што на крэслах, якія там стаяць, месціцца толькі паўнунцыя... Ужо пасля выбрання Папам ён пачуў, як адна жанчына за яго плячыма сказала другой: «Які ён таўстун!»; на гэта Ян XXIII павярнуўся да яе і адказаў: «Шаноўныя дамы, канклаў — не конкурс прыгажосці».

«Я больш жадаю таго, што яднае, чым таго, што падзяляе» — любіў казаць ён. Менавіта ён падтрымаў экуменічную супольнасць у Тэзэ, якая ўзнікла ў той час. <...>

Прызначаны кардыналам і патрыярхам Венецыі, ён прыняў кардынальскі берэт з рук прэзідэнта Венсана Арыёла ў Елісейскім палацы. Ён вярнуўся ў Францыю незадоўга да таго, як быў выбраны Папам. У якасці легата Пія XII Ранкаллі кансэкраваў у Люрдзе падземную базыліку святога Пія X. На пытанне журналістаў, што ён хацеў бы сказаць французам на развітанне, ён адказаў: «Навяртайцеся, навяртайцеся, навяртайцеся».

### У кавярні на пляцы святога Марка

Гэтак, як у Стамбуле ён хадзіў па базарах, а ў Парыжы — каля букіністычных кіёскаў па берагах Сены, так у Венецыі кардынала Ранкаллі часта можна было сустрэць у кавярні на пляцы святога Марка, дзе ён вёў размовы з мясцовымі жыхарамі. Яму заўжды хацелася кантактаваць з людзьмі непасрэдна, без урачыстых цырымоній. «Задача пастыра ў тым, каб лічыць адну авечку за другою», — гаварыў патрыярх.

Стаўшы Папам, ён сумаваў па сустрэчах з простымі людзьмі. «Сёння раніцаю я прымаю кардыналаў, шляхту, важных прадстаўнікоў улады. Але пасля абеду правяду колькі часу са звычайнымі людзьмі, адзіны тытул якіх — годнасць чалавечых істотаў і Божых дзяцей», — цешыўся Ян XXIII. Ён занатоўваў: «Сёння запрашу да сябе новых жаўнераў Швейцарскай гвардыі, каб мы маглі пазанёміцца за шклянкай віна».

Ужо на пачатку Пантыфікату ён здабыў сэрцы простых людзей сваімі візітамі ў дзіцячы шпіталь і ў вязніцу, дзе выціраў слёзы асуджаным і распавядаў, як адзін з ягоных сваякоў быў арыштаваны за браканьерства...

### «Я не раблю нічога, што нясе згаршэнне…»

Абавязкі Папы не знішчылі ягонай схільнасці да жартаў. Падчас наведвання шпіталя Святога Духа збянтэжаная сястра-настаяцелька, знаёмячыся з ім, сказала: «Я настаяцелька Духа Святога», на што Ян XXIII адказаў: «Сястра шчаслівая, а я толькі вікарый Езуса Хрыста». Аднойчы Папу спыталі, што ён думае пра тэлебачанне: «Пакольку я ўбачыў там, як стаў Папам, то лічу, што тэлебачанне мае вялікае значэнне», — адказаў ён. Пра аднаго са сваіх супрацоўнікаў Ян XXIII сказаў: «У яго шмат ідэяў, і часам я задумваюся, хто тут Папа: ён ці я...». Ён абураўся, што турыстам забараняюць падымацца на купал базылікі святога Пятра, калі Папа шпацыруе па ватыканскіх садах: «Але чаму б людзям мяне не ўбачыць? Я ж не раблю там нічога, што іх згоршыць!».

### Свежае паветра для Касцёла

Увайшоўшы ўпершыню ў свае ватыканскія пакоі, папа Ян XXIII адчыніў акно, кажучы: «Пусцім крыху свежага паветра». Гэты жэст стаў сімвалам яго Пантыфікату. «Свежага паветра» для Касцёла ён чакаў ад Сабору, які распачаўся ў 1962 годзе. «Гэта быў нечаканы крок, промень нябеснага святла», — сказаў ён у прамове, якою распачаўся Сабор. З дапамогаю Сабору ён здзейсніў капернікаўскі пераварот у тэалогіі, паказаўшы розніцу паміж нязменным багаццем веры і спосабам яе перадачы, які неабходна дастасаўваць да таго часу, у якім жыве Касцёл. Такім спосабам было рашэнне адысці ў тэкстах Сабору ад асуджэння чыіхсьці поглядаў дзеля станоўчага навучання веры.

Такое стаўленне характарызавала ўсё ягонае жыццё. Ён асуджаў не людзей, а толькі іх памылкі. Прамаўляючы словы любові і братэрства, імі ён разбройваў ворагаў і атрымліваў для Касцёла тое, чаго іншыя не маглі дамагчыся анафемамі. Чытаючы адзін з праектаў, падрыхтаваных для абмеркавання на Саборы, ён злаваўся: «Гляньце, у гэтай схеме 30 сантыметраў абвінавачванняў!», і тлумачыў: «Касцёл жадае сёння карыстацца бранёю міласэрнасці, а не суровасці».

### «Касцёл — гэта не музей…»

Папа сыходзіў з прынцыпа, што прадстаўнікі Касцёла не павінны «замыкацца ў вежы», стаўячыся да веры як да прадмета сузірання, як да схаванага скарбу. «Касцёл — не археалагічны музей», — пераконваў ён. Гэта хутчэй грамадскі калодзеж, да якога людзі спрадвеку прыходзяць чэрпаць ваду. Яго задача — усім даваць гэтую ваду. Ён выкарыстоўваў і іншае параўнанне: «Мы жывём на зямлі для таго, каб працаваць у квітнеючым жыццём садзе, якому абяцаная слаўная будучыня».



Ад Сабору ён чакаў, каб быў здзьмухнуты «імперскі пыл, які сабраўся на Пасадзе святога Пятра з часоў Канстанціна». «Мяне апранаюць, як персідскага сатрапа», — скардзіўся Папа. Ён цярпець не мог, каб яго насілі ў *sedia gestatoria* («гэта самы нязручны фатэль з усіх, што я ведаю»), і не выносіў вялізных вееpaў, якімі яго абмахвалі, запазычыўшы гэтую традыцыю яшчэ ад фараонаў. У сямейным коле ён уздыхаў: «Праўду кажа наш Юзаф, звяртаючыся да свайго брата-Папы, што той — вязень раскошы». Калі ж у яго пыталіся, чым ён хацеў бы займацца пасля заканчэння Сабору, Ян XXIII адказваў, што марыць «цэлымі днямі працаваць у полі разам з братамі». Ён быў здольны таксама заўважаць «зморшчыны» на абліччы Касцёла: «Як прыкра, — гаварыў Папа італьянскім ксяндзам, — жыць з некаторымі братамі ў святарстве, якія заўжды кажуць толькі пра знешнія формы святарскага служэння, у якіх цяжка выкараніць з сэрцаў непрыхаванае і нясціплае жаданне і пошукі ўзнагароды і прызнання, якія прывыклі гаварыць пра ўсё ў змрочных фарбах, рыхтуючы сабе заўчасную нудную і панурую старасць». Неаднойчы тэксты папскіх прамоваў друкаваліся ў «*L'Osservatore Romano*» парэзанымі і цэнзураванымі прэлатамі, перакананымі ў дасканаласці Касцёла. Папская адкрытасць у адносінах да краінаў камуністычнага блоку не заўжды прымалася Рымскай курыяй. Пра сустрэчу Яна XXIII з зяцем савецкага кіраўніка Мікіты Хрушчова Аляксеем Аджубеем ватыканская газета інфармавала толькі праз нейкі час пасля сустрэчы.

**«З'яднаймася!»**

Другою важнаю задумаю папы Яна XXIII было жаданне паяднаць хрысціянаў. Таму на пасяджэнні Сабору ў якасці назіральнікаў былі запрошаныя прадстаўнікі іншых веравызнанняў, якія, не маючы права голасу, маглі выказваць сваё меркаванне. Вядома, напрыклад, што брат Ражэ Шульц і брат Макс Турыян з супольнасці Тэзэ зрабілі ўнёсак у канчатковую рэдакцыю трох з шаснаццаці дакументаў Сабору.

Ідэя еднасці была настолькі дарагая сэрцу Папы, што, паміраючы, ён паўтараў: «*Ut unum sint* — каб усе былі адно...». Аднак гэтую еднасць ён разумеў традыцыйна, жадаючы, каб іншыя хрысціяне навярнуліся да Каталіцкага Касцёла. З іншага боку, ён прызнаваў віну католікаў ва ўзнікненні падзелаў. Таму Ян XXIII заахвочваў не спрачацца аб тым, на чыім баку праўда, а проста паціснуць адзін аднаму рукі ў жэсце паяднання.

**«Мае валізы спакаваныя...»**

«Гэты ложак — алтар. А алтару патрэбная ахвяра. Я гатовы», — казаў Папа ў час агоніі. «Мае валізы спакаваныя. Калі настане момант адысці, я не буду затрымлівацца», — запэўніваў ён. Нават моцна пакутуючы, Папа клапаціўся пра іншых. «Калі ўсё ўжо скончыцца, не забудзься з'ездзіць да сваёй маці», — прасіў ён свайго сакратара, ксяндза Лорыса Капавілью.

«Лагода, дабрыня, любоў» — такое пасланне ён пакінуў Касцёлу і свету ў сваім тэстамэнце. Паводле словаў Папы, ён жадаў застацца ў памяці чалавекам, які не будаваў муры падзелаў і недаверу, не засмучаў несмяротныя душы, сеючы ў іх падазронасць і страх, чалавекам шчырым, цярпімым і даверлівым, які з братэрскай сімпатыяй глядзеў нават на тых, хто не падзяляў ягоных поглядаў. Менавіта такога Папу аплакваў увесь свет. Менавіта такога чалавека 3 верасня 2000 года папа Ян Павел II абвясціў благаслаўлёным.

5 ліпеня 2013 года папа Францішак зрабіў выключэнне і згадзіўся кананізаваць папу Яна XXIII без пацверджанага цуду аздараўлення пры яго заступніцтве. Ён прызнаў цуд, выбраны для беатыфікацыі ў 2000 годзе. 30 верасня падчас кансісторыя ён прызначыў дату супольнай кананізацыі з благаслаўлёным Янам Паўлам II на 27 красавіка 2014 года, у нядзелю Божай Міласэрнасці.

*Падрыхтавала Юлія Шэдзько.*

*Паводле KAI: http://ekai.pl/wydarzenia/temat_dnia/x67585/jan-xxiii-dobry-papiez-jan/*



# «СПАКОЙ ПАКІДАЮ ВАМ...»

## Урыўкі з энцыклікі папы Яна XXIII *PACEM IN TERRIS* аб будаванні агульнага супакою ў праўдзе, справядлівасці, любові і свабодзе

(11 красавіка 1963 года)

<...> Для таго, каб грамадства называлася добра ўладжаным, творчым, адпаведным чалавечай годнасці, яно павінна быць заснаванае на праўдзе: «Дзеля таго адкіньце падман, гаварыце праўду кожны свайму бліжняму, бо мы – часткі адзін аднаго» (Эф 4, 25). Так і будзе, калі кожны чалавек шчыра прызнае свае ўласныя правы і абавязкі перад іншымі людзьмі.

Чалавечае грамадства, такое, якім мы малюем яго тут, павінна кіравацца справядлівасцю, паважаць правы і абавязкі іншых людзей. Гэта патрабуе таксама, каб у людзях жыла такая любоў, якая змусіць іх адчуваць патрэбы іншых як свае ўласныя і натхняць іх дзяліцца сваімі дабротамі з іншымі людзьмі ды імкнуцца ўчыніць усіх спадкаемцамі найбольш пачэсных інтэлектуальных і духоўных каштоўнасцяў. Але і гэтага недастаткова, бо чалавечае грамадства ўзрастае і квітнее на глебе свабоды, а менавіта — на ўжыванні сродкаў, суадносных з годнасцю асобных яго членаў, якія, матываваныя імі, бяруць на сябе адказнасць за ўласныя ўчынкі.

І таму, найдаражэйшыя сыны і браты, мы павінны разглядаць чалавечае грамадства, абапіраючыся, перш за ўсё, на духоўную рэальнасць. З яе дапамогаю, атрымаўшы асвету, людзі могуць дзяліцца сваімі ведамі аб праўдзе, заяўляць аб сваіх правах і выконваць абавязкі, быць падтрыманымі ў спадзяваннях на духоўныя даброты, дзяліцца радасцю ад усіх карысных пацехаў, якія можа даць свет, і няспынна імкнуцца аддаваць іншым усё лепшае, што ў іх ёсць, адначасова засвойваючы духоўныя багацці іншых людзей. Менавіта гэтыя духоўныя каштоўнасці маюць найбольшы ўплыў на культуру, эканоміку, грамадскія інстытуты, палітычныя рухі і супольнасці, законы і іншыя кампаненты, з якіх складаецца супольнасць людзей і іх няспыннае развіццё.

*Спалучэнне веры і ўчынкаў*

Сёння ў традыцыйна хрысціянскіх краінах свецкія інстытуцыі дэманструюць высокую ступень навуковага і тэхнічнага прагрэсу і валодаюць мноствам разнастайных механізмаў для дасягнення ўсіх магчымых мэтаў. Але трэба прызнаць, што найчасцей гэтыя інстытуцыі не кіруюцца ні хрысціянскімі матывамі, ні хрысціянскім духам.

Можна задаць сабе пытанне, чаму так адбываецца, бо людзі, якія зрабілі — і ўсё яшчэ робяць — вялікі ўнёсак у стварэнне гэтых інстытуцый, з'яўляюцца хрысціянамі і жывуць, прынамсі часткова, у адпаведнасці з евангельскімі прадпісаннямі. Мы лічым, што гэта можа быць растлумачана пэўным разладам паміж вераю і ўчынкамі. Неабходна аднавіць іх унутраную духоўную еднасць так, каб вера сталася святлом і любоўю, рухавіком учынкаў.

*Памылка і чалавек, які памыляецца*

У любым выпадку будзе найбольш справядлівым размяжоўваць памылку саму па сабе і чалавека, які робіць гэтую памылку, нават тады, калі ён грашыць супраць праўды або сыходзіць з вернага шляху ў выніку недастатковых ведаў у пытаннях рэлігіі або найвышэйшых этычных законаў. Чалавек, які памыліўся, не перастае быць чалавекам. Ён ніколі не страчвае сваёй чалавечай годнасці, і заўжды існуе нешта, што трэба браць пад увагу. Апроч іншага, у самой чалавечай натуры заўжды існуе здольнасць прабіцца праз бар'еры памылкі і шукаць шляху да праўды. Бог у сваім вялікім Провідзе заўжды аказвае чалавеку сваю дапамогу. Магчыма, сёння ў чалавеку замала веры, і ён робіць памылку. Магчыма, заўтра, асветлены Божым святлом, ён дасягне праўды.

Каталікі, якія дзеля таго, каб дасягнуць агульнага дабра, працуюць супольна з няверуючымі або з людзьмі, якім не хапае паўнаты веры ў Хрыста, могуць стварыць такую магчымасць і нават паспрыяць іх навяртанню да праўды.

*Вялікае заданне*

Таму сярод вельмі сур'ёзных абавязкаў, ускладзеных на людзей з высокімі прынцыпамі, мы павінны адзначыць задачу будавання ў чалавечым грамадстве новых адносінаў, якія кіраваліся б праўдаю, справядлівасцю, любоўю і свабодаю — адносінаў паміж грамадзянамі, паміж грамадзянамі і іх паважанымі дзяржавамі, паміж рознымі краінамі і, урэшце, паміж асобнымі людзьмі, сем'ямі, арганізацыямі-пасярэднікамі і дзяржавамі з аднаго боку і супольнасцю ўсяго свету — з іншага. З упэўненасцю можна сказаць, што не знойдзецца нікога, хто не палічыў бы гэта найбольш пачэснаю задачаю, бо менавіта гэтая задача дапаможа дасягнуць сапраўднага супакою ў адпаведнасці з наладжаным Богам парадкам.

Улічваючы існуючую патрэбу, людзей, якія нясуць на сабе гэтую адказнасць, занадта мала, таму яны вартыя найбольшага прызнання з боку грамадства, і мы справядліва ўхваляем іх. Мы заклікаем іх заставацца вернымі іх ідэалам, што прыносяць такую вялікую карысць чалавецтву. Адначасова мы маем надзею, што ўсё больш людзей, асабліва хрысціянаў, далучыцца да іх, інспіраваныя іх любоўю і тым, як яны выконваюць свой абавязак. Кожны, хто далучыўся да кола хрысціянаў, павінен быцьззяючаю кропкаю святла ў свеце, ядром любові, закваскаю для ўсяго цеста. І гэта будзе суадносным з мераю яго духоўнай еднасці з Богам.

Свет ніколі не стане месцам, дзе жыве спакой, пакуль спакой не паселіцца ў сэрцы кожнага чалавека, пакуль кожны чалавек не будзе захоўваць у сабе парадак, наладжаны Богам. Менавіта таму святы Аўгустын задае пытанне: «Ці жадае твой розум атрымаць моц, каб кіраваць тваімі пачуццямі? Дазволь яму падпарадкавацца большай моцы, і яна пакірує ўсім ніжэйшым за сябе. І супакой будзе жыць у табе — сапраўдны, трывалы, найбольш уладжаны супакой. Што гэта за парадак? Бог, які кіруе розумам, розум, які кіруе целам. Няма большага парадку» (св. Аўгустын, *Sermones post Maurinos reperti*, Рым, 1930, с. 633). <...>

Мы <...> лічым сваім абавязкам прысвячаць усе думкі, клопаты і энергію распаўсюджванню гэтага агульначалавечага дабра. Але супакой застанецца толькі пустым словам, калі не будзе заснаваны на парадку, што мы імкнуліся падкрэсліць у гэтай энцыкліцы. Гэта парадак, пабудаваны на праўдзе і справядлівасці, спажыткам і духам якога з'яўляецца любоў, і які ажыццяўляецца пад апекаю свабоды.

Гэтая мэта такая велічная і ўзвышаная, што адны чалавечыя магчымасці, нават калі яны інспіруюцца самаю ўхвальнаю добраю воляю, не здольныя прывесці да яе дасягнення. Сам Бог павінен прыйсці на дапамогу чалавеку са сваёю нябеснаю падтрымкаю, каб чалавечае грамадства стала як мага больш падобным да Божага Валадарства.

Такім чынам, сам парадак рэчаў патрабуе, каб у гэты святы час мы шчыра маліліся Таму, хто сваімі цяжкімі мукамі і смерцю змыў чалавечыя грахі — крыніцу разладу, беднасці і няроўнасці; Таму, хто праліў сваю кроў, каб прымірыць чалавецтва з Нябесным Айцом, і адарыў нас супакоем. «Ён — спакой наш, які ўчыніў адно і другое адзіным... І, прыйшоўшы, Ён абвясціў спакой вам, якія далёка, і спакой тым, якія блізка» (Эф 2, 14. 17).

У гэтыя дні святая літургія рэхам паўтарае гэтыя ж словы: «Наш Пан Езус Хрыстус пасля свайго уваскрасення стаў сярод сваіх вучняў і сказаў: Няхай супакой будзе з вамі, аллелюя. Вучні ўзрадаваліся, убачыўшы Пана» (рэспансорый у Ютрані, дзень шосты ў Актаве Пасхі). Гэта Хрыстус прынёс нам спакой: «Спакой пакідаю вам, спакой Мой даю вам. Не так, як дае свет, Я вам даю» (Ян 14, 27).

Таму давайце ж палымяна маліцца аб гэтым супакоі, які наш боскі Адкупіцель прынёс нам у сваім прыйсці. Няхай Ён выдаліць з чалавечых душаў усё, што можа пагражаць супакою. Няхай Ён учыніць усіх людзей сведкамі праўды, справядлівасці і братэрскай любові. Няхай сваім святлом Ён асветліць розум кіраўнікоў, каб яны, апроч клопату пра адпаведны матэрыяльны дабрабыт свайго народа, таксама далі яму гарантыю найлепшага дару — супакою.

І ўрэшце, няхай Хрыстус распаліць ва ўсіх людзях жаданне прабіцца праз бар'еры, якія падзяляюць іх, умацаваць сувязі ўзаемнай любові, навучыцца разумець адзін аднаго і прабачаць тым, хто прычыніў ім злое. Няхай праз Яго моц і натхненне ўсе народы сардэчна вітаюць і прымаюць адзін аднаго як братоў, і няхай супакой, якога яны прагнуць, назаўжды расквітнее і запануе сярод іх.

*Пераклад з англійскай мовы Юліі Шэдзько.*

*Паводле матэрыялаў http://www.vatican.va.*

# Тэстамэнт Яна XXIII

У хвіліну, калі я павінен стаць перад Богам, адзіным у Святой Тройцы, які стварыў і адкупіў мяне, пажадаў мець мяне сваім святаром і біскупам, асыпаў мяне бясконцымі ласкамі, давяраю маю бедную душу Яго міласэрнасці. Пакорна прашу Яго прабачыць мае грахі і правіны. Ахвярую Яму тую крышынку дабра, няхай сабе недасканалага і слабога, якое з Яго дапамогаю я здолеў учыніць на Яго хвалу, дзеля дабра святога Касцёла, для супольнасці маіх братоў, просячы Яго, добрага і любячага Айца, прыняць мяне ў кола сваіх святых у благаслаўлёнай вечнасці.

Я прагну яшчэ раз вызнаць усю маю хрысціянскую каталіцкую веру, маю прыналежнасць і падданасць святому Касцёлу, апостальскаму і рымскаму. Я маю цалкавіты давер і паслухмянасць яго Годнаму Галаве і Найвышэйшаму Пастыру, прадстаўніком якога я меў гонар быць на працягу доўгіх гадоў у розных краінах Усходу і Захаду, які ўрэшце пажадаў мець мяне ў Венецыі як кардынала і патрыярха, і якому я заўжды адказваў сваёй шчырай любоўю, незалежна ад усіх даброт, якімі Ён адорваў мяне. Пачуццё ўласнай мізэрнасці і нікчэмнасці спадарожнічала мне ўсё жыццё, трымаючы ў пакоры і душэўным спакоі, адорваючы мяне радасцю, што вынікала з бесперастаннага практыкавання, у меру маіх магчымасцяў, паслухмянасці, любові да душаў і справаў Валадарства Хрыста, майго Пана, які з'яўляецца для мяне ўсім. Яму ўся хвала, бо мае заслугі — толькі з Яго міласэрнасці. Заглуга мая — міласэрнасць Пана. «Пане, Ты ўсё ведаеш, Ты ведаеш, што я люблю Цябе» (Ян 21, 17). Дастаткова аднаго гэтага.

Прашу прабачэння ва ўсіх тых, каго мог несвядома абразіць, і ў тых, для каго не стаў станоўчым прыкладам. Са свайго боку не маю каму прабачаць, бо ва ўсіх людзях, якіх я ведаў і да якіх меў дачыненне, нават калі яны абражалі мяне, пагарджалі мною, ставіліся да мяне несур'ёзна (што, зрэшты, цалкам слушна) або сталі прычынаю майго смутку, я бачу толькі братоў і дабрачынцаў, я ўдзячны ім, малюся і буду маліцца за іх.

Я нарадзіўся ў нястачы, але паходжу з годнай і сціплай сям'і і вельмі шчаслівы, што паміраю ў бядоце, раздаўшы, адпаведна з патрэбамі і абставінамі майго простага і сціплага жыцця, дзеля дабра бедных і святога Касцёла, які мяне сілкаваў, усё, што трапіла мне ў рукі ў гады майго святарства і біскупства, хоць гэтага было вельмі няшмат.

За знешняй бачнасцю забяспечанасці часта хавалася церне пакутлівага ўбоства, што заўжды перашкаджала мне аддаваць з такою шчодрасцю, як я гэтага хацеў. Дзякуй Богу за гэтую ласку ўбоства, шлюб якога я склаў у маладосці: убоства духоўнага як святара Сэрца Божага і ўбоства матэрыяльнага, што дапамагло мне ніколі нічога не прасіць — ні пасадаў, ні грошай, ні прыхільнасці для сябе ці для маіх сваякоў і сяброў.

Маёй улюбёнай сям'і «паводле крыві», ад якой я, зрэшты, не атрымаў аніякіх матэрыяльных даброт, я магу пакінуць толькі вялікае асаблівае благаслаўленне разам з заахвочваннем трываць у той боязі Божай, дзякуючы якой мая сям'я, простая і сціплая, заўжды была мне такою дарагою і любаю, і якой я ніколі не саромеўся, і гэта стала сапраўднаю адзнакаю яе высака-



Урачыстае адкрыццё Другога Ватыканскага Сабору ў базыліцы святога Пятра. 11 кастрычніка 1962 года.

роднасці. Часам я дапамагаў ёй у самых пільных патрэбах, гэтак, як бядак дапамагае бедакам, не пазбаўляючы яе пачэснага і поўнага задавальнення ўбоства. Я малюся і заўжды буду маліцца аб дабрабыце для яе, з радасцю адзначаючы ў яе маладых новых пакаленнях рашучасць і вернасць традыцыі бацькоў, што заўжды будзе яе багаццем. Маё самае гарачае пажаданне — каб усе мае крэўныя і сваякі канчаткова з'ядналіся ў радаснай вечнасці.

Адыходзячы, як я веру, у неба, перадаю прывітанне, падзяку і благаслаўленне ўсім тым, хто стаў маёю духоўнаю сям'ёю ў Бергама, Рыме, на Усходзе, у Францыі, у Венецыі; тым, хто жыў са мною побач, маім дабрачынцам, калегам, вучням, падначаленым, сябрам і знаёмым, святарам і свецкім, манахам і манахіням, для якіх па волі Божага Провіду я быў, нягледзячы на ўласную нявартасць, братам, айцом або пастырам.

Дабрыня, з якою ставіліся да маёй беднай асобы ўсе тыя, каго я сустрэў на сваім шляху, зрабіла маё жыццё цудоўным. Перад абліччам смерці я ўзгадваю ўсіх і кожнага паасобку з тых, хто апярэдзіў мяне ў гэтым апошнім пераходзе, і тых, хто перажыве мяне і пойдзе за мною. Няхай яны моляцца за мяне. Я ж аддзячу ім з чыстца або з неба, дзе, спадзяюся, я буду прыняты, паўтару яшчэ раз, не за ўласныя заслугі, а дзякуючы міласэрнасці майго Пана.

Пра ўсіх я памятаю і за ўсіх буду маліцца. Але хачу асабліва назваць маіх дзяцей з Венецыі, апошніх, якімі Пан акружыў мяне на вялікае суцяшэнне і радасць майго святарскага жыцця, і да якіх я стаўлюся з захапленнем, удзячнасцю і асабліваю пяшчотаю. Усіх я абдымаю ў духу, усіх духоўных і свецкіх асобаў, без аніякай розніцы, гэтак, як без аніякай розніцы любіў іх, членаў адной і той жа сям'і, прадмет аднаго і таго ж клопату, айцоўскай і святарскай любові. «Ойча святы, захавай іх у імені Тваім, якое Ты даў Мне, каб яны былі адно, як і Мы» (Ян 17, 11).

У час расстання або, хутчэй, развітваючыся словамі «да пабачэння», я яшчэ раз нагадваю ўсім, што маю найбольшую каштоўнасць у жыцці — гэта Езус Хрыстус, Яго святы Касцёл, Яго Евангелле, а ў Евангеллі перадусім «Ойча наш» у духу і ў Сэрцы Езуса, а з Евангелля — праўда і дабрыня, дабрыня лагодная і зычлівая, дзейсная і цярплівая, непераможная і трымфуючая.

Дзеці мае, браты мае, да пабачэння. У імя Айца, Сына і Духа Святога. У імя Езуса, нашай любові; Марыі, нашай і Яго Наймілейшай Маці; святога Юзафа, майго першага і найдаражэйшага апекуна; у імя святога Пятра, святога Яна Хрысціцеля і святога Марка, святога Лаўрэнція Юстыніяна і святога Пія Х. Амэн.

*Венецыя, 29 чэрвеня 1954 года.*

*Кардынал Анджэла Джузэпэ Ранкаллі, патрыярх Венецыі.*



Рэліквіі папы Яна XXIII у базыліцы святога Пятра ў Рыме.

Гэтыя старонкі напісаныя мною як ўвасабленне маёй непасрэднай волі ў выпадку маёй неспадзяванай смерці.

*Венецыя, 17 верасня 1957 года.*

*Кардынал Анджэла Джузэпэ Ранкаллі.*

І захоўваюць сваю моц як духоўны тэстамэнт, які трэба далучыць да распараджэнняў, сабраных тут з дня 30 красавіка 1959 года.

*Рым, 4 снежня 1959 года.*

*Ян XXIII, папа.*

Пераклад з польскай мовы Юліі Шэдзько.
Паводле: «*Nasza Rodzina*», №6 (381), 1976.

# Месца для кожнага




Апошнія тыдні жыцця Яна Паўла ІІ былі для вернікаў асаблівым часам — мы не проста сталі сведкамі моцнага цярпення дарагога нам Святога Айца, але і атрымалі мудры, глыбокі прыклад даверу да Бога і людзей. Сёння, праз дзевяць гадоў пасля адыходу Вялікага Папы ў вечнасць, пра гэта пранікнёна распавядаецца ў адным з раздзелаў кнігі «Месца для кожнага: Аповед пра святасць Яна Паўла ІІ». Аповед гэты адметны сваёй мастацкаю формаю: журналістка Брыгіда Грысяк вядзе ў ім гутарку з арцыбіскупам Мечыславам Макшыцкім, былым сакратаром Яна Паўла ІІ (цяпер Мітрапалітам Львоўскім, старшынёю Канферэнцыі Біскупаў Украіны). Разважанні, успаміны і заўвагі арцыбіскупа арганічна ўведзеныя ў плынь аповеду спадарыні Брыгіды і паказваюць нам штодзённае жыццё ў папскіх апартаментах, так бы мовіць, зблізку. *«Я ніколі не сумняваўся, што служу святому,* — піша арцыбіскуп Макшыцкі ў прадмове да кнігі. — *З'яўляючыся другім сакратаром Яна Паўла ІІ на працягу апошніх дзевяці гадоў яго жыцця, я бачыў яго святасць зблізку. Бачыў, як ён жыў Богам. Як распачынаў дзень, лежачы крыжам на падлозе спальні, і як заканчваў „Яснагурскім заклікам“. Ён маліўся за кожнага, каго сустрэў. Перад сустрэчаю і пасля сустрэчы. Калі хтосьці з нас, дамачадцаў, меў нейкую праблему, ён паўтараў: „Будзем маліцца“. Малітва была зместам яго жыцця. І лекам ад усялякага зла. Ён ніколі не расставаўся з ружанцам. Свае клопаты заносіў на тэрасу папскіх апартаментаў. Там ён праходзіў Крыжовы шлях разам з Хрыстом. Стацыя за стацыяй. Падчас працы над пятай стацыяй мастак меў візію і замест Сымона Кірынэйца зрабіў скульптуру Яна Паўла ІІ. Якім жа сімвалічным быў гэты Крыжовы шлях на папскай тэрасе! Святы Айцец дапамагаў Езусу несці крыж. Цяпер я думаю, што такім было ўсё яго святое жыццё. Ён усё жыццё нёс гэты крыж разам з Хрыстом. Усё жыццё. Кожны дзень».*

Асноўная ўвага ў кнізе «Месца для кожнага» ўдзяляецца аповеду пра тое, як у папскіх апартаментах вялася падрыхтоўка да святаў Божага Нараджэння і Вялікадня і як адзначаліся гэтыя важныя літургічныя даты. Прапануем вам, шаноўныя чытачы, раздзел з гэтае кнігі, прысвечаны ўспамінам пра апошні Вялікі пост і Вялікдзень Яна Паўла ІІ, апошнім тыдням яго жыцця. *«Сваім жыццём, цярпеннем і смерцю ён напісаў найлепшую энцыкліку,* — гаворыць у прадмове арцыбіскуп Макшыцкі. — *Ніводная іншая энцыкліка не мела такой моцы. Ніводная іншая энцыкліка не прывяла б да Бога столькі людзей. Тое, як ён жыў і паміраў на вачах усяго свету, было доказам яго любові да нас. Доказам даверу і вялікай мудрасці. Ён ведаў, як шмат сярод нас ёсць няверных «тамашаў». Ведаў, што мы не паверым, пакуль не ўбачым. Што ў слабасці — сіла. Што не трэба гаварыць, каб сказаць больш, чым калі-небудзь раней. Што можна і варта любіць тых, хто нас ненавідзіць. І прабачаць тым, хто хацеў нас забіць. Урэшце, што варта жыць Хрыстом і варта даверыцца Яго Маці. Тады не будзе трагедыі, з якой бы чалавек не мог узняцца. І болю, якога нельга было б вынесці. Тады з усялякага цярпення народзіцца якое-небудзь дабро. Яго цярпенне навяртала людзей. Я бачыў гэта. Быў сведкам яго святасці».*

Станем жа і мы, чытачы, сведкамі святасці Яна Паўла ІІ, кананізацыя якога неўзабаве прынясе новую радасць у наш свет, поўны мітусні і няспынных пошукаў Бога, сумненняў і штодзённых змаганняў за паўнату нашай веры.

*Рэд.*

# АПОВЕД ПРА СВЯТАСЦЬ ЯНА ПАЎЛА II

## *Апошні Вялікдзень, або Апошняя энцыкліка, напісаная цярпеннем і смерцю*

Апошняга Вялікадня ў папскіх апартаментах арцыбіскуп Макшыцкі не забудзе ніколі. Папа пачаў горш сябе адчуваць ужо за некалькі дзён да пачатку Вялікага посту. *«Быў першы дзень лютага,* — успамінае арцыбіскуп. — *Святы Айцец скардзіўся, што не можа глытаць сліну, што яму балюча. А ён вельмі рэдка на што-небудзь скардзіўся, дакладней, амаль зусім не скардзіўся, таму мы ведалі, што справа, хутчэй за ўсё, сур'ёзная».* Вечарам яму перастала хапаць паветра. Паехалі ў шпіталь. Дыягназ: запаленне гартані і трахеі. Арцыбіскуп успамінае, што Папа не мог дыхаць. *«Было цяжка,* — гаворыць былы сакратар. — *Але потым ён атрымаў лекі, і яму станавілася ўсё лягчэй. Далейшыя абследаванні пацвярджалі, што стан здароўя паляпшаецца. Святы Айцец пачаў есці, хоць раней не мог. І калі прыйшла нядзеля, на „Анёл Панскі“ ён выйшаў да вакна клінікі Джэмэллі. Гаварыў вельмі слабым і ціхім голасам. Але ўдзяліў вернікам благаслаўленне, падзякаваў за малітву. Памятаю, як ён яшчэ сказаў, што нават у шпіталі не перастае служыць Касцёлу і чалавецтву. Нібы ён хацеў сказаць свету: я яшчэ не памёр, я тут, я думаю пра вас. Я тут, я малюся за вас».* А потым стаяў у гэтым вакне і доўга глядзеў на людзей, якія перад клінікаю маліліся разам з ім.

Папяльцовую сераду яны прычакалі ў клініцы Джэмэллі. Быў дзявяты дзень лютага. Арцыбіскуп Макшыцкі ўспамінае святую Імшу каля шпітальнага ложка. І тое, як кардынал Дзівіш пасыпаў Папу галаву попелам. Праз некалькі гадоў былы сакратар пачаў бачыць у гэтым сімвал. Апошні Вялікі пост Яна Паўла II на зямлі пачаўся ў хваробе. *«Ты — прах і ў прах вернешся...* — Арцыбіскуп задумваецца. І распавядае далей. — *Ён цярпеў. Бо і хвароба Паркінсона давалася ў знакі. Не ведаю, ці адчуваў ужо Святы Айцец, што яго чакае апошняя Вялікая пятніца, апошні Вялікдзень. Не ведаю. Ён ніколі не казаў. Можа, толькі камусьці з блізкіх. Бліжэйшаму, чым сакратары. У нас жа былі такія думкі. І я таксама думаў, што гэта можа быць наш апошні сумесны Вялікдзень. Што гэта можа ўжо быць канец. Але ўвесь час заставалася надзея, што Святы Айцец пачне лепш сябе адчуваць. Гэтак і было. То лепш, то горш».*

Познім вечарам, яшчэ ў Папяльцовую сераду, яны вярнуліся дадому.

Увесь свет глядзеў на Яна Паўла II, які траціў сілы. Некаторыя гавораць, што ўсё яго жыццё было Вялікім постам. *«Але гэты Вялікі пост быў асаблівы,* — кажа арцыбіскуп Макшыцкі. — *Я глядзеў на яго і бачыў Хрыста, які чакае Галготы. Святы Айцец ужо менш рухаўся. Больш ляжаў. Мы часта маліліся каля яго ложка. Ранішнія Імшы ён цэлебраваў седзячы. Папа не мог доўга стаяць. Па апартаментах мы вазілі яго ў калясцы».* Арцыбіскуп гаворыць, што Ян Павел II ужо не выходзіў на тэрасу. А ён жа гэта так любіў! Ежу для Папы змешвалі міксерам, бо яму было цяжка глытаць. Дапамагалі яму мыцца, апранацца. Для Святога Айца гэта, мабыць, было цяжкім, прыніжальным. *«Ён ніколі не даваў нам гэтага адчуць,* — успамінае былы сакратар. — *Ніколі не скардзіўся. Часам толькі казаў: „У мяне баліць галава“, або: „Гэтая рука мне дакучае“. Дапамогу ён прымаў ахвотна, з удзячнасцю. Ведаў, што дапамога была проста неабходная. Аднак гэта не значыць, што яму было лёгка».* Папа раздражняўся на сябе, калі адчуваў, што сілы яго пакідаюць, што ён не можа зрабіць чагосьці таго, што вельмі хацеў бы зрабіць. Арцыбіскуп Конрад Краеўскі як папскі цырымоніймайстар суправаджаў Яна Паўла II у апошнія гады амаль падчас кожнай літургічнай цэлебрацыі. Ён гаворыць, што слабасць цела Святога Айца не адпавядала вясне ў яго сэрцы. Калісьці арцыбіскуп распавядаў святарам у Кракаве, як цяжка было Папу зрабіць першы крок: *«Тады ён пачынаў стукаць пастаралам аб падлогу. Калі ўдавалася рушыць, казаў: „Ну!“, і, гледзячы на нас, распачынаў працэсію. Але аднойчы яму не ўдалося гэта з першага разу, таму ён паўтарыў папскую працэдуру рушання яшчэ раз, і так эфектыўна, з такім запалам, што гумка, якая засцерагала пастарал знізу, адляцела на некалькі метраў. Тады ўсе маглі ўжо без перашкодаў, з радасцю рушыць у працэсіі!».* Ян Павел II меў гуральскую ўпартасць*, якая не дазваляла яму здацца.

* Гуральская ўпартасць лічыцца рысаю польскіх гураляў — асобнай этнакультурнай групы, характар і звычаі якой сфармаваныя пад уплывам своеасаблівых умоваў жыцця на горных абшарах.

Ён змагаўся са сваёй слабасцю. Змагаўся за кожны крок. А потым — калі яму ўжо цяжка было гаварыць — за кожнае слова. У апошнія тыдні жыцця «запалу», пра які гаварыў арцыбіскуп Краеўскі, ужо не хапала. Ян Павел II станавіўся ўсё слабейшым.

Праз дзень пасля вяртання са шпіталя ён напісаў ліст сястры Люцыі, адной з трох дзяцей, якім у Фаціме аб'явілася Маці Божая. Быў Міжнародны дзень хворых. Аслаблены Папа пісаў паміраючай сяброўцы, што моліцца за яе, каб яна перажывала хвіліны цярпення і ахвяры ў духу Пасхі, якая азначае «пераход». *«Гэтае запэўніванне аб малітве ён даручыў выслаць па факсе, каб сястра Люцыя абавязкова паспела яго прачытаць,* — успамінае арцыбіскуп Макшыцкі. — *І паспела. Біскуп Клету, які знаходзіўся каля яе да самага канца, пацвердзіў потым, што яна прачытала ліст ад Святога Айца. Яны былі вельмі блізкія. І без гэтага факсу яна ведала б, што Папа малітоўна знаходзіцца побач з ёю ў гэтыя апошнія дні. Аднак для Святога Айца было важна, каб яна атрымала гэтае запэўніванне як мага хутчэй»*. Яны былі часткаю аднаго [Божага. — *Заўв. перакл.*] плану. Ужо пасля смерці сястры Люцыі Ян Павел II пісаў у спецыяльным лісце, што заўсёды адчуваў «падтрымку штодзённага дару яе малітвы, асабліва ў цяжкія моманты выпрабаванняў і цярпення». Яна памерла 13 лютага. Праз два дні пасля ліста ад Сябра. Перад смерцю яна казала: «Сэрца Езуса, Беззаганнае Сэрца Марыі. З Францішкам і Гіяцынтаю, і Святым Айцом мы ідзем, ідзем, ідзем...». Было сямнаццаць гадзін дваццаць пяць хвілін. У такі самы час дваццаць чатыры гады таму на плошчы святога Пятра Алі Агджа страляў у Яна Паўла II. Гісторыя апісала кола. *«Провід апісаў кола,* — дадае арцыбіскуп Макшыцкі. — *Святы Айцец ведаў, што сястра Люцыя была часткаю таямніцы, якая захавала яму тады жыццё»*. Яна ведала, што ніхто з іх не дажыве да восемдзесят пятай гадавіны нараджэння Папы. Перад смерцю сястра Люцыя нібыта сказала, што вельмі хацела б дачакацца гэтай даты (18 мая), але ні ёй, ні яму гэта не будзе дадзена. І не было. *«Настала нядзеля. У той дзень, перш чым да нас прыйшла вестка пра смерць сястры Люцыі,* — распавядае арцыбіскуп Макшыцкі, — *Святы Айцец хацеў прывітаць вернікаў на плошчы святога Пятра, але быў не ў стане. Не мог гаварыць. Ён прыняў гэта вельмі блізка да сэрца. Не меў сілаў»*. Былы папскі сакратар распавядае, як у Вялікім посце жыццё ў папскіх апартаментах працякала ад крызісу да крызісу. *«Былі дні лепшыя і горшыя,* — кажа ён. — *Але кожны з нас жыў з думкаю, што нешта скончылася. І што пачаўся новы час. Складаны час»*. Што пачаўся Вялікі пост Яна Паўла II. Вялікі пост яго Пантыфікату. *«Мы вельмі сачылі за тым, каб ён прымаў лекі, каб неператамляўся,* — успамінае арцыбіскуп. — *Дактары раілі яму больш адпачываць. Святы Айцец пакорна выконваў іх парады, хоць, напэўна, яшчэ некалькі гадоў таму нічога з гэтага не выконваў бы,* — усміхаецца арцыбіскуп. — *Колькі разоў было так, што дактары гаварылі яму не ператамляцца, а ён усё роўна ішоў да людзей. Тое, як ён жыў і выконваў сваё служэнне ў апошнія гады, было звыш яго сілаў. Гэта было б звыш сілаў кожнага здаровага чалавека ў яго ўзросце. А ён жа быў вельмі зняможаны»*.

Арцыбіскуп успамінае, што праз тыдзень Ян Павел II зноў адчуў сябе лепей. Настолькі добра, каб праводзіць малітву «Анёл Панскі». *«Мы думалі, што крызіс ужо мінуў,* — гаворыць арцыбіскуп. — *Што цяпер ужо будзе лепей. Так здавалася. Ён быў мацнейшы, больш радасны. Сам, напэўна, таксама адчуваў, што да яго вяртаюцца сілы. І цешыўся гэтаму»*. Аднак радасць працягвалася нядоўга. Да серады. *«Святы Айцец прамаўляў з бібліятэкі падчас агульнай аўдыенцыі,* — гаворыць арцыбіскуп. — *У зале Паўла VI былі святлодыёдныя экраны. І натоўпы вернікаў. Папа прывітаў палякаў і заклікаў адкрыць сэрцы на шчырае і глыбокае навяртанне. Я памятаю гэта. А вечарам — прыступ. Нейкія сутаргі. Кардынал Яворскі ўдзяліў Святому Айцу намашчэнне хворых. Цяжка было на гэта глядзець. А Святы Айцец, як звычайна, быў спакойны. Прыехаў доктар Бучанецці і сказаў, што трэба ехаць у шпіталь на абследаванне»*. Раніцаю было лепш. А потым зноў горш. Сутаргі вярнуліся. Папа не мог дыхаць. Хутка было прынятае рашэнне, што трэба ехаць у шпіталь. Паехалі ў клініку Джэмэллі. *«Дактары адразу сказалі, што трэба аперыраваць,* — успамінае былы папскі сакратар. — *Гэта з-за хваробы Паркінсона, якая ўзмацняла прыступы. Так нам тлумачылі. У лёгкіх збіралася вадкасць. Святы Айцец ужо не мог кантраляваць мышцаў, якія ўдзельнічаюць у глытанні»*. Быў чацвер, 24 лютага. Як гаворыць арцыбіскуп, Ян Павел II не жадаў аперацыі. *«Ён хацеў адкласці яе да лета,* — успамінае Мечыслаў Макшыцкі. — *Не гаварыў, чаму. Прасіў адкласці на гэтыя некалькі месяцаў. Можа, ён меў надзею, што яшчэ ўдасца...»*. Але дактары не сумняваліся, што чакаць нельга. Яны пераконвалі і сакратароў, і Папу ў тым, што аперыраваць трэба неадкладна. Гутарка ішла пра трахеатамію. *«Урэшце і мы пачалі пераконваць Святога Айца,* — гаворыць арцыбіскуп Макшыцкі. — *Мы яго вельмі прасілі. І ўрэшце ён згадзіўся. Хацеў толькі ведаць, ці вернецца да яго пасля аперацыі голас. Мы абяцалі яму, што голас вернецца — як і запэўнівалі дактары — і яны будуць рабіць усё, што ў іх сілах, каб так і было. Гэта яго супакоіла. Аперацыю, як і ўсё сваё жыццё, ён даверыў Марыі.*

*З клінікі Джэмэллі ізноў у час Вялікага посту сыходзіць пасланне любові, якую Святы Айцец*

*перажывае і аб якой сведчыць у еднасці з Хрыстом і Касцёлам».* «Ложак пакутаў становіцца катэдраю жыцця», — пісалі ў «L'osservatore Romano».

Пасля аперацыі аказалася, што Ян Павел II не можа гаварыць. Ён вельмі перажываў з-за гэтага. Жадаў штосьці сказаць, але не мог. Жэстам папрасіў лісток паперы і асадку. Напісаў штосьці, што скаланула арцыбіскупа. *«Ён напісаў: „Што вы са мною зрабілі? Але totus Tuus“,* — успамінае былы сакратар. — *Спачатку я падумаў, што Святы Айцец пакрыўджаны на нас. Мы ж яму абяцалі, што ён будзе гаварыць. А цяпер ён не можа гаварыць. Мне было вельмі прыкра. Але я паглядзеў на гэты запіс яшчэ раз і толькі тады яго зразумеў.* „Totus Tuus“ *мне ўсё растлумачыла. Святы Айцец, як заўсёды, давяраў Пану Богу. І аддаваўся Яму цалкам. Гэты лісток паперы быў яшчэ адным доказам яго даверу. Я быў вельмі ўзрушаны, бо бачыў, як ён пакутаваў. Ён не мог есці. Пасціў разам з Хрыстом. Сёння я так пра гэта думаю. Гэтая сімволіка бянтэжыць. З кожным днём яе было ўсё больш. І адчувалася блізкасць Святога Айца да Хрыста, які рыхтаваўся да Вялікага тыдня, да сваёй мукі і смерці. Я адчуваў гэта мацней, чым калі-небудзь раней».* Пасля аперацыі яны маліліся разам. Каля ложка Папы цэлебравалі святую Імшу. Арцыбіскуп распавядае, як Папа зноў вучыўся есці. *«У яго ў трахеі стаяла трубка. Яму было вельмі балюча, але ён не скардзіўся,* — успамінае былы сакратар. — *Толькі рукою паказваў на тую рану, на тое месца, дзе была аперацыя. Відаць было, што ён пакутуе. Не мог ні есці, ні гаварыць. Нават з адкашліваннем былі праблемы. Мы рэзалі для яго ежу на малюсенькія кавалачкі, але і гэта не дапамагала. Гэта была трагедыя. Мы перамешвалі прадукты міксерам, але нават так яму не заўсёды ўдавалася праглынуць. Ён жахліва мучыўся, задыхаўся, але спрабаваў далей. Не пратэставаў. У гэтым было шмат пакоры».* Ён пакорна прасіў таксама аб малітве, як у разважаннях перад малітваю «Анёл Панскі» ў нядзелю 27 лютага: «Прашу вас, каб вы і далей падтрымлівалі мяне перш за ўсё сваёю малітваю», — напісаў Святы Айцец. Яго словы зачытаў арцыбіскуп Леанарда Сандры. Арцыбіскуп Макшыцкі ўспамінае, што гэтыя разважанні былі асабліва хвалюючыя. У іх была ўся праўда пра сэнс цярпення. Хрыстовага і таго, што закранае кожнага з нас. Таго, што закранула Яна Паўла II. *«Гэта вельмі ўзрушвала,* — успамінае арцыбіскуп. — *Папа, які ў дадзены момант страціў голас і вельмі пакутуе, тлумачыць мноству людзей, якія моляцца за яго здароўе, чаму гэтае цярпенне мае сэнс. Чаму цярпенне Хрыста мела сэнс. Святы Айцец рыхтаваў нас да апошняга супольнага Вялікадня. Сёння я так гэта разумею. Памятаю, як ён тады выйшаў на некалькі хвілін да вакна і благаславіў людзей, што стаялі перад клінікаю. У нейкі момант ён дакрануўся рукою да таго месца, дзе ў яго шыі была адтуліна. Нібы хацеў патлумачыць усім, чаму ён не можа ім нічога сказаць».* Раней ад яго імя гаварыў арцыбіскуп Сандры: «Пакаянная атмасфера Вялікага посту, які мы перажываем, дапамагае нам лепш зразумець таксама вартасць цярпення, якое так ці інакш закранае кожнага. Гледзячы на Хрыста і ідучы за Ім з цярплівым даверам, мы можам зразумець, што ўсялякая форма людскога болю мае ў сабе Божае абяцанне збаўлення і радасці». І далей: «Жадаю, каб гэтае пасланне суцяшэння і надзеі прыйшло да ўсіх, асабліва да тых, хто перажывае цяжкія хвіліны, хто пакутуе фізічна і духоўна. Перад Марыяй, Маці Касцёла, я ўзнаўляю свой давер: *totus Tuus*. Няхай у кожны момант жыцця Яна дапамагае нам выконваць святую Божую волю». *«Ён заўсёды адчуваў еднасць з кожным хворым і церпячым,* — гаворыць арцыбіскуп. — *Я перакананы, што ён і тады ахвяраваў сваё цярпенне за іншых хворых і церпячых».* Пасля аперацыі ўскладненняў не было. Папа з кожным днём адчуваў сябе лепш. Але — насуперак афіцыйным паведамленням Ватыкана — не харчаваўся рэгулярна, бо не мог глытаць. Ён мусіў навучыцца гэтаму. І, як апавядае арцыбіскуп Макшыцкі, гэта было вельмі цяжка. Святы Айцец трэніраваў таксама дыханне і маўленне, што таксама не давалася яму лёгка. *«Гэта былі непрыемныя практыкаванні,* — гаворыць былы папскі сакратар, які назіраў за імі. — *Святы Айцец вельмі стараўся, але поспех не прыходзіў так хутка, як ён хацеў бы. Ён нерваваўся».* Ужо 1 сакавіка Папа пачаў гаварыць. *«Святы Айцец размаўляў з цяжкасцю, вельмі ціха,* — распавядае арцыбіскуп Макшыцкі. — *Але размаўляў. З*



Папа Ян Павел II з сваімі сакратарамі (на першым плане) М. Макшыцкім і Ст. Дзівішам.

*кардыналам Ратцынгерам, які яго наведаў, а потым публічна прызнаў, што да Папы вярнуўся голас, ён размаўляў па-італьянску і па-нямецку. Ён быў у лепшай форме. Сустракаўся з супрацоўнікамі Рымскай курыі, падпісваў дакументы, мы чыталі яму кнігі і газеты. Ён нават прымаў дэлегацыі. Памятаю, што на пачатку сакавіка ён прыняў у шпіталі айца Луіса Кандора з Фацімы, які займаўся кананізацыяй благаслаўлёных Гіяцынты і Францішка. Ён прывёз Святому Айцу кананізацыйныя дакументы пастушкоў з Фацімы. Святы Айцец вельмі ўсцешыўся».* Стан Яна Паўла II быў лепшы, але не настолькі добры, каб ён мог браць удзел у агульнай аўдыенцыі. Яе адмянілі. «Ян Павел II на новым этапе свайго цярпення ступіў на шлях мукі Хрыста», — сказаў у інтэрв'ю для Ватыканскага радыё кардынал Ратцынгер. Ён таксама прызнаў, што Папа паказвае, «наколькі плённым бывае цярпенне, калі яно перажываецца разам з многімі церпячымі гэтага свету». Іншымі словамі, што цярпенне мае сэнс. І можа быць чымсьці пазітыўным. Кардынал Ратцынгер тлумачыў, што гэтае «пасланне асабліва важнае для свету, у якім імкнуцца схаваць цярпенне і нават пазбавіцца яго». Ян Павел II паказваў гэтаму свету, што пазбавіцца цярпення не ўдасца і што хаваць яго нярварта. *«Што крыж — інтэгральная частка кожнага з нас,* — гаворыць арцыбіскуп Макшыцкі. — *Таксама і па гэтай прычыне апошні Вялікі пост Святога Айца, яго апошні Вялікдзень усім нам былі вельмі патрэбныя. Тое, што ён дазволіў усяму свету глядзець на сваё цярпенне, было незвычайным доказам даверу і любові. Да Бога і людзей».*

6 сакавіка па традыцыі разважанні перад малітваю «Анёл Панскі» зачытаў арцыбіскуп Сандры. Папа дзякаваў за «доказы любові», асабліва ад вернікаў іншых рэлігій, габрэяў і мусульманаў. Ён пісаў пра падрыхтоўку да Вялікадня. І пра ахвяраванне цярпення дзеля «дабра чалавецтва» і дзеля «нашага ачышчэння». *«Святы Айцец згадаў гісторыю пра аздараўленне сляпога,* — успамінае арцыбіскуп. — *А таксама Хрыста як „святло свету“. Ён пісаў пра тое, што вера — гэта святло, якое вядзе нас па жыцці. Гэта полымя, якое прыносіць надзею ў складаныя моманты».* «Калі нараджаецца дзіця, кажуць, што яно „прыйшло на свет“, — пісаў Ян Павел II. — Для веруючых, народжаных праз хрост для звышнатуральнага жыцця, Вялікі пост — гэта час, які спрыяе „прыйсцю на святло“, гэта значыць, адраджэнню з Духа, і аднаўляе ласку і абавязкі хросту». Вялікі пост як час «прыйсця на святло»... *«Святы Айцец вельмі глыбока гэта перажываў. Ён усё глядзеў па тэлебачанні,* — гаворыць арцыбіскуп Макшыцкі. — *Потым выйшаў да вакна і прывітаў вернікаў. Гэта працягвалася, можа, некалькі хвілін. Нібы нядоўга, але Святому Айцу гэта каштавала вялікіх намаганняў. Дактары раілі, каб ён як мага менш размаўляў. Ён мусіў берагчыся. Неабходна было нармалізаваць дзейнасць трахеі».*

У сродках масавай інфармацыі з'яўляліся чарговыя чуткі пра тое, што Ян Павел II страціў голас назаўсёды. Іх спыніў запіс, паказаны на Ватыканскім тэлебачанні. «Va bene, va bene», або «добра, добра» — так гучалі першыя словы гэтага запісу. Першыя словы, якія пачуў свет пасля трахеатаміі. Запіс зарэгістраваны 11 сакавіка, падчас перадпаўдзённай Імшы, якую Ян Павел II цэлебраваў у шпітальнай капліцы. *«У гэтым запісе чуваць было таксама благаслаўленне,* — гаворыць арцыбіскуп Макшыцкі. — *Голас быў слабы і ахрыплы, а словы невыразныя. Але іх можна было зразумець. Зрэшты, Святы Айцец так гаварыў ужо з пачатку сакавіка. Толькі вельмі ціха».*

Радольфо Праецці, кіраўнік каманды дактароў, якія займаліся Папам у клініцы Джэмэллі, распавядаў газеце «L'Avvenire», што для яго радасным днём было менавіта 11 сакавіка. Тады ён убачыў, як Ян Павел II са смакам есць сіцылійскую трубачку з крэмам. *«Я анямеў ад уражання і не паверыў уласным вачам,* — успамінаў ён, — *калі Ян Павел II з шырокаю ўсмешкаю сказаў: „Смачна, вельмі смачна. Дзякуй, дзякуй“. Папа глытаў нармальна і змог вымавіць некалькі словаў».*

Праз два дні ўжо ніхто не сумняваўся ў тым, што Папа можа размаўляць. Ян Павел II прамовіў з вакна клінікі Джэмэллі. Падзякаваў пілігрымам. Прывітаў Вадавіцы. Усім жадаў добрага тыдня. Арцыбіскуп запэўнівае, што Святы Айцец гаварыў ужывую. Гэта быў не запіс. Напярэдадні тэкст разважанняў перад малітваю «Анёл Панскі» зачытаў арцыбіскуп Сандры. У ім шмат гаварылася пра масмедыя і адказнасць за слова. Пра евангелізацыю з дапамогаю радыё, тэлебачання і інтэрнэту. Усё гэта ў кантэксце сілкавання Божым словам, да чаго, як пісаў Папа, нас заклікае Вялікі пост. Ён сам сілкаваўся Божым словам кожны дзень. Любіў, калі сёстры чыталі яму Святое Пісанне. Часам чытаў ксёндз прафесар Стычань. Часам чыталі сакратары. У тых жа разважаннях ён прасіў Маці Божую, каб Яна дапамагла нам усім падрыхтавацца да Вялікага тыдня. «Спадзяюся, што многія маладыя людзі возьмуць удзел ва ўрачыстай літургіі Пальмовай нядзелі на плошчы святога Пятра, — пісаў Святы Айцец. — Яна сімвалічна пераносіць нас да Сусветных дзён моладзі, якія плануюцца ў Кёльне ў Германіі». Сусветных дзён моладзі ў Германіі ён не дачакаўся. Датаю 13 сакавіка падпісана «Пасланне да святароў» на Вялікі чацвер 2005 года. Апошняе такое пасланне. Ён напісаў яго раней. Як заўсёды, прадыктаваў прэлату Пташніку.

У той самы вечар Папа вый-

шаў са шпіталя. Перад гэтым паблагаславіў дактароў, медсясцёр, малодшых супрацоўнікаў. *«Мы выязджалі з клінікі пасля васямнаццатай гадзіны,* — успамінае арцыбіскуп. — *Святы Айцец ехаў на спецыяльным мікрааўтобусе. Ён сядзеў спераду, у машыне было запалена святло, таму пілігрымы, якія віталі яго перад клінікаю і затым на вуліцах Ватыкана, маглі добра бачыць, што ён усміхаецца ім і вітае іх шырокім жэстам. Відаць было, што ён вельмі радаваўся. Для яго гэта было вельмі важна, бо ён ужо не хацеў больш заставацца ў шпіталі. Праз васямнаццаць дзён ён мог, нарэшце, вярнуцца дадому. Мы таксама вельмі цешыліся»*. Арцыбіскуп распавядае, што Папа сумаваў па доме, што хацеў як мага хутчэй вярнуцца да працы. Да нармальнага рытму, які ён любіў, да якога прывык. *«У гэтым не было думкі пра тое, каб памерці дома,* — гаворыць арцыбіскуп. — *Я так мяркую. Ён сапраўды хацеў яшчэ вярнуцца да нармальнага жыцця»*. Хоць жыццё гэтае пасля шпіталя нармальным ужо не было. Былы сакратар паведамляе, што ў папскіх апартаментах практычна пасяліліся дактары. Адзін доктар і адзін медбрат. Папа знаходзіўся пад пастаяннаю апекаю. Ён шмат адпачываў, менш хадзіў. Святыя Імшы часта адбываліся каля яго ложка. *«Святое Пісанне, Крыжовы шлях і Гадзінкі, Ружанец і Вяночак. Заўсёды пры Святым Айцу хтосьці быў,* — гаворыць арцыбіскуп. — *Мы чыталі яму па чарзе. Часам вазілі яго ў калясцы. У тым ліку па апартаментах. Каб ён не ператамляўся. Больш працы ў нас не стала. <...> Больш было эмоцый, больш перажыванняў. Мы глядзелі на святога чалавека, які сваім цярпеннем вучыць нас давяраць Богу. Усё менш падзей адбывалася вакол яго, знікала ўрачыстае афармленне цэлебрацыі. Не было ўжо прыватных аўдыенцый. Святы Айцец шмат чытаў, а маліўся хіба яшчэ больш, чым звычайна, хоць я не ведаю, ці магчыма гэта ўвогуле. Для яго было вельмі важна, каб людзі, якія прыходзілі на плошчу святога Пятра, ведалі, што з ім не ўсё так дрэнна, як некаторым здаецца. Таму ў першую сераду пасля выхаду са шпіталя ён выйшаў да вакна падчас агульнай аўдыенцыі. Стаяў у вакне, можа, каля хвіліны, не болей. Але благаславіў гэтых людзей. Я бачыў, наколькі гэта было для яго важна»*. Арцыбіскуп дадае, што ў гэтай сваёй хваробе і слабасці Ян Павел II прагнуў нам штосьці паказаць, штосьці даказаць. *«Напэўна, яму нават было ўсё роўна, можа ён гаварыць або не,* — задумваецца былы сакратар. — *Ён хацеў, каб мы ведалі, што ў гэтай немачы таксама ёсць нейкая сіла. Каб гэтыя людзі на плошчы ведалі, што ён моліцца з імі. І за іх. Што з ім не ўсё яшчэ так трагічна»*. Трагічна не было, але і добра — таксама не. Ян Павел II вельмі мала еў, бо ўвесь час у яго былі праблемы з глытаннем. Ён худзеў на вачах. Станавіўся ўсё слабейшым. Нягледзячы на гэта, ён мужна змагаўся, трэніруючы дыханне і маўленне. З найбліжэйшымі супрацоўнікамі размаўляў шэптам. Арцыбіскуп Макшыцкі памятае, што яго добра разумелі.

Ён хацеў, каб мы ўсе яго добра разумелі. Крыху падказваў, як нам яго зразумець. За некалькі дзён да Пальмовай нядзелі ён з дапамогаю святлодыёднага экрана яднаўся з тысячамі маладых людзей, якія маліліся ў базыліцы святога Яна на Латэране. У тэксце, які зачытаў кардынал Руіні, Папа заклікаў будаваць цывілізацыю любові, клапаціцца пра сям'ю. Але ён таксама нагадаў, што ад Бога «мы атрымалі дар жыцця, і чым больш яму пагражае небяспека, чым больш яно становіцца прадметам маніпуляцыі, тым больш мы павінны адстойваць яго бясцэннасць ад пачатку аж да смерці». Святы Айцец згадаў словы святога Яна ад Крыжа і святой Эдыты Штайн. Гэтымі словамі ён заахвочваў да малітвы: «Тыя, хто вельмі актыўны і жадае ахапіць увесь свет сваім прапаведаваннем і сваімі знешнімі справамі, няхай памятаюць, што яны былі б больш карыснымі для Касцёла і значна мілейшымі для Бога, калі б не казалі пра добры прыклад, які яны маглі б даць, а хаця б палову гэтага часу правялі з Богам на малітве». *«Святы Айцец заўсёды гэта паўтараў,* — гаворыць арцыбіскуп Макшыцкі. — *Але тады гэта гучала як яго тэстамэнт для маладых людзей. Папа хацеў, каб яны ведалі, што сучасны свет спрабуе іх ашукаць. Ён прываблівае ілюзіяй шчасця. Ён прымушае жыць напаказ. „Шануйце жыццё“, — нагадваў ён ім. Ад пачатку да канца. Гэта павінна было ўражваць іх, бо гаварыў гэта той, хто любіў іх і са сваім уласным жыццём паволі, але ўсё ж развітваўся»*. Пытаюся ў арцыбіскупа, які ўрок з гэтага Вялікага посту вынес ён сам. Арцыбіскуп гаворыць, што, гледзячы на слабеючага Яна Паўла II, які чакае Вялікадня, з пакораю зносячы цярпенне, думаў пра тое, у якой вялікай ступені нашае жыццё знаходзіцца ў руках Пана Бога. *«Думаў пра тое, што мы ва ўсім належым Пану Богу,* — тлумачыць былы сакратар. — *І ў радасці, і ў смутку. Што мы павінны давярыцца Яму. Што Пан Бог заўсёды дасць нам сілы, каб мы вытрывалі. Галоўнае, каб мы ўмелі прыняць Божую волю. Сапраўды, каб мы ведалі, што нашае цярпенне мае сэнс. Трэба навучыцца гэта разумець, навучыцца прымаць Яго волю»*.

Пальмовая нядзеля заспела Папу ў слабым стане. Арцыбіскуп успамінае, што Святы Айцец быў схуднелы і слабы. Дактары перасцерагалі, каб ён не надрываўся. Але ён абавязкова хацеў падысці да вакна. *«Адбыўся чарговы крызіс,* — распавядае былы сакратар. — *Святы Айцец не мог глытаць. Але выйшаў да вакна. Ніколі гэтага не забуду. З аліўкаваю галінкаю. Ён махаў*

*ёю і благаслаўляў. Людзі віталі яго гучнымі воклічамі, а ён не мог нічога сказаць. Хацеў, але не мог. Быў нават такі момант, калі ён схапіўся за галаву ад гэтай немачы. Гэта ўсіх вельмі ўзрушыла»*. Арцыбіскуп гаворыць, што яны баяліся за Папу. Але ніхто не мог яго пераканаць. *«Мы мусілі паважаць гэтае яго жаданне,* — успамінае арцыбіскуп. — *Мы шмат размаўлялі пра гэта паміж сабою. Не было выйсця. Мы мусілі зрабіць усё, каб палегчыць Святому Айцу перамяшчэнне. Гэта былі каляскі, пульты — толькі каб ён мог паказацца ў вакне»*. І паказаўся. Калі сакратары ўбачылі, што Папа не можа нічога сказаць, што ён захваляваўся, спрабавалі яго нават далікатна адсунуць ад вакна. Але ён запратэставаў. *«Памятаю, што ён ударыў рукою па крэсле,* — успамінае арцыбіскуп Макшыцкі. — *Нам было зразумела, што ён застанецца ў вакне так доўга, як зможа. Гэта працягвалася, можа, некалькі хвілінаў. У апартаменты ён вярнуўся змучаны. Не меў сілаў»*.

Напэўна, яму было цяжка. Упершыню за дваццаць шэсць гадоў ён не ўзначальваў абрады Вялікага тыдня. За яго гэта рабілі кардыналы, якія працавалі ў Рымскай курыі. У Пальмовую нядзелю Эўхарыстыю на плошчы святога Пятра цэлебраваў кардынал Руіні. Тэкст развažанняў зачытаў кардынал Сандры. «Будзьце ўсюды сведкамі хвалебнага Хрыстовага крыжа, — заклікаў Папа дзясяткі тысяч вернікаў на плошчы святога Пятра і мільёны перад тэлевізарамі ва ўсім свеце. — Не бойцеся! Радасць Пана, укрыжаванага і ўваскрослага, няхай будзе вашаю сілаю». Папа падкрэсліваў, што Пальмовая нядзеля «нясе ў сабе спецыяльную ласку, ласку надзеі, злучанай з крыжам, у якім заключана хрысціянская таямніца». Ян Павел II, наколькі мог, сачыў за ўсім па тэлебачанні. Ён шмат ляжаў, адпачываў. Святыя Імшы, якія ў мінулыя гады адбываліся ва ўрачыстай атмасферы, цяпер цэлебраваў у ложку. У тым ліку і па гэтай прычыне, як гаворыць арцыбіскуп Макшыцкі, гэты Вялікдзень быў для іх выключным. *«Я бачыў яго сілу,* — распавядае былы сакратар. — *Адчуваў яе. І думаю, што гэта ўплывала на нас усіх. Столькі цярпення! І ўсё ж гэта была вялікая перамога. Як у Хрыста. Бо ён паміраў за нас, за нашае збаўленне. Сёння я так пра гэта думаю,* — прызнаецца арцыбіскуп, — *бо тады не думаў, што надыходзіць канец. А можа, проста не хацеў так думаць. Святы Айцец быў вельмі спакойны. Думаю, нашмат спакайнейшы, чым усе мы.*

Арцыбіскуп гаворыць, што Папа прымаў сваю немач з пакораю. І нават з душэўным спакоем. Што не было ў ім злосці. Ён рэдка нерваваўся так, як у Пальмовую нядзелю. Маліўся ў спальні. Ужо ляжаў, не перамяшчаўся. *«Прыязджала шмат гасцей,* — успамінае арцыбіскуп. — *Кардынал Яворскі, ксёндз Дронжак, ксёндз Стычань, Ванда Пултаўска. Ён быў спакойны. Мы вельмі доўга спадзяваліся, што гэта ўсё ж выйдзе на добрае. Жылі гэтаю надзеяй. Дрэнныя думкі з'явіліся толькі пасля Вялікадня, у чацвер, калі дактары выявілі заражэнне арганізма. І пацвердзілі, што надзеі ўжо няма»*. Папа ўжо быў вельмі спакутаваны. У сераду адмянілі агульную аўдыенцыю. Ён на кароткі момант з'явіўся ў вакне апартамента. Група пілігрымаў з Польшчы заспявала яму на плошчы святога Пятра «Чорную Мадонну». А ён благаславіў у маўчанні.

У Вялікі чацвер на пачатку Імшы хрызма кардынал Джаванні Баттыста Рэ зачытаў папскае пасланне. У ім Ян Павел II запэўніваў, што сочыць за Імшою па тэлебачанні і далучаецца да яе ўдзельнікаў у падзяцы за «дар і таямніцу святарства». Ён таксама пісаў, што моліцца, «каб у Касцёле не бракавала святых святароў». І гэтую інтэнцыю ён даверыў Маці Божай. *«Папа глядзеў Імшу ў спальні,* — успамінае арцыбіскуп Макшыцкі. — *Нічога не гаварыў. Ён заўсёды глыбока перажываў Вялікі чацвер. Думаю, што гэты Вялікі чацвер ён перажываў асабліва. Святы Айцец вельмі хацеў удзельнічаць у святой Імшы, якая цэлебруецца на памяць пра ўстанаўленне Эўхарыстыі. Але на гэта не было шанцаў»*.

«Пасланне да святароў» было вельмі ўзрушлівым. Прэфект Кангрэгацыі па справах духавенства, абвясціўшы яго свету за некалькі дзён да гэтага, сказаў: «Калі кожнае пасланне Святога Айца да святароў на Вялікі чацвер заўсёды з'яўляецца жывым сведчаннем клапатлівай любові наступніка Пятра, то сёлетняе пасланне — гэта сведчанне асаблівае, бо падпісана ў месцы, пазначаным крыжам Хрыста, — у шпіталі». Ён згадаў таксама тое, што Ян Павел II гаварыў падчас святкавання дваццаць пятай гадавіны Пантыфікату: «Ніколі не павінна бракаваць адвагі ў абвяшчэнні Евангелля; наадварот, гэта павінна быць нашым галоўным заданнем ажно да апошняга ўздыху». У пасланні Папа заклікаў святароў, каб яны не баяліся старасці. Заахвочваў пераадольваць стомленасць. Ён называў сваімі словамі тое, пра што гаварылі многія: «Мае думкі імчацца да вас, святароў, у той час, калі я знаходжуся на лячэнні і рэабілітацыі ў шпіталі, хворы сярод хворых, яднаючы ў Эўхарыстыі сваё цярпенне разам з цярпеннем Хрыста».

Ён цярпеў разам з Хрыстом. Пра жыццё святара Святы Айцец пісаў, што яно мае сэнс толькі тады, «калі святар зможа стаць дарам, аддаючыся ў распараджэнне супольнасці, служачы кожнаму, хто знаходзіцца ў патрэбе». Папа тлумачыў, што «менавіта гэтага чакаў ад сваіх апосталаў Езус, і гэтую думку падкрэслівае евангеліст Ян, калі распавядае пра абмыванне ног».

Відавочна, таксама і па гэтай прычыне Папа штогод абмываў ногі старэйшым святарам. У гэтым годзе ён ужо не мог гэтага зрабіць. Але напісаў, каб тыя, каму ён скіроўвае свае словы, не забыліся, у чым павінна заключацца іх служэнне. *«Пісаў пра тое, пра што сёння шмат гаворыцца,* — успамінае арцыбіскуп. — *Што ў наш час святары павінны быць сведкамі Хрыста, павінны жыць так, як Ён жыў, як яны самі хацелі б, каб жылі іншыя».*

«Святар пакліканы, — пісаў Ян Павел ІІ, — каб у супольнасці, якая яму даверана, быць чалавекам вернага ўшанавання памяці Хрыста і ўсёй Яго містэрыі». *«Святы Айцец быў вельмі паслядоўны,* — гаворыць яго былы сакратар. — *Ён жыў так, як сам навучаў. У гэтым пасланні ён пісаў пра цеплыню, якую чалавек атрымлівае ў блізкіх адносінах з Хрыстом. І што з гэтых адносінаў нараджаецца радасць і сэнс нашага жыцця. Гэта было вельмі асабістае прызнанне, якім ён хацеў падзяліцца з усімі святарамі свету. З усімі намі».*

Звяртаючыся да святароў, Святы Айцец усім нам тлумачыў, у чым заключаецца таямніца маладой душы. Маладой душы, якую меў ён сам. У тыя дні многія гаварылі, што, хоць яго цела ўжо было старое, хворае і змучанае, вочы яго ўвесь час былі маладыя. Бо ён быў малады духам. Святы Айцец тлумачыў: «Святар — гэта той, хто нягледзячы на хуткаплынны час не перастае выпраменьваць маладосць духу, нібы „заражаючы“ ім людзей, якіх ён сустракае на сваім шляху. Яго таямніца — у „страсці“, якую ён перажывае ў Хрысце. Святы Павел гаварыў: „Для мяне жыццё — гэта Хрыстус“ (Флп 1, 21)». Пасля гэтага прызнання ён даверыў усіх святароў Марыі: «Жадаю падчас гэтага Вялікадня ў Год Эўхарыстыі кожнаму з вас паўтараць такія блізкія і суцяшальныя словы Езуса: „Вось Маці твая“ (Ян 19, 27)». *«Для яго гэтыя словы, несумненна, былі блізкія і суцяшальныя,* — тлумачыць арцыбіскуп Макшыцкі. — *Як усё сваё жыццё, так разам з ім старасць, хваробу, цярпенне ён даручаў Маці Божай».* Арцыбіскуп задумваецца і дадае: *«Усё тое, што адбывалася ў нашым доме, было падобнае да Імшы ў Вячэрніку, да малітвы ў садзе Аліўным. Гэта быў Вячэрнік яго апартаменту. Разам з ім мы перажывалі ўзнёслыя падзеі Вялікага тыдня. Гэта было штосьці, чаго нельга апісаць словамі. Не было трагічных думак, быў малітоўны настрой і вялікі супакой. Думаю, яму было шкада гэтага Вялікага чацвярга. У тым сэнсе, што ён заўсёды дбаў пра тое, каб літургія была захаваная. Вельмі дбаў пра тое, каб у гэты дзень паказаць святарам, што ён дзеліць з імі служэнне Хрыста. Таму ён абмываў ногі старэйшым святарам. Нягледзячы на тое, што яму ўсё ж было нялёгка. У тым ліку фізічна. Вялікае ўзрушэнне ён перажываў у Вялікую пятніцу. І хоць у гэтую Вялікую пятніцу ён упершыню не быў у Калізеі, але стаяў з Марыяй пад крыжам больш, чым калі-небудзь».*

Раніца ў Вялікую пятніцу нічым не адрознівалася ад іншых раніцаў. Ян Павел ІІ пасціў, як звычайна ў кожную Вялікую пятніцу. Арцыбіскуп Макшыцкі кажа, што ён з'еў некалькі лыжак крупы і крыху супу, перамяшанага міксерам. І ўсё. Верагодна, ён да апошняга спадзяваўся, што яму ўдасца пабыць там, у Калізеі. Але дактарам і найбліжэйшым супрацоўнікам даўно было зразумела, што Вялікую пятніцу Папа правядзе дома. Калі ў Калізеі распачынаўся Крыжовы шлях пад кіраўніцтвам кардынала Руіні, Папа ўжо сядзеў перад тэлевізарам у сваёй капліцы. Гэты вобраз трансляваўся на ўвесь свет. Па тэлебачанні не паказвалі яго твару. *«У яго ўвесь час стаяла трубка ў трахеі,* — распавядае арцыбіскуп. — *Дактары ўстанавілі яе зноў пасля аўдыенцыі ў сераду. Мы бачылі яе, гледачы не маглі гэтага ўбачыць. Гэта быў яго Крыжовы шлях. Ён цяжка дыхаў. Відаць было, што ён змагаецца. Гэта патрабавала вялікіх намаганняў. Але ён вельмі хацеў, каб так было. Хацеў глядзець Крыжовы шлях па тэлебачанні. Хацеў хоць так удзельнічаць у гэтым набажэнстве».* Крыжовы шлях у Калізеі распачаўся з зачытвання папскага ліста. «Адарацыя крыжа скіроўвае нас да задання, ад якога нам нельга адмовіцца, — пісаў Святы Айцец, — а менавіта да місіі, якую святы Павел выказаў у словах: „Дапаўняю недахоп у маім целе пакутаў Хрыста за Ягонае цела, якім ёсць Касцёл“». Папа гаварыў, што сваё цярпенне ён ахвяраваў дзеля таго, «каб споўніўся Божы план і Яго слова ішло між людзей». Ян Павел ІІ пісаў, што ён глядзіць на крыж і праслаўляе яго. «Вітай, крыжу, адзіная надзея, адары нас цярплівасцю і адвагаю, і здабудзь для свету супакой!» *«Мы сядзелі са Святым Айцом у капліцы,* — успамінае арцыбіскуп Макшыцкі. — *І нам цяжка было суняць узрушанасць. Гэта было вызнанне веры, якога я ні разу не перажыў. Святы Айцец сядзеў там з трубкаю ў трахеі і гаварыў людзям, што ён праслаўляе гэты крыж. І што ахвяруе яго для таго, каб мы зразумелі, што Пан Бог нам гаворыць. Я думаю, што ў многіх людзей тады адкрываліся вочы і сэрцы. Я ўпэўнены».* Арцыбіскуп успамінае, як у нейкі момант Папа папрасіў крыж. Ён хацеў несці крыж. Разам з Хрыстом. У прамым сэнсе. Фізічна. Ужо не толькі метафарычна. *«Мы на хвіліну задумаліся, які крыж падаць,* — распавядае арцыбіскуп. — *Станіслаў сказаў, што найлепш той лёгкі, драўляны, які быў у маёй спальні. Я хутка пабег па лесвіцы. Прынёс гэты крыж. І менавіта яго Святы Айцец так блізка прытуляў да твару. На вачах усяго свету. Калі я сёння думаю пра гэта, я бачу пэўную глыбокую сімволіку, бо за некалькі гадоў да гэтага*

*адна жанчына з Бяшчадаў пасля няшчаснага выпадку, які з ёю здарыўся, папрасіла мужа выразаць для яе гэты крыж. Яна не магла хадзіць. Хацела толькі маліцца. Ёй патрэбны быў такі крыж, які не быў бы занадта цяжкім. Муж выразаў крыж, а праз тры гады яна перадала яго пілігрымам з вёскі, якія выбіраліся ў Рым. Яны падарылі крыж Святому Айцу. Памятаю, што гэта быў Юбілейны год. І памятаю, што крыж трапіў у мой апартамент».*

Арцыбіскуп тлумачыць, што з самага пачатку звярнуў увагу на гэты крыж. *«Ён нібы чакаў мяне. Звычайна мы перадавалі падарункі, якія атрымліваў Святы Айцец, у спецыяльны склад, потым іх раздавалі тым, хто знаходзіцца ў патрэбе, на місійныя мэты або ў які-небудзь дзіцячы садок, дом апекі. А ў мяне ў спальні не было крыжа, і калі я ўбачыў менавіта гэты крыж, запытаў, ці не магу яго пакінуць сабе».* Калі Святы Айцец памёр, арцыбіскуп перадаў гэты крыж сваёй маме Браніславе, цяпер ужо святой памяці. Яна ж у сваю чаргу не хацела мець яго толькі для сябе. Хацела, каб ён служыў людзям. Таму перадала яго ў парафію ў Крачковай пад Жэшавам. *«Было так, што мясцовы ксёндз папрасіў гэты крыж,* — распавядае арцыбіскуп. — *Ён хацеў расказаць пра яго людзям у сваёй парафіі. Затым просьбаў стала так шмат, што ён пачаў іх збіраць. Маме было не да гэтага. Да крыжа Яна Паўла ІІ у яе было асаблівае набажэнства. Яна памерла ў верасні 2012 года. Заўсёды казала, што наш дарагі Святы Айцец таксама маліўся з ім, што ён таксама трымаў яго ў руках».*

Цяпер крыж вандруе па ўсёй Польшчы. Ён з'яўляецца асаблівай рэліквіяй. Арцыбіскуп распавядае, што праз некалькі гадоў ён пазнаёміўся з жанчынаю, якая падарыла гэты крыж Яну Паўлу ІІ. *«Я сустрэў яе на святой Імшы ў Ясені ў Бяшчадах. Мы абмяняліся некалькімі словамі. Я паблагаславіў яе. Жанчына ўвесь час ездзіць у калясцы. Святы Айцец, прытуліўшы гэты крыж, вытрываў тады да канца трансляцыі, —* успамінае арцыбіскуп. — *Пасля гэтага ён быў вельмі стомлены. Знясілены. Нічога не гаварыў. Маліўся яшчэ ў сваёй спальні. Гэта быў незвычайны дзень. Мы бачылі, што Святы Айцец быў шчаслівы, бо пераэкыў гэты шлях разам з вернікамі, бо быў з імі, а яны — з ім. Мы ўсе радаваліся, што гэта ўдалося».*

Вялікую суботу ён правёў таксама дома. У інтэнсіўных практыкаваннях з лагапедам. Як гаворыць былы папскі сакратар, незвычайна пакутлівых для Папы. *«Святы Айцец вельмі хацеў прамовіць да людзей у велікодную нядзелю. Таму доўга і цярпліва практыкаваўся. І ў яго гэта вельмі добра выходзіла. Імшу Пасхальнай вігіліі ў Ватыкане ён глядзеў па тэлебачанні. Мы глядзелі разам».* На пачатку кардынал Ратцынгер зачытаў спецыяльнае пасланне Яна Паўла ІІ: «Гэта сапраўды незвычайная ноч, у якую прамяністае святло ўваскрослага Хрыста канчаткова пераможа цемру зла і смерці і запаліць у сэрцах веруючых надзею і радасць. <...> Дзякуючы муцы і ўваскрасенню разбуранае было адбудаванае, — пераконваў Папа, — састарэлае было адноўленае і ўсё вяртаецца да сваёй першапачатковай дасканаласці прыгажэйшае, чым дагэтуль».

Ян Павел ІІ, абвяшчаючы свету сэнс цярпення Хрыста, тлумачыў сэнс свайго ўласнага цярпення. Нібы хацеў падрыхтаваць нас да таго, што станецца праз некалькі дзён. У прэсе пачалі з'яўляцца думкі, што такім чынам Папа піша сваю найпрыгажэйшую энцыкліку. Цярпеннем і немаччу, якая саступае перад моцаю духу і малітваю.

*«Надышла Вялікая нядзеля і настаў момант выпрабавання,* — распавядае арцыбіскуп. — *Мы былі ўпэўненыя, што ўсё пойдзе добра, бо перад гэтым Святы Айцец сапраўды ўжо добра спраўляўся. Ён з'явіўся ў вакне, каб паблагаславіць вернікаў. Я падаў яму тэкст, а ён ціхенька гаворыць: „Не маю голасу". Я не ведаў, што рабіць. Чакаў. А Святы Айцец толькі сачыў за тэкстам благаслаўлення на паперы. А потым зрабіў знак крыжа. Гэта было яго апошняе* Urbi et orbi. *Маўклівае. Ён не сказаў ні слова. Тысячы людзей на плошчы святога Пятра віталі яго сваімі воклічамі. Але на многіх тварах відаць быў смутак і слёзы. Памятаю, калі кардынал Садана зачытваў папскае пасланне, Святы Айцец падымаў старонкі ўгору, нібы хацеў паказаць нам усім і людзям на плошчы, што гэта яго словы для нас і для іх. Добра было б, калі б мы памяталі гэтыя словы... Езу, застаньcя з намі! Застанься з намі! Колькі разоў пілігрымы ў самых далёкіх куточках свету менавіта так звярталіся да Яна Паўла ІІ»,* — з усмешкаю гаворыць арцыбіскуп. <...>

Велікодны панядзелак з самай раніцы быў цяжкі. Папа адчуваў сябе горш. Упершыню ён не прачытаў з вернікамі марыйную малітву *Regina coeli*. На плошчы святога Пятра мноства людзей чакала, пакуль ён з'явіцца ў вакне. *«Так планавалася,* — прызнае арцыбіскуп. — *Але Святы Айцец адчуваў сябе дрэнна. Амаль нічога не еў. Вельмі схуднеў. Мы баяліся за яго. Не хацелі падстаўляць яго пад небяспеку. Ён не меў сілаў».* Ватыканскае радыё чакала да апошняга моманту. Не выпускала падборку апоўдні. Доўгі час уключала музыку, чакала рашэння. Урэшце на хвалі без папярэджання з'явілася праграма «З архіва Ватыканскага радыё» і мы пачулі прамову Яна Паўла ІІ з трэцяй агульнай аўдыенцыі, з першага года Пантыфікату.

У аўторак Святы Айцец шмат адпачываў. Аўторкі ў яго былі вольныя ад працы, хоць у той дзень гэта не мела значэння. Усе

абавязкі былі адмененыя. «*Ён адчуваў сябе нібы крыху лепей,* — распавядае арцыбіскуп. — *Настолькі добра, каб у сераду здзівіць усіх апошні раз. Напэўна, ён адчуваў, што набліжаецца канец, і хацеў, нягледзячы ні на што, паказацца ў вакне маладым людзям, якія чувалі на плошчы святога Пятра. Аўдыенцыя была адмененая, але Святы Айцец вырашыў, што ў вакне ён пакажацца. Хоць на хвіліну*». І паказаўся. На пяць хвілін. Было зачытана яго кароткае пасланне для моладзі: «Мае дарагія, няхай сяброўства з Езусам, нашым Адкупіцелем, заўсёды асвятляе вашае жыццё, заставайцеся ў еднасці з Ім, слухаючы Яго словы і прымаючы чынны ўдзел у Эўхарыстычнай гасціне. Будзьце Яго вернымі сведкамі, асабліва сярод сваіх равеснікаў. Усіх яшчэ раз сардэчна віншую з Вялікаднем». Ён вітаў таксама палякаў. Дзякаваў за малітву і благаслаўляў. Потым людзі праспявалі малітву «Ойча наш» па-італьянску. А Ян Павел II крэсліў у паветры знак крыжа. Накрэсліў яго некалькі разоў. Людзі віталі яго воклічамі. «*А ён нібы не хацеў з імі расставацца,* — успамінае арцыбіскуп. — *Успрымаў іх як сваіх сяброў. Менавіта так ён да іх звычайна звяртаўся. Казаў: сябры мае... Гэта было развітанне з імі. Апошняя супольная малітва. Пасля аўдыенцыі Святы Айцец цэлебраваў святую Імшу. Гэта была наша апошняя Эўхарыстыя ў капліцы. Ужо падчас гэтай Імшы Святы Айцец стаў дрэнна сябе адчуваць. Але завяршыў яе. Мы вярнуліся ў спальню, і ён лёг у ложак. І ўжо не ўставаў з яго. Ажно да моманту смерці*».

Неўзабаве настаў крызіс. «*Дактары сказалі нам проста,* — кажа арцыбіскуп, — *што, калі Святы Айцец не атрымае ежы праз зонд, ён можа памерці*». Потым хтосьці з прафесараў каментаваў, што, калі б Святому Айцу тады не ўвялі зонду, гэта была б эўтаназія праз занядбанне. «*Зонд дактары ўвялі. Праз нос у страўнік. І такім чынам Святы Айцец атрымліваў ежу. Гатовыя прэпараты яму падавалі доктар Буццанецці і сястра Табіяна. Ён шмат адпачываў. Шмат ляжаў, гадзінамі сядзеў у крэсле. Цэлебраваў святую Імшу ў прыватнай капліцы. Але таксама седзячы. Цела яго не слухалася, але розум заўсёды заставаўся ясны. Ён размаўляў з намі прыглушаным голасам*».

У чацвер, за два дні да смерці, Папа ў чарговы і апошні раз даверыў Касцёл і свет Божай міласэрнасці. Ён прадыктаваў спецыяльную тэлеграму кардыналу Махарскаму, Мітрапаліту Кракаўскаму, на ўрачыстасць Божай Міласэрнасці ў Лагеўніках. «Прагну зноў даверыць гэтай любові Касцёл і свет, — пісаў ён, — усіх людзей на ўсім зямным шары, а таксама сябе самога ў маёй слабасці».

Чарговы крызіс. Папа не мог дыхаць, у яго была высокая тэмпература. «*Мы былі страшна напалоханыя,* — успамінае арцыбіскуп. — *Дактары сказалі, што гэта сэптычны шок, ад заражэння мачавых шляхоў. І што гэта канец. Не сёння, заўтра — дык праз некалькі дзён. Гаварылі, што трэба ехаць у шпіталь, але Святы Айцец не згадзіўся. Не хацеў. Пажадаў застацца дома. Сказаў пра гэта Станіславу, а той перадаў дактарам волю Святога Айца*». Арцыбіскуп Макшыцкі распавядае далей: «*Узнікае пытанне, ці могуць дактары забяспечыць Святому Айцу ўсё тое, што ён меў бы ў шпіталі. Кажуць, што так. Таму мы застаемся дома. Гэта не было рашэнне аб спыненні ўпартай тэрапіі, як некаторыя інтэрпрэтавалі на працягу апошніх гадоў. Папа меў поўную медыцынскую апеку і да апошняга прымаў лекі. Спачатку ён атрымаў антыбіётыкі і кісларод. Дыхаў з дапамогаю кіслароднай маскі. Дактары спынілі ліхаманку. Антыбіётыкі, на шчасце, пачалі дзейнічаць. Каля дваццаць трэцяй гадзіны Святы Айцец супакоіўся, ужо не змагаўся за кожны ўздых і пачаў ужо дыхаць без маскі*». Тады яму расказалі, што за яго моліцца ўвесь свет, што на плошчы святога Пятра стаяць натоўпы маладых людзей. Папа быў спакойны, але вельмі слабы. Дактары гаварылі: стан стабільны, але вельмі цяжкі. «*У дзевятнаццаць сямнаццаць Святы Айцец прыняў святую Камунію і сакрамэнт намашчэння хворых ад кардынала Мар'яна Яворскага. Ён увесь час быў прытомны. Называў нас па імёнах, калі мы падыходзілі да яго, каб пацалаваць руку. Напрыканцы дня была медытацыя і супольная малітва. Сёстры спявалі „Яснагурскі заклік". А Святы Айцец, як і кожны дзень, благаславіў іх*».

Арцыбіскуп Конрад Краеўскі ўспамінае, што ў той дзень яны разам з настаяцелем біскупам Марыні былі пакліканыя ў папскі апартамент. «*Гэта быў вельмі незвычайны чацвер,* — кажа арцыбіскуп. — *Мы на працягу некалькіх месяцаў ведалі, як Папа церпіць. Святы Айцец паблагаславіў нас. Нічога не гаварыў. Гэтак, як ніколі не гаварыў, рыхтуючыся да цэлебрацыі літургіі — да размовы з Богам. Так заўсёды было ў сакрыстыі*». Арцыбіскуп распавядае, як Ян Павел II працягнуў руку да біскупа Марыні, а той плакаў, як дзіця. «*Гэта былі слёзы перад літургіяй, якая ўжо распачынаецца,* — гаворыць арцыбіскуп. — *Літургіяй яднання з Тым, каго Папа ўвесь час цэлебраваў і заклікаў на алтар. Святы Айцец зноў благаславіў нас. Бо святар павінен усім сваім жыццём благаслаўляць. Ніхто з нас не думаў пра боль і цярпенне Папы. Пра гэта мы ведалі ўжо некалькі гадоў. Адзінае пытанне, якое гучала, гэта: чаму я не святы? Потым было начное чуванне. Калі я чытаў Ружанец каля ложка Святога Айца, да мяне прыходзілі розныя думкі, але адна з іх настойліва вярталася зноў і зноў: чаму я не святы? Што я раблю ў гэтым месцы, чалавек з далёкай Лодзі? Што я тут ра-*

*блю, калі я не святы?»*

Арцыбіскуп Краеўскі гаварыў, што бачыў, як памірае святы, бо Ян Павел II за доўгія гады свайго Пантыфікату стаў выразным знакам Бога для ўсіх. *«Нават калі ён ужо не размаўляў, усе яго разумелі,* — тлумачыць арцыбіскуп. — *Нават няверуючыя. Уражваліся ўсе. Штосьці іх змушала неадкладна ехаць у Рым. Выходзіць на вуліцы, нават ноччу ісці ў касцёл. Запалалі тысячы знічоў у вокнах, на вуліцах, каля помнікаў. Свет застыў у роздуме. Свет прыпыніўся. Усе пыталіся, што гэта значыць, а я глядзеў, як паміраў святы».*

Увесь свет маліўся каля ложка паміраючага Папы. Таго самага, які калісьці казаў моладзі: «Вы самі не ведаеце, якія вы прыгожыя, калі знаходзіцеся ў арэоле Божага слова і Эўхарыстыі. Самі не ведаеце, якія вы прыгожыя, калі маеце блізкія адносіны з Хрыстом, з Настаўнікам, стараючыся жыць у Яго асвячальнай ласцы».

Папа гаварыў пра Езуса, а арцыбіскуп Макшыцкі ўзгадвае, што прыгажэйшымі (бо лепшымі) людзі станавіліся пасля сустрэчы з Янам Паўлам II. Менавіта таму ўвесь свет маліўся за яго. Арцыбіскуп Краеўскі тлумачыць: *«Тады я зразумеў: сяброўства заключаецца ў тым, што дзякуючы іншаму чалавеку я станаўлюся лепшым. Таму Папа быў сябрам кожнага з нас. Дзякуючы яму мы сталі лепшымі».*

У пятніцу Папа прачнуўся яшчэ да шасці гадзін. Прытомны і спакойны. *«Ужо а сёмай мы канцэлебравалі святую Імшу,* — успамінае арцыбіскуп Макшыцкі. — *У Святога Айца быў спакойны твар. Нягледзячы на тое, што ноч была цяжкая. Сэрца не хацела працаваць. Умяшаліся дактары».* Над здароўем Папы чуваў яго асабісты доктар Рэната Буццанецці. Разам з ім — два рэаніматолагі, кардыёлаг, ларынголаг і два медбраты. *«У нейкі момант Святы Айцец папрасіў, каб яму прачыталі чатырнаццаць стацый Крыжовага шляху. Вось сёстры яму чытаюць. А ён засяроджана слухае. І моліцца. Пачынаюць сыходзіцца госці. Кожны хацеў развітацца. Па вечарах столькі маладых людзей моліцца на плошчы святога Пятра. Мы кажам пра гэта Святому Айцу. А ён штосьці паказвае. Спачатку мы не разумеем. Станіслаў выпытвае. Святы Айцец пацвярджае. „Я шукаў вас, а цяпер вы прыйшлі да мяне, і за гэта я вам удзячны“. Усміхаецца».*

У суботу ў сем трыццаць раніцы каля ложка Папы цэлебруецца святая Імша. Пры Яне Паўлу II — два сакратары, пяць сясцёр законных і яго асабісты доктар. Пасля смерці Папы Рэната Буццанецці скажа журналісту «La Repubblica», што паміраючы Ян Павел II нагадваў яму Хрыста, *«з тою розніцаю, што Хрыстус на крыжы мог гаварыць, а Папа адыходзіў у маўчанні».* Доктар запэўнівае, што ён і яго калегі зрабілі ўсё, каб дапамагчы Папу. Прыходзяць чарговыя госці, кардыналы з Рымскай курыі. Прыходзіць кардынал Ратцынгер, які потым скажа, што *«сустрэў Яна Паўла II, які цалкам усведамляў, што ён ідзе да Бога...».* Папа настойвае на тым, што хоча падзякаваць Франчэска, які ўжо шмат гадоў прыбірае яго апартамент. І дзякуе яму.

Потым ён асабіста асвячае кароны для двух абразоў Маці Божай Чанстахоўскай. У хуткім часе кардынал Яворскі карануе імі абраз у польскай капліцы ў падзямеллях базылікі святога Пятра. Другая пара каронаў была перададзеная ў Ясьнагурскі санктуарый, для Маці Божай і Пана Езуса ў чанстахоўскім абразе. Каля чатырнаццатай гадзіны *«Святы Айцец пачынае траціць свядомасць,* — успамінае арцыбіскуп. — *Потым час ад часу яшчэ вяртаецца да нас і тады лёгка ўсміхаецца. Прыкладна каля шаснаццатай гадзіны мы развітваемся з ім. Кожны па чарзе падыходзіць, цалуе яго руку і кажа тое, што жадае сказаць Святому Айцу на развітанне. Я сказаў: „Няхай Вам Бог аддзячыць, Святы Ойча. Прашу Вас аб благаслаўленні“. Ён паблагаславіў мяне. Твар яго ззяў. Я бачыў, што мы праводзім у апошні шлях святога чалавека. Калісьці я ўжо казаў, але паўтару і цяпер: Ян Павел II быў прыгожы, калі паміраў. Яго твар быў прыгожы. Так паміраюць толькі святыя».*

Ксёндз прафесар Стычань чытаў уголас Евангелле паводле святога Яна. Ён змог дачытаць да дзявятага раздзела, перш чым настаў канец. Апошнія словы Папы пачула сястра Табіяна. Ён паклікаў яе позіркам, а калі яна нахілілася над ім, набліжаючыся да яго вуснаў, сказаў: «Дазвольце мне адысці да Пана». Каля дзевятнаццатай гадзіны ён паглыбіўся ў сон. *«Тады мы запалілі грамніцы і паставілі іх у вакне спальні,* — успамінае арцыбіскуп. — *А дваццатай мы цэлебравалі святую Імшу ў вігілію нядзелі Божай Міласэрнасці. У Евангеллі ёсць апісанне таго, як апосталам з'явіўся ўваскрослы Хрыстус. У першы вечар пасля Вялікадня. І вітанне: „Супакой вам!“. Усё стасавалася з гэтым момантам. Станіслаў падаў Святому Айцу некалькі кропляў крыві Хрыста як Віятык. Пасля Імшы сёстры прачыталі Ружанец. Яны плакалі».*

Дваццаць адна гадзіна трыццаць сем хвілін... Манітор паказвае, што сэрца Яна Паўла II перастала біцца. *«Доктар Буцанецці схіляецца над Святым Айцом, а потым кажа нам: „Ён вярнуўся ў Дом Айца“. Станіслаў пачынае спяваць* Te Deum. *Падзяка замест роспачы. Спачатку я не мог гэтага зразумець. У мяне разрывалася сэрца. Але ў хуткім часе я зразумеў. Гэта быў прыгожы момант. Развітанне з прыгожым святым жыццём. Мы павінны былі дзякаваць Пану Богу за гэта».*

Каля ложка Папы былі абодва

сакратары, кардынал Яворскі і арцыбіскуп Рылка, ксёндз прафесар Стычань, айцец Чэслаў Дронжак, былі сёстры служабніцы Найсвяцейшага Сэрца Езуса, дактары і медбраты. Была Ванда Пултаўская. Быў таксама папскі цырымоніймайстар ксёндз прэлат Конрад Краеўскі, які так успамінае апошнія хвіліны каля святога Папы: *«Мы кленчылі каля ложка Святога Айца. Папа ляжаў у паўзмроку. Аднак дзякуючы мяккаму святлу лямпы, скіраванаму на сцяну, ён быў добра бачны. Калі прабіла гадзіна, аб якой праз пэўны час даведаўся ўвесь свет, раптам з каленяў падняўся ксёндз арцыбіскуп Станіслаў Дзівіш. Ён запаліў у спальні святло і перарваў цішу памірання папы Яна Паўла II, цішу таямніцы смерці, якая ўсё ж з'яўляецца неад'емнаю часткаю жыцця. Дрыжачым, але надзвычай упэўненым голасам, з выразным гуральскім акцэнтам (цягнучы адзін са складоў), ён пачаў спяваць: „Цябе, Бога, праслаўляем, Табе, Пане, хвала вечна...".*

*Гэта было як гром з яснага неба! Напэўна, мы ўсе адначасова здзіўлена паглядзелі на арцыбіскупа! Аднак запаленыя лямпачкі і ўрачысты спеў наступных словаў гімна: „Неба і зямля спявае Табе, Ойча векавечны!" дапамаглі зразумець кожнаму з нас, што мы ўжо знаходзімся ў зусім іншай рэчаіснасці:*

*Ян Павел II памёр — значыць, жыве!*

*Калі Ян Павел II перастаў хадзіць і падчас цэлебрацыі быў цалкам — у літаральным значэнні гэтага слова — залежны ад цырымоніймайстраў, я пачаў усё больш усведамляць, што кантактую са святым чалавекам. Магчыма, я раздражняў ватыканскіх спаведнікаў, калі перад кожнаю цэлебрацыяй ішоў да споведзі, адчуваючы нейкі ўнутраны загад і патрэбу. А цэлебрацый бывала часам некалькі на тыдзень!*

*Я кантактаваў з Папам пры яго жыцці (на працягу доўгіх сямі гадоў), а таксама тады, калі яго душа аддзялілася ад цела. У момант смерці пасля нас застаюцца толькі парэшткі, або, як піша ксёндз Ян Твардоўскі, штосьці чужое, што, нібы абалонка, «сышло» з чалавека і стане прахам (Kilka myśli o cierpieniu, przemijaniu i odejściu, s. 51). Цырымоніймайстар абавязаны таксама займацца целам памерлага Папы. Я рабіў гэта на працягу доўгіх сямі дзён, да часу пахавання. Гэты клопат па зразумелых прычынах арцыбіскуп Марыні даверыў менавіта мне.*

*Я апранаў Яна Паўла II разам з трыма медбратамі. Гэта былі італьянцы, спецыялісты высокага класу ў галіне інтэнсіўнай тэрапіі (рэаніматолагі). Хоць пасля моманту смерці ўжо мінула больш за гадзіну, мы ўвесь час размаўлялі з Папам як з айцом. Перш чым зрабіць які-небудзь рух, цалавалі яго ў руку, у шчаку, у лоб... Цалавалі, апранаючы на яго шкарпэткі, кашулю, сутану... Гладзілі, дакраналіся да яго — так, як гэта робяць з найбліжэйшым членам сям'і. Гэта было самае сапраўднае цалаванне рэліквіяў. Паводзіны гэтых свецкіх супрацоўнікаў Ватыкана былі не толькі праяваю пашаны і сыноўняй адданасці ў адносінах да памерлага Папы. Для мяне гэта быў пачатак культу, прадвесце беатыфікацыі. Можа таму я ніколі не паддаваўся заклікам аб хуткай беатыфікацыі, бо я ўжо ў ёй удзельнічаў».*

Арцыбіскуп Мечыслаў Макшыцкі гаворыць пра апошні Крыжовы шлях святога чалавека: *«Ён усім сваім жыццём паказаў, што сваім цярпеннем трываў разам з Хрыстом на крыжы. Можа, ён і хацеў бы быць здаровым і яшчэ доўга служыць Пану Богу на зямлі, але з пакораю прымаў Яго волю. Пан Езус жа таксама прасіў: „Ойча Мой, калі гэта магчыма, няхай абміне гэты келіх Мяне". Несумненна, у Святога Айца бывалі цяжкія хвіліны, але ён увесь час паўтараў:* „Totus Tuus".

Арцыбіскуп згадвае, што Папа заўсёды прыслухоўваўся да дыягназаў дактароў, пакорна прымаў чарговыя аперацыі. Не рабіў нічога, каб прыспешыць сваю смерць. Прыняў яе тады, калі яна прыйшла. Калі споўнілася яго жыццё. *«Словы „дазвольце мне адысці ў Дом Айца" не былі адмаўленнем ад медыцынскіх паслугаў,* — пераконвае арцыбіскуп. — *Хутчэй, Папа жадаў выказаць адчуванне, што ён ужо адыходзіць, што ён ужо гатовы да сустрэчы з Айцом. Вось што значылі гэтыя словы. Каб і мы ўсведамлялі, што час ужо дазволіць яму адысці. Гэта вялікая таямніца смерці, якую кожны з нас у свой час спасцігне».*

Была вігілія нядзелі Божай Міласэрнасці. Усё супадала. Спаўняўся Божы план. Як і той, што споўніўся дзве тысячы гадоў таму. Калі Хрыстус памёр на крыжы за нашыя грахі, каб мы маглі быць збаўленыя. Колькі дабра нарадзілася пасля смерці Яна Паўла II, найлепш ведаюць тыя, хто дасылаў лісты пастулятару беатыфікацыйнага працэсу. Тысячы аздараўленняў і наваротаў праз заступніцтва Папы паляка. Плён гарачай малітвы, якой ён вучыў нас да апошняга ўздыху. «*„Totus Tuus"*, — гаворыць арцыбіскуп Макшыцкі. — *Сёння, заўтра, кожны дзень, кожную хвіліну. Нават тады, а можа, асабліва тады, калі крыж здаецца зацяжкім, а плечы замалымі.* „Totus Tuus"».

*Пераклала з польскай мовы Ганна Шаўчэнка.*

*Паводле: Abp Mieczysław Mokrzycki, Brygida Grysiak. Miejsce dla każdego. Opowieść o świętości Jana Pawła II. — Kraków, 2013.*



Станіслаў Памыкала SJ

# «Еднасць святых» з Янам Паўлам ІІ

Святы Яне Паўле ІІ! Калі Ты быў з намі на зямлі, у папскі перыяд свайго жыцця, я звяртаўся да Цябе словамі «Ойча» або «Святы Ойча». Цяпер, як гэта звычайна бывае са святымі, нават з Панам Богам, мы можам перайсці на «Ты». Відаць, Тройца Любові і неба больш дэмакратычныя, чым зямля.

Гэтаю размоваю-сведчаннем, або «еднасцю святых» з Табою, я хацеў бы сплаціць свайго роду доўг удзячнасці ў адносінах да Цябе — доўг, пра які Ты нават не ведаеш. Я ўдзячны нашаму Айцу ў небе і Табе за тое, што ў час маёй працы ў Рыме Ты стаў для мяне ў пэўным сэнсе прыёмным бацькам, святым Юзафам майго святарства: у змаганні Хрыста-святара і маім змаганні за святарства, у маёй барацьбе за яго форму. У развіцці і выспяванні майго святарства я няспынна параўноўваў сябе з Табою як святаром. З чалавечага пункту гледжання я не павінен быць ксяндзом, аднак з'яўляюся ім, бо так падабаецца Пану.

Назіраючы за Тваёй дзейнасцю і сустракаючыся з Табою з той ці іншай нагоды, як журналіст Ватыканскага радыё я ніколі не думаў, што кантактую са святым і што Ты можаш быць кананізаваны. Маё разуменне святасці было ў той час вельмі прымітыўным. Я не ўсведамляў, што быць святым — значыць быць чалавекам пасхальным, святаром. Чалавек, увогуле, стварэнне пасхальнае. Калі ён зможа быць чалавекам натуральным, сапраўдным, а не самалюбна найграным, калі будзе чалавекам, адданым Святому, то стане святым. Канчаткова ён стане асвечаным, святым і ачышчаным толькі пасля пераходу на другі бераг, калі, так бы мовіць, ужо «станецца»...

**Станіслаў Памыкала SJ** — вікарый парафіі св. Антонія ў Віцебску, былы рэдактар польскай секцыі Ватыканскага радыё (1980–1991), які шматразова суправаджаў Яна Паўла ІІ у пілігрымках. З 1991 г. працаваў душпастырам у Расіі, Казахстане, Кіргізіі, ва Украіне.

Святымі мы становімся тады, калі становімся святарамі праз пасвячэнне, асвячальнае і ачышчальнае самаадданне Святому: *«Я быў галодны, і вы далі Мне есці; прагнуў, і вы напаілі Мяне; быў падарожным, і вы прынялі Мяне; быў голы, і вы апранулі Мяне; быў хворы, і вы адведалі Мяне; быў у вязніцы, і вы прыйшлі да Мяне»* (Мц 25, 35–36); *«тое, што вы зрабілі аднаму з гэтых братоў Маіх меншых, вы Мне зрабілі»* (Мц 25, 40).

Ахрышчаныя і акунутыя ў Таго, Які Ёсць (пар. Зых 3, 14), мы ведаем, што быць святым, насуперак бачнасці, значыць станавіцца і быць бліжнім, або кімсьці блізкім, а не далёкім. Пераход праз пасхальнае самаадданне, калі ён не перажываецца грэшна як смерць, збліжае, робіць людзей сапраўды з'яднанымі ў Духу Святым. Памятаю, што, чым больш Ты хварэў, тым больш блізкім станавіўся для мяне, і не толькі для мяне.

Аднак марнасць гэтага свету робіць нас сляпымі і глухімі. Я часта баяўся, што з Табою можа здарыцца штосьці дрэннае, што нешта можа не атрымацца, што з чымсьці Ты не справішся. Так было перад замахам і пасля замаху на Тваё жыццё. Гэты неспакой і страхі ўзмацняліся, калі да мяне даходзілі незадаволеныя галасы, крытыка ў Твой адрас ці проста подлыя людскія інтрыгі. Цяпер у маіх адносінах да Цябе настаў час вызвалення і свабоды ад усяго таго, што знявольвае нас на зямлі. Я магу адпачываць, радуючыся «еднасці святых» з Табою: Чалавекам з добрым, чулым сэрцам, Сябрам людзей, які дзякуючы сіле і мудрасці Ласкі і Міласэрнай Любові стаў незалежным, вольным ад мітусні гэтага свету.

Бывае, што людзі атаясамліваюць волю з самалюбнаю самавольнасцю, якая жывіцца грашыма, наркотыкамі, уладаю, што робяць нас залежнымі. А суверэнная свабода, якая даецца і здабываецца часам з вялікаю цяжкасцю, — гэта свабода святарская, пасхальная, яна жыве за кошт ахвярнай любові, якая ўмее гаварыць і «так», і «не»! Яна адказная! Дзякую Богу таксама за тое, што ў пэўнай ступені я мог быць сведкам і спадарожнікам Твайго жыцця ў змаганнях за суверэнную свабоду ад мітусні свету. Ты ведаў, каму і як кланяцца, бо падаў перад Аблíччам Найвышэйшага, знаходзячы Яго прысутнасць ва Укрыжаваным. Аднойчы нават у Монтэвідэа я перашкаджаў Табе ў гэтым, калі раніцаю ў капліцы нунцыятуры Ты цэлебраваў, як звычайна па пятніцах, Крыжовы шлях.

Гэта суверэнная свабода — ані наша вялікае дасягненне, ані вынік толькі нашых асабістых намаганняў. Гэта дар Ласкі, якую можна атрымаць у айцоўска-мацярынскай сувязі з Богам і перажыць у супольнасці Касцёла. Я зразумеў гэта на Тваім прыкладзе, асабліва калі Ты казаў, што Ласка — гэта неспадзяванка, нечаканасць і здзіўленне. Ты паказаў мне, не ведаючы пра гэта, аблічча Маці Свабоды ў Кангрэгацыі Паннаў Ахвяравання Найсвяцейшай Панны Марыі (асабліва тых сясцёр, якія знаходзяцца ў Рыме), а таксама ў абразе Маці Пана ў іх касцёле на Святаянскай у Кракаве.

Ты таксама дапамог мне пакінуць працу рэдактара на Ватыканскім радыё і паехаць на Усход, у Расію, у Сібір. Я не хацеў усё жыццё быць журналістам, перш за ўсё я хацеў быць святаром. 26 верасня 1990 года ў Кастэль Гандольфа, пасля ранішняй святой Імшы для польскіх пілігрымаў, Ты запытаў у мяне, як складваецца маё жыццё. Я выказаў незадаволенасць перспектываю далейшай працы на радыё. Ты ж запытаў: «Чым хочаш займацца?». Я адказаў: «Хачу паехаць у Расію». Ты хвіліну памаўчаў, нібы прыслухоўваючыся да свайго ўнутранага голасу, а потым лёгка ўдарыў мяне па плячы сваім характэрным жэстам і сказаў: «Едзь, браце!».

І я паехаў. Пасля больш чым дваццаці гадоў жыцця ў Сібіры і працы ў Расіі, крыху ў Казахстане, Кіргізіі і ва Украіне, цяпер я з'яўляюся пробашчам у парафіі святога Антонія ў Віцебску, у Беларусі. Для мяне гэта новы досвед святарства, новы досвед паклікання і пастаянная незвычайная радасць у вычарпальнай працы. І таму ў святарстве я адчуваю сябе Тваім братам, бо з Тваёю дапамогаю паверыў у Міласэрнасць Святой Тройцы, у тое, што Бог не пагрэбаваў мною, што я знайшоў ласку ў Пана.

*Пераклала з польскай мовы*
*Ганна Шаўчэнка.*

*Дзякуем рэдакцыі*
*часопіса «Życie duchowe»*
*за дазвол надрукаваць артыкул.*

Да 100-годдзя святой памяці кардынала Казіміра Свёнтка



# ВЯЛІКІ ДАР ЗАХАПЛЕННЯ

Год малітвы ў нашым Касцёле запішацца ў гісторыі, несумненна, і як год кардынала Казіміра Свёнтка, бо 21 кастрычніка спаўняецца 100 гадоў з дня яго нараджэння. Гэтая векавая дата не вельмі стасуецца з тым, каго мы так добра і жыва памятаем, хто яшчэ зусім нядаўна быў побач, здзіўляў і захапляў сваёю душэўнаю маладосцю, аптымізмам і жыццялюбствам. І ўсё ж з часам не паспрачаешся, а 100-гадовы юбілей — добрая нагода яшчэ і яшчэ раз удзячна ўспомніць таго, хто ўжо стаў для нас чалавекам-легендаю, сімвалам адраджэння каталіцкай веры ў нашым Краі і яе непахісным сведкам...

Кардынал Казімір Свёнтэк быў не толькі ахвярным пастырам, але й надзвычай цікавым чалавекам, шматграннаю і таленавітаю асобаю. Ён валодаў дарам слова і тонка адчуваў стылістыку мовы: нездарма адразу пасля гімназіі хацеў паступаць на філалагічны факультэт Віленскага ўніверсітэта; ён быў начытаны, з ім было цікава паразмаўляць пра літаратуру і гісторыю; ён быў дасціпным апавядальнікам, іранічным і мудрым суразмоўцам; ён любіў класічную музыку і іграў на

аргане... Але, апрача ўсяго, было ў нашага кардынала з самай маладосці яшчэ адно захапленне, бадай, самае моцнае — захапленне прыродаю, а ягоную душу поўніла вялікая любоў да ўсяго жывога.

Памятаю нашыя першыя прыезды ў Пінск, на вуліцу Шаўчэнкі, 12, і тое незабыўнае ўражанне ад кветак і дрэваў у садку каля яго хаты: яны былі пасаджаныя, прышчэпленыя, дагледжаныя клапатлівымі святарскімі рукамі, выпеставаныя яго любоўю. Гэта быў ягоны свет — такі адметны, такі непаўторна прыгожы і вельмі дарагі сэрцу кардынала.



Прадчуванне вясны...

Не раз у тэлефонных размовах ён заводзіў гутарку пра тое, што ў ягоным садку расцвіло, што ў той ці іншы час паспела. А бывала напрадвесні, калі ў Мінску яшчэ ляжаў снег і ціснуў марозік, Эмінэнцыя радасна паведамляў, што ў яго каля хаты ўжо зацвілі першыя вясновыя краскі...

Былі выпадкі і гісторыі, якія й цяпер выклікаюць усмешку. Памятаю, калі мы ў сярэдзіне 90-х прыязджалі ў Пінск па рэдакцыйных справах, у доме кардынала нас заўсёды сустракалі два невялічкія, амаль аднолькавыя сабачкі — Тафік і Сафік. Рудыя, калматыя, яны спачатку неяк па-змоўніцку, насцярожана нас аглядалі, абнюхвалі, а потым адразу залазілі пад стол, накрыты доўгім абрусам, і затойваліся там, як быццам іх не было. Але калі Эмінэнцыя запрашаў нас за гэты стол, ён абавязкова паказваў вачыма ўніз і весела падміргваў: маўляў, сядайце, але майце на ўвазе, што мае верныя «целаахоўнікі» на варце. І мы ўжо ні на хвіліну пра іх не забывалі, а самае галоўнае — сачылі за тым, каб залішне не варухнуць пад сталом нагою, бо ў любы момант маглі адчуць сяброўскі пацісk гэтых «целаахоўнікаў» — не вельмі моцны, але ўсё ж... Было ў гэтым і штосьці смешнае, і разам з тым крыху страшнаватае, бо, як вядома, у сабакі зубы не пазычаныя. Але ж мы ведалі й іншае: кранальную любоў Эмінэнцыі да гэтых калматых хітруноў і тое, што ён ім цалкам давяраў... Калі праз нейкі час сабачак не стала, кардынал вельмі перажываў і доўга не заводзіў іншых. Але напрыканцы жыцця па просьбе Эмінэнцыі яму прывезлі сабаку, знойдзенага на вуліцы. Той небарака, відавочна, на ўсю поўніцу спазнаў людскую жорсткасць — быў увесь пабіты і зранены. Апынуўшыся ў доме кардынала, свае крыўды і недавер да людзей спрабаваў не раз спаганяць на новым гаспадары, агрызаючыся на ласку і на спробы лекаваць яго, а часам і да крыві пракусваючы руку, якая ўздымалася, каб яго пагладзіць ці прылашчыць. Калі аднойчы я абурылася такімі няўдзячнымі паводзінамі Філюся (так Эмінэнцыя назваў но-



Як добра, калі цябе любяць...



Маўчанне званоў
у заснежаных дрэвах.



Шчасце сяброўства.

вага сябра), кардынал рашуча запярэчыў: «Гэта не яго віна, гэта віна людзей, якія яго так жорстка пакрыўдзілі. Ён, бедачына, занадта шмат цярпеў, каб так хутка і проста зноў мог паверыць чалавеку. Таму няма чаго наракаць і здзіўляцца...» З гэтым нельга было не пагадзіцца. Здзіўляла іншае — цярплівасць і вялікая чалавечая спагадлівасць Эмінэнцыі, якія ў выніку ўсё ж прынеслі свой плён: Філюсь нарэшце паверыў свайму гаспадару, адчуў і палюбіў яго і ўжо ні на крок ад яго не адыходзіў...



Снапы і нябёсы...

Ніколі не забуду і яшчэ адзін даўні аповед кардынала з часоў яго маладосці. Калі ён працаваў вікарыем у пружанскай парафіі, у іх пры плябаніі быў конь, на якім святары ездзілі да хворых, па калядзе і выязджалі па розных іншых справах. З гэтай плябаніі ў 1944 годзе нкусаўцы забралі маладога святара Казіміра Свёнтка, і назад ён вярнуўся ажно праз дзесяць доўгіх гадоў Гулагу. І якое ж было яго здзіўленне і ўзрушэнне, калі той конь, ужо стары й нямоглы, пазнаў яго па голасе і, як чалавек, даверліва прытуліўся галавою да яго пляча...

Падчас апошняга інтэрв'ю нашаму квартальніку («Наша вера», № 3, 2009), якое было запісана да 95-годдзя кардынала Свёнтка, Эмінэнцыя сказаў: «У якасці кампенсацыі ад Бога за пэўныя адрачэнні (меліся на ўвазе найперш сціплыя ўмовы ягонага побыту. — К. Л.) я меў і маю магчымасць захапляцца прыгажосцю прыроды Палесся». Сапраўды, гэта была яго найвялікшая асалода і яго найбольшае багацце яшчэ з часоў маладосці. З прытоенаю ўсмешкаю кардынал гаварыў: «Выйдзі на ўзлесак, на балота... Пераначуй у стозе сена... Няхай цябе пакусаюць камары... Я жыў гэтым дзясяткі гадоў... Выправы з сабакам Асам на лодцы, начлегі каля ракі... Юшка з чыгунка... А такавання глушцоў не заменіць ніякі самы ўрачысты канцэрт!».



І зноў вясна на Божым свеце...

У гэтым нумары мы знаёмім вас, шаноўныя чытачы, з прыгажосцю прыроды Палесся, якою любаваўся і захапляўся ксёндз Казімір Свёнтэк, якую ён замілавана фіксаваў сваёю фотакамераю, і ў якой заўсёды ўдзячна бачыў і пазнаваў руку Стварцы.

«Чалавек часта слухае гукі прыроды, але не чуе іх, не адчувае, — казаў Эмінэнцыя. — У прыродзе ёсць столькі з'яваў, якія знаходзяцца каля нас, праходзяць праз нас, але мы іх не адчуваем, не разумеем і не можам выкарыстаць... Навука даследуе, пазнае прыроду, але мы ніколі не спазнаем яе да канца, ніколі не зраўняемся з Богам...»

І нічога больш не хочацца дадаваць да сказанага, адно хочацца глядзець вачыма нашага кардынала на хараство дарагога яму Палесся і дзякаваць Богу, што ён у нас быў — ёсць, будзе! Што засталася не толькі яго вялікая пастырская духоўная спадчына, але й багацце яго таленавітай душы і вялікі дар яго захаплення.

*Крыстына Лялько.*

*Фотаздымкі кардынала Казіміра Свёнтка і з яго асабістага фотаальбома.*

Ірына Багдановіч

# «ТАБЕ МАЛЮСЯ, БОЖА МІЛАСЦІВЫ»:

## Беларускі малітоўны верш — даўней і сёння

Малітоўная паэзія ў беларускай літаратуры мае даўнюю і глыбокую традыцыю. Пачатак яе можна аднесці да эпохі ранняга Сярэднявечча, а менавіта да XII стагоддзя, звязаўшы яго з дзейнасцю вядомага беларускага багаслова, манаха, рэлігійнага пісьменніка, епіскапа Тураўскага Кірылы. Асаблівае месца ў пісьмовай спадчыне Кірылы Тураўскага займаюць малітвы, створаныя ім пераважна падчас стоўпніцтва — прынятай ім на сябе формы пустэльніцтва, калі ён, зачыніўшыся ад шумлівага і мітуслівага свету ў «келлі-стоўпе», сам-насам вёў размову з Богам. Менавіта тады ён быў адораны найвышэйшай ласкай стварэння малітваў, якія засталіся ў стагоддзях, а многія з іх у змененым або адаптаваным выглядзе дайшлі да нашых дзён, выконваюцца падчас літургіі і прываблiваюць сэрцы вернікаў шчырасцю і велічнасцю малітоўнага пачуцця. Для малітвы як асаблівага рэлігійна-літаратурнага твора характэрныя такія абавязковыя сэнсава-змястоўныя кампаненты, як падзяка Богу, праслаўленне Ягонай велічы і ўсемагутнасці, усведамленне сваёй чалавечай мізэрнасці, слабасці і грэшнасці, спадзяванне на Божую міласэрнасць, просьба аб апецы і ласках. Малітва — гэта спосаб размовы з Богам, даверу Яму сябе і свайго жыцця, сваіх спадзяванняў і болю. Гэта спосаб вызвалення ад скрухі, разбуральнага ўздзеяння зямной рэчаіснасці, дзе чалавек знаходзіцца ў пастцы выпрабаванняў, цярпенняў і спакусаў. Малітва — гэта, урэшце, туга па Раі, куды чалавек прагне вярнуцца, спадзеючыся на Божую любоў і міласэрнасць.

Вякамі людзі звярталіся да Бога ў сваіх просьбах і спадзяваннях, самыя лепшыя, прачулыя і ўзнёслыя словы шукалі для размовы з Богам. Адкрытаю на малітоўнасць была і паэтычная творчасць, бо паэзія — гэта асаблівы дар, дар слова — зграбнага і гожага, дакладнага і красамоўнага ў выказванні пачуццяў, перажыванняў, адносінаў да свету. Паэты і ўспрымаліся часта як «мадэратары» ў зносінах паміж Богам і людзьмі. Можна сказаць, што ў працэсе рэлігійнай і літаратурнай практыкі на працягу стагоддзяў склаўся асаблівы жанр малітоўнай паэзіі. Ёсць пэўная розніца ў функцыянаванні старадаўніх і новых малітоўных твораў. Так, малітвы Кірылы Тураўскага былі часткаю практычнага штодзённага — прыватнага або царкоўнага — набажэнства. Некаторыя з іх Францішак Скарына змясціў у вядомай «Малой падарожнай кніжцы», выдадзенай у Вільні ў 1522 годзе, напісаўшы для гэтага свайго выдання і ўласныя малітвы. Яны, як і малітвы Кірылы Тураўскага, мелі найперш практычнае рэлігійнае значэнне для вернікаў-падарожнікаў, а цяпер успрымаюцца як прыклады малітоўнай паэзіі.

Малітоўныя ж вершы пазнейшага часу, асабліва пачынаючы з эпохі Барока (канец XVI – сярэдзіна XVIII стагоддзя) і пазней, у XIX–XX стагоддзях, ствараюцца менавіта як літаратурныя творы і набываюць выразныя літаратурна-мастацкія абрысы: рэгулярныя метрыку, рытміку, рыфмоўку, графічны выгляд. Тэматычна яны маюць тыя ж традыцыйныя сэнсава-зместавыя кампаненты, пра якія ўжо згадвалася вышэй. Вершы малітоўнага характару пішуцца найперш як літаратурныя творы, але ў далейшым яны маглі станавіцца (і станавіліся або не) тэкстамі практычнага літургічнага ўжытку, маглі выконвацца ў той ці іншай форме (спявацца як гімны або духоўныя песні) падчас набажэнстваў. Такі шчаслівы лёс напаткаў, прынамсі, два шырокавядомыя паэтычныя творы, што паўсюдна гучаць у беларускіх касцёлах: гэта духоўная песня «Дай, добры Божа, зару й сонца бачыць», напісаная паэтам і святаром Вінцуком Адважным (а. Язэпам Германовічам) як перастварэнне на сучасную беларускую мову «Малітвы да Святой Тройцы» Кірылы Тураўскага, і верш «Малітва» («Магутны Божа! Уладар сусветаў...») Наталлі Арсенневай, які стаў сапраўдным велічным народным рэлігійным і патрыятычным гімнам. Можна сюды аднесці і такія добра вядомыя сучасным вернікам творы, як касцёльныя «Песня ранішняя» і «Песня вячэрняя», блізкія да польскамоўных вершаў Францішка Карпінскага (а на сучасную беларускую мову іх, найбольш верагодна, пераклаў Янка Купала). Гэтыя творы былі змешчаныя ў

---

**Ірына БАГДАНОВІЧ** — паэт і літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук. Нарадзілася ў г. Лідзе на Гродзеншчыне. Скончыла гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржуніверсітэта (1978) і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі (1983). Аўтар кніг вершаў «Чаравікі маленства» (1983), «Фрэскі» (1989), «Вялікдзень» (1993), «Сармацкі альбом» (2004), «Прыватныя рымляне» (2006), «Душа лістападу» (2012), манаграфіі «Янка Купала і рамантызм» (1989), «Авангард і традыцыя: беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння» (2001), укладальнік зборнікаў «Казімір Сваяк. Выбраныя творы»(2010) і «Вінцук Адважны. Выбраныя творы» (2011). Перакладае з польскай мовы. Жыве ў Мінску.

«Кантычцы», якую ў 1914 годзе выдала віленская беларуская друкарня «Зніч», і з таго часу яны сталі папулярнымі духоўнымі песнямі.

Жанр малітоўнай паэзіі актыўна развіваецца і сёння. 2014 год, як вядома, абвешчаны ў Касцёле Годам малітвы. З гэтай нагоды мы распачынаем знаёміць нашых паважаных чытачоў з узорамі беларускіх малітоўных вершаў — даўнейшых і новых, якія шчодра прадстаўлены ў айчынным прыгожым пісьменстве малітоўнымі творамі згаданых ужо Кірыла Тураўскага ды Францішка Скарыны, а таксама вершамі Сімяона Полацкага, Францішкі Уршулі Радзівіл, Францішка Карпінскага, Адама Міцкевіча, Адама М-скага (Зоф'і Манькоўскай), паэтаў-святароў Казіміра Сваяка, Андрэя Зязюлі, іншых духоўных і свецкіх аўтараў, галасы якіх дайшлі да нас праз стагоддзі і гучаць сёння.

У гэтай публікацыі мы знаёмім чытачоў часопіса з яшчэ адным узорам перакладу на сучасную беларускую мову а. Язэпам Германовічам (Вінцуком Адважным) малітваў Кірылы Тураўскага да Багародзіцы. У аснову верша пакладзены некалькі малітоўных тэкстаў Кірылы, апрацаваных паводле традыцыйных правілаў версіфікацыі, з захаваннем ключавых зваротаў і вобразных сродкаў арыгіналаў. Гэты верш, у адрозненне ад «Малітвы да Св.Тройцы», невядомы шырокаму колу чытачоў.

Св. Кірыла Тураўскі
Пераклаў на сучасную беларускую мову
а. Язэп Германовіч (Вінцук Адважны)

# МАЛІТВА ДА БОЖАЕ МАЦІ*

Цара Святога, о, добрая Маці,
Глянь літасціва на грэшнага сына:
Руку падай мне — не дай прападаці, —
Вызваль ад грэху, надзея адзіна!

Увесь я грэшны душою і целам, —
Вачэй падняці да Цябе не смею:
Малюся з плачам, каб Ты захацела
Мне даць ратунак, як маю надзею.

Хрыста радзіла: Ён мёртвых ажывіць. —
Ратуй мяне Ты — ў грахох паміраю:
Твая малітва мяне ашчаслівіць, —
З Хрыстом паўстану і Бога пазнаю.

Ад стрэл варожых духа вельмі злога
Твой шчыт надзеі мяне абароніць:
Нягодных д'яблаў, (а іх надта многа!),
Твой меч магутны у пекла прагоніць.

Заграз я ў злосці, глыбей западаю;
Каб я не згінуў ганебна ў астатку,
Вырві з балота, падыймі з упадку,
Сын блудны — ласкі Тваёй выпрашаю!

Загады Сына Твайго я пакінуў, —
Я адвяртаўся ад Яго навукі:
О, Найсвяцейша, каб жа я не згінуў,
Ратуй ад пекла — ад вечнае мукі!

А цемра грэху мяне агарнула,
О, асвяці нас сваёю зарою! —
Сляпая немач да зямлі прыгнула —
Пайду да Бога я разам з Табою.

Найпрыгажэйша, цудоўна лілея,
Ты між жанчынаў — з усіх кветак Дзева,
Божая Маці, магутна надзея,
Брама да неба, Ты — райскае дрэва!

Грахі як воды мяне абступілі:
Думкі нягодны і словы бясстыдны
Так з галавою мяне затапілі —
Стаўся, як дрэва гнілое, агідны.

Цябе вітаю і надзею маю,
Чыстая Дзева, маё ачышчэнне,
О, Маці Божа, у бядзе канаю:
Сваёю ласкай прыспяшы збаўленне!

Мяне раздзерці і пажорці хоча
Люты звер-вораг, (яму душаў мала!),
Каб Цябе бачыць, адчыні мне вочы,
Язык ачысці — пяяць Тваю хвалу!

«Вітай, Марыя!» клічу з арханёлам
Усёй душою — пяю цэлай сілай:
Прад Божым Тронам, прад нябескім хорам —
«Радуйся шчасцем у Айчыне мілай!»

Богу у Тройцы — вечна хвала ў небе:
О, Маці Божа, ведаеш дарогу —
Саму бліжэйшу — у маёй патрэбе —
Мае малітвы пакажы ўсе Богу!
Аман.

* Друкуецца паводле часопіса «Божым шляхам» (Лондан, 1967 г., № 1 (100)).

Марына Пашук

# ЭДЭН



Ян Брэйгель. «Эдэнскі сад» (1610-1612).

*Мары людзей з'яўляюцца часткай іх гісторыі
і тлумачаць многія іх учынкі.*

М. Рыўз

Гісторыю, апісаную ў Бібліі на першых яе старонках, ведае амаль кожны чалавек, незалежна ад таго, ці ён з'яўляецца веруючым, ці не, ці калі-небудзь трымаў Біблію ў сваіх руках альбо не. Гэтай гісторыі прысвечаны многія мастацкія творы, напісана шмат славутых карцін. Захапленне гэтай першаснай рэчаіснасцю, створанай Богам для чалавека, такое вялікае, што некаторыя яе сімвалы нават пераваНдравалі ў нашае жыццё. Мы да іх настолькі прызвычаіліся, што ўжо не ўспрымаем іх у кантэксце рэлігіі. З прыкладамі такога цалкам зямнога звароту да гэтай біблійнай гісторыі мы сустракаемся вельмі часта, хоць бы, напрыклад, на шыльдах горада.

...Напэўна, большасць, прачытаўшы загаловак артыкула, захацела паправіць яго: маўляў не Эдэ**н**, а Эдэ**м**! Бо так усюды пішуць і так заўсёды гавораць! Найлепшым адказам будзе тэкст самой Бібліі.

*І пасадзіў Пан Бог сад у Эдэне[1] на ўсходзе, і пасяліў там чалавека, якога стварыў (Быц 2, 8).*

У Габрэйскай Бібліі, якая з'яўляецца арыгінальным тэкстам Старога Запавету, з якога робяцца ўсе пераклады, слова «Эдэн» запісанае наступным чынам – עֵדֶן (ʿḗḏen). У канцы яго стаіць літара габрэйскага алфавіту נ «нун», якая ніяк не можа чытацца як «м». Адкуль жа з'явіўся Эдэ**м**? Адказ, як заўсёды, вельмі просты: з грэцкага перакладу Габрэйскай Бібліі, а канкрэтна — з Сэптуагінты. Чаму так сталася? Відаць, перакладчыкам больш падабалася па гучанні слова «Эдэм»[2], чым «Эдэн»! Аднак сёння наўрад ці мы зможам атрымаць на гэта нейкі канкрэтны адказ. Ды і ці патрэбны ён?..

У Старой і ў Новай Вульгаце габрэйскае ʿḗḏen паслядоўна перадаецца як *Eden*. Ды і ўсе пераклады, апроч рускага сінадальнага і балгарскага[3], падаюць гэтае слова з літарай «н» на канцы[4]. Таму па форме перадачы гэтага слова ў перакладах Бібліі можна зразумець, якім тэкстам пры перакладзе карыстаўся аўтар[5].

Якое ж паходжанне мае назва Эдэн? Чаму сад[6], у якім Пан Бог пасяліў чалавека, мае менавіта такую назву? Наконт гэтага ёсць два меркаванні. Адно, што слова паходзіць ад шумерскага *edin*[7], другое — ад семіцкага кораня *edn*, які выкарыстоўваўся для азначэння раскошы, багацця, празмернага дастатку, прыемнасці. Гэты ж корань *edn* існуе ў стараарамейскай, угарыцкай, старажытнай паўднёваарабскай і арабскай мовах. Назоўнік עֵדֶן вельмі часта быў звязаны нават з паняццем прысмакаў і далікатэсаў (пар. Быц 49, 20; Ер 51, 34;

---

**Марына Пашук** – супрацоўніца Секцыі па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Касцёла Камісіі Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамэнтаў пры ККББ. Выкладчык Святога Пісання (Стары Запавет) Мінскага тэалагічнага каледжа імя св. Яна Хрысціцеля. Закончыла філалагічны факультэт БДУ (1993) і Акадэмію каталіцкай тэалогіі ў Варшаве (1998).

Пс 36, 8; Пл 4, 5).

Ва ўяўленні старажытных габрэяў Эдэн — гэта багатае на ваду ўраджайнае месца, дзе буяе розная расліннасць. З этымалогіі слова таксама вынікае, што гэта шчодра арошаная зямля. І тэкст Бібліі гэта пацвярджае вобразам ракі, якая цячэ праз сад:

*З Эдэна выцякала рака, каб абвадняць гэты сад, і там раздзялялася на чатыры ракі* (Быц 2, 10).

Адкуль такі вобраз? Справа ў тым, што першыя старонкі Бібліі ўзніклі падчас Бабілёнскай няволі. Габрэі памяталі пра сваю радзіму, памяталі і пра сад Ягвэ каля Ярдана. Ды і пра пустыню яны ведалі не са словаў, бо не раз сутыкаліся з яе жорсткай рэальнасцю. Аазіс на пустыні паўставаў перад імі як ратунак, як надзея, як гарантыя жыцця. З такім незвычайным аазісам падчас Бабілёнскай няволі яны сустрэліся ў краіне Міжрэчча, паміж дзвюма вялікімі рэкамі — Тыграм і Еўфратам. Таму і размясцілі яны гэты сад (*gan*) на ўсходзе, каля Персідскага заліва. Гэтае размяшчэнне дазваляе звязваць Эдэн з краінай Дзілмун з шумерскага міфа пра бога Энкі, з ідэальнай краінай, жыхары якой не ведалі старасці, хваробаў і смерці. Дзілмун таксама навадняе падземная крыніца, бо вада — гэта неад’емная ўмова жыцця і плоднасці на Усходзе.

Магчыма, старажытныя габрэі прынялі існуючыя пазаізраэльскія традыцыі аб Эдэне для таго, каб расказаць пра сяброўства першых людзей з Богам і пра іх упадак. Таму яны, пайшоўшы самым простым шляхам, дэміфалагізавалі паданні пра Эдэн. Хоць назва была запазычана з міфаў, аднак біблійныя аўтары надалі ёй новае, сімвалічнае, значэнне. Уводзячы прыназоўнік «у» — גַּן־בְּעֵדֶן [gan-bəʿēḏen] ‘сад у Эдэне’ альбо проста праз выраз עֵדֶן ‘Эдэн’ (Быц 2, 10), яны паказвалі, што гаворка ідзе пра канкрэтную краіну, якая нагадвала людзям краіну Біт-Адзін, што знаходзілася над сярэднім Еўфратам. Гэтая краіна Эдэн, паводле іх уяўленняў, займала вялікую тэрыторыю, на якой знаходзіўся сад меншых памераў.

У кнізе Быцця слова «Эдэн» выкарыстоўваецца ў двух значэннях. Яно тройчы (2, 8. 10; 4, 16) азначае геаграфічную краіну на ўсходзе, у якой знаходзіцца сад[8], альбо проста Эдэн (2,10). У трох іншых выпадках (2, 15; 3, 23-24) яно ўжо не азначае краіны, але з’яўляецца ўласнай назвай саду[9] (2,15). Гэта сведчыць аб тым, што натхнёныя аўтары не былі да канца паслядоўнымі ў дэміфалагізацыі, таму тройчы Эдэн застаўся (падобна міфам) назваю саду, а не краіны.

Што тычыцца чатырох рэк, якім дала пачатак Эдэнская рака, то Юзаф Флавій так тлумачыў іх назвы: *Пішонам*, што азначае «мноства», грэкі называлі Ганг, *Гіхон*, што азначае «рака, якая плыве да нас з супрацьлеглага боку», — гэта Ніл; астатнія дзве ракі называюцца канкрэтна ў самім тэксце Бібліі: *Chiddekel*[10] — Тыгр і *Prat*[11] — Еўфрат. А значыць, біблійныя аўтары мелі пэўныя геаграфічныя веды, бо ведалі пра гэтыя чатыры вялікія ракі Усходу. Менавіта гэта яны і адлюстравалі ў Бібліі.

Вобраз саду таксама невыпадковы. У месапатамскай міфалогіі прыгожыя сады лічыліся сядзібамі бостваў. Асірыйскія і бабілёнскія каралі ганарыліся сваімі садамі. Раслі ў іх пладаносныя дрэвы, кедры і розныя віды іншых прыгожых дрэваў. Сады мелі такія памеры, што нагадвалі нават сучасныя вялікія паркі. Кожны кароль хацеў, каб слава пра яго сады разыходзілася далёка за межамі краіны, таму для гэтага прыкладаліся розныя намаганні.

Бабілёнскія санктуарыі былі таксама акружаныя прыгожымі садамі. Менавіта гэта аказала ўплыў і на міфатворчасць. Найбольш вядомым і самым старажытным адпаведнікам саду ў Эдэне з’яўляецца, як ужо згадвалася, міфічная краіна шчасця — Дзілмун. Безумоўна, як і ў выпадку біблійнага саду Эдэн, беспадстаўнымі будуць пошукі геаграфічнага размяшчэння краіны Дзілмун, у якой пануюць згода і гармонія паміж звярамі і людзьмі.

Для старажытных егіпцянаў прыгожыя сады таксама сімвалізавалі краіну шчасця, але больш у дачыненні да памерлых (краіна памерлых), а не да стану шчасця ў прагісторыі, як у выпадку Эдэна.

Назоўнік ʿḗḏen сустракаецца у Бібліі 14 разоў, больш за ўсё — аж 12 — у кнізе Быцця (6) і ў кнізе Эзэхіэля (6). У адной і ў другой кнізе Эдэн выступае як назва альбо саду, альбо месца ці рэгіёна, у якім знаходзіўся гэты сад. Эзэхіэль «размяшчае» сад Эдэн на святой Божай Гары (28, 13), а ў іншым фрагменце (36, 16-38) з Эдэнам параўноўвае сваю краіну, якая з вяртаннем выгнаннікаў пасля Бабілёнскай няволі на сваю зямлю — Ізраэль — настолькі змянілася, што стала падобнай да Эдэна з кнігі Быцця. Гэтае адраджэнне зямлі азначае перамогу Бога, які мае моц жыццядайнага будавання і стварэння новага «саду шчасця». Такім чынам, у прарока Эзэхіэля Эдэн становіцца метафарай аднаўленай Богам краіны Ізраэля пасля вяртання яе сыноў з выгнання.

Два іншыя выпадкі выкарыстання слова «Эдэн» паходзяць з кнігі прарока Ісаі і з кнігі прарока Ёэля. У кнізе Ісаі Эдэн побач з «садам Ягвэ» з’яўляецца ў прадказанні раднасай будучыні Сіёна:

*Так, Пан суцешыць Сіён, суцешыць усе ягоныя руіны. Яго пустыню Ён ператворыць у Эдэн, а яго стэп стане быццам сад Пана*[12]*. І будзе ў ім радасць і вяселле, хвалебная песня і гучанне музыкі* (Іс 51, 3).

А ў кнізе Ёэля гучыць сумнае прадказанне, што ў дзень Ягвэ зямля, што нагадвала эдэнскі сад, ператворыцца ў пустыню з прычыны грахоў народу:

*Затрубіце ў трубу на Сіёне, крычыце на гары Маёй святой, няхай спалохаюцца ўсе жыхары зямлі, бо прыходзіць дзень Пана, бо ён блізка. Дзень цемры і змроку, дзень воблачны і імглісты! Як світанне, разыходзіцца па гарах народ вялікі і моцны, якога не было спрадвеку, і пасля яго ўжо не будзе з пакалення ў пакаленне. Перад ім — пажыраючы агонь, а за ім палючае полымя; гэтая зямля перад ім, як сад Эдэн, але за ім яна стане пустым стэпам* ...(Ёл 2, 1-3).

У тэксце Сэптуагінты і Вульгаты ў некаторых выпадках выразы Эдэн і сад (*gan*) перакладаюцца накшталт персідскага[13] як *pardes* 'сад' (пар. Быц 3, 28) і выкарыстоўваецца ўжо не як уласная назва, а як азначэнне ο παράδεισος τῆς τρυφῆς 'сад раскошы, шчодрасці' (пар. Быц 3, 23.24). Пазней гэтае ж грэцкае ο παράδεισος[14] [*paradeisos*] у лацінскім тэксце як Старога так і Новага Запавету будзе перададзена як *paradisus*, а ўсе славянскія пераклады пададуць яго ўжо як *рай*. Узгадаем хоць бы словы Езуса, скіраваныя да «добрага» злачынцы:

*І сказаў яму Езус: «Сапраўды кажу табе: сёння будзеш са Мною ў раі»* (Лк 23, 43).

Так з часам Эдэн, месца, дзе Бог змясціў першых людзей, якіх стварыў, усё часцей стаў называцца сярод славянаў *раем*.

Старазапаветны вобраз раю прымуць аўтары Новага Запавету, а Павел у сувязі з гэтым скажа нават пра «трэцяе неба»:

*Калі трэба хваліцца, хоць гэта і некарысна, то перайду да бачанняў і аб'яўленняў Пана. Ведаю чалавека ў Хрысце, які чатырнаццаць гадоў таму (ці ў целе, не ведаю, ці па-за целам, не ведаю, ведае Бог) быў забраны аж да трэцяга неба. І ведаю, што гэты чалавек (ці ў целе, ці па-за целам, не ведаю, ведае Бог) быў забраны ў рай*[15] *і чуў невыказныя словы, якіх чалавеку нельга перадаць* (2 Кар 12, 1-4).

Некаторыя габрэі і хрысціяне, якія верылі ў існаванне зямнога раю, лічылі, што пасля першароднага граху гэты рай быў перанесены ў неба, а больш канкрэтна — да «трэцяга неба», куды быў забраны св. Павел. І нельга было блытаць яго з «сёмым небам» вечнага шчасця і благаслаўлёнай візіі, куды паводле некаторых габрэйскіх і хрысціянскіх уяўленняў, увайшоў Езус Хрыстус. Зыходзячы з гэтага, можна сказаць, што некаторыя новазапаветныя фрагменты сведчаць, што мучанікі за веру так-сама ўваходзяць у найвышэйшую сферу — у «сёмае неба», дзе знаходзяцца непасрэдна перад Ягнём і чакаюць уваскрашэння (пар. Ап 6, 9-11; 7, 9-17).

У Эдэне Адам і Ева, нашыя прабацькі, спазналі блізкае сяброўства з Богам, але затым, паддаўшыся спакусе, парушылі Божы наказ і зграшылі. Пасля ўпадку яны былі беспаваротна выдаленыя з Эдэна (Быц 3, 24). Такім чынам, Эдэн, звязаны з біблійнай прагісторыяй свету, стаў сімвалам стану, да якога няма вяртання, месцам прыгожым і багатым на ўсё, а таксама страчаным назаўсёды.

Усё, што адбылося ў садзе Эдэн, — спакуса і ўпадак — адлюстравана на старонках Новага Запавету як першародны грэх, што стала адным з фундаментаў разбудаванай хрысціянскай тэалогіі. У Новым Запавеце канцэпцыя раю набывае эсхаталагічныя рысы: першаснае шчасце свету, у якім пануе Бог, магчымае толькі ў будучыні. У хрысціянскім разуменні рай — гэта стан найвышэйшага і канчатковага шчасця, якое чакае справядлівых пасля смерці, гэта дар Бога для чалавецтва.

...Здаўна людзі задавалі і задаюць сабе пытанні пра першаснае шчасце чалавека, пра рай. І ніколі не пераставалі марыць аб ім. Гэтыя мары ў многім кіравалі і кіруюць іх паводзінамі, бо кожны хоча, каб гэтая прыгожая рэчаіснасць — сузірання Бога тварам у твар — магла стаць таксама і яго лёсам.

---

[1] Габр. עֵדֶן [ʿḗḏen].
[2] Грэцк. Εδεμ [Edem].
[3] Гэта абумоўлена, напэўна, перакладчыцкай традыцыяй, бо ў якасці асноўнага ў праваслаўным перакладзе бярэцца грэцкі тэкст, у дадзеным выпадку Сэптуагінта.
[4] Перавандравала гэтае «м» і ў пераклад В. Сёмухі, які карыстаўся Сінадальным тэкстам Бібліі.
[5] У перакладзе кс. Ул. Чарняўскага – Эдэн.
[6] Габр. גַּן [gan].
[7] Азначае раўніну, стэп ці зямлю, якая добра абвадняецца і таму патэнцыяльна ўраджайная, альбо інакш — аазіс.
[8] Гбр. גַּן־בְּעֵדֶן [gan-ḇəʿḗḏen] 'сад у Эдэне' альбо проста עֵדֶן 'Эдэн'.
[9] Гбр. גַּן־עֵדֶן [ḡan-ʿḗḏen] 'сад Эдэн'.
[10] Габрэйская назва ракі Тыгр – חִדֶּקֶל.
[11] Габрэйская назва ракі Еўфрат – פְּרָת.
[12] Габр. גַּן־יְהוָה [ḡan-yhwh] 'сад Ягвэ'.
[13] Старажытнаперсідскае *pairi-daera* (альбо, як падаюць некаторыя перакладчыкі, *apiri daeza*) 'агароджаны сад, парк, лес' старагабрэйская мова запазычыла ў форме *pardes* як больш класічны тэрмін для азначэння саду.
[14] Сад, парк, агароджанае месца, прыемнае прыгожае месца.
[15] У грэцкім арыгінале тут ужыта слова παραδεισος.

Стэфан Свяжаўскі

# СВЯТЫ ТАМАШ, ПРАЧЫТАНЫ НАНАВА

## X. ПЕРШАЯ ПРЫЧЫНА – ПРЫЧЫНЫ ДРУГАСНЫЯ

Ёсць вялікая розніца паміж ствараннем і вытворчасцю. Вядома, што існуе падабенства паміж мастаком і рамеснікам. Гэтую думку выкарыстоўвае Платон у *Тымэі*, дзе Дэміург лепіць свет з гліны. Сапраўды, ёсць пэўная аналогія паміж Богам і мулярам ці скульптарам; але менавіта тут крыецца небяспека. Калі гэтая аналогія праводзіцца занадта літаральна, яна прыводзіць да паняцця пра нейкае бясформнае творыва, якое з'яўляецца нібыта роўным працягласцю ў вечнасці з творцам, які яго выкарыстоўвае. Але ў Богу гэта абсалютна не так. Стварэнне — гэта штосьці цалкам іншае, чым мастацкая творчасць, яно ёсць нададзеннем існавання створанай рэчы. Творца — мастак, рамеснік — ёсць толькі прычынай узнікнення рэчы, ён з'яўляецца г. зв. *causa fiendi* — прычынай з'яўлення, а Стварца ёсць прычынаю існавання. Выяўляецца вельмі істотная розніца паміж гэтымі прычынамі. *Nomen causa* (зразумела, што тут гаворка ідзе пра *causa efficiens* — дзейную, стваральную прычыну) *importat influxum quemdam ad esse causati* (*Каментарый да Метафізікі* — V, 751). Гэта значыць, што паняцце прычыны абумоўлівае і цягне за сабой пэўны ўплыў на існаванне таго, што спрычынена, што з'яўляецца вынікам дзеяння прычыны, альбо што дзейная прычына заўсёды перадае выніку нейкае існаванне.

Калі б Бог стварaў быты, якія маглі б існаваць без Божага дзеяння, што надае існаванне, Ён стварaў бы спрэчныя быты, бо стварaў бы «багоў», а паняцце створанага Бога нясе ў сабе супярэчнасць (гл. *Contra gentiles,* II, 25). Але — і гэта важна — усе стварэнні, кожнае ў сваёй сферы, таксама з'яўляюцца дзейнымі прычынамі. Рэчаіснасць уладкаваная не так, што ёсць толькі адна дзейная прычына, якою ёсць Бог. Бог падтрымлівае ў існаванні ўсё, што нас атачае, і нас саміх, якія з'яўляемся прычынамі, абмежаванымі ў сваім абсягу, вельмі вузкім ці крыху шырэйшым. Усе створаныя рэчы з'яўляюцца другаснымі прычынамі — і толькі Бог ёсць першай прычынаю, прычынаю ўсіх прычын. Бог, як было ўжо сказана, бліжэй да нас, чым мы самі да сябе. Падобна і тут — *Deus principalius est causa cuiuslibet actionis quam etiam secundae causae agentes* (*Contra gentiles,* III, 67, 5) — Бог больш поўным, больш сапраўдным і больш дзейсным чынам з'яўляецца прычынаю ўсялякага дзеяння, чым другасныя дзейныя прычыны. Гэта значыць, што ў дзеяннях усіх стварэнняў Бог ёсць больш прычынаю, чым самі гэтыя стварэнні.

Тут адкрываецца велізарнае поле для дыскусіі: бо як жа гэта — Бог з'яўляецца таксама прычынаю ўсіх тых дрэнных справаў, якія робяць людзі? Тамаш адказвае на гэта: Бог — прычына ўсіх прычын, як вымушаных, гэтак і свабодных. Бог нагэтулькі цэніць свабоду, свабода такая вялікая рэч, якая — як пабачым — з'яўляецца ўласцівасцю анёлаў і людзей, што будучы прычынаю ўсіх прычын, Ён таксама ёсць першапрычынаю свабодных дзеянняў у свеце свабоды. Гэтае ўніверсальнае дзеянне першай дзейнай прычыны, Бога, здзяйсняе ўсё ва ўсім, але не знішчаючы свабоды, хоць ёсць сапраўднай прычынаю. Тут ізноў таямніца. Бог ёсць прычынаю ўсіх прычын — як неабходных, вымушаных, гэтак і свабодных, не адмяняючы неабходнасці і не знішчаючы свабоды.

Універсальная і найглыбейшая дзейнасць першай прычыны не змяншае, аднак, аўтэнтычнай актыўнасці стварэнняў. Мала якая філасофія, калі можна так сказаць, гэтак моцна сцвярджае аўтаномію, самастойнасць створаных бытаў. Кожны чалавек сапраўды ўладар сваіх учынкаў, жывёлы сапраўды з'яўляюцца прычынамі сваіх дзеянняў — як і расліны, мінералы, атамы. А ўсё гэта, усе гэтыя прычыны, як бы ўносяцца і выклікаюцца апошняю прычынаю — дзеяннем Божай волі.

У сувязі з гэтым звернем увагу на два выказванні св. Тамаша. Вось першы тэкст: *Prima causa ex eminentia bonitatis suae rebus aliis confert non solum*

---

*Працяг. Пачатак у № 3 за 2011 г.*

*quod sint, sed etiam quod causae sint (De veritate,* XI, 1) — Першая прычына з найвышэйшай ступені сваёй дабрыні (*ex eminentia bonitatis suae)* не толькі дае іншым рэчам тое, што яны існуюць, але таксама тое, што яны ёсць прычынамі. Удзел стварэнняў у Богу палягае ў тым, што яны таксама з’яўляюцца прычынамі. Яны ўдзельнічаюць не толькі ў самаісным існаванні, якім ёсць Бог, але таксама ў тым, што Бог ёсць прычынаю. Яны адлюстроўваюць, кожнае ў іншай ступені, апошнюю прычыну — Бога. Адсюль вынікае другое выказванне, якое з’яўляецца цудоўным *credo* гуманізму св. Тамаша і якое можна лічыць дэвізам яго думкі: *Detrahere actiones proprias rebus est divinae bonitatis derogare (Contra gentiles,* III, 69, 16) — пазбаўляць рэчы іх уласных дзеянняў — гэта значыць прымяншаць Божую дабрыню. Гэта важны сказ. Мы робім з яго выснову, што чым больш стварэнне развіваецца, тым больш выяўляе дасканаласць Бога, тым паўней выяўляецца ў ім гэтая *bonitas Dei*, гэтая Божая дабрыня.

Св. Тамаш хоча сказаць, што ніводзін быт не можа па-сапраўднаму імкнуцца да Бога як да сваёй мэты, калі не кіруецца да свайго ўласнага, прызначанага для яго дабра. Гэта аснова аўтаноміі прамінальных рэчаў, якую так моцна падкрэсліваў Марытэн: кожны быт павінен развіцца згодна з правамі, якія ўласцівыя ягонай прыродзе, дасягнуць пэўнай меры развіцця, і толькі тады ён можа напоўніцу прычыніцца да Божай хвалы. Таму св. Тамаш кажа цалкам адназначна: *Unumquodque tendens in suam perfectionem tendit in divinam similitudinem* (*Contra gentiles*, III, 21, 6) — кожны быт, імкнучыся да сваёй уласнай дасканаласці, імкнецца да падабенства Богу. Гэтую думку св. Тамаша Жыльсон выказвае так: *...sauvegarder les droits de la crüature, c’est... le seul moyen de sauvegarder les droits de Dieu*[1] — захаванне правоў стварэнняў — гэта адзіны спосаб захавання правоў Божых. Гэта моцныя словы. Ніколі нельга парушаць правы стварэнняў, а захаванне, поўнае развіццё і прызнанне гэтых правоў, усяго таго, што вынікае з прыроды, гэта найлепшы спосаб захаваць моц правоў Бога.

На гэтым фоне мы таксама лепш разумеем тое бачанне свету, якое меў св. Бонавэнтура, хоць ягоная думка вынікае з іншых крыніцаў, мае іншы кантэкст, але яна блізкая да выкладзеных тут поглядаў св. Тамаша. Для св. Бонавэнтуры ўвесь свет — гэта нібы адна вялікая сістэма люстэркаў: люстэркі маленькія ці вялікія, вельмі чыстыя ці менш чыстыя, але ўсе яны павінны адлюстроўваць Бога, паказваючы Божую дасканаласць. Св. Тамаш ясна кажа, што гэтае падабенства Божай дасканаласці дасканала рэалізуецца толькі і выключна ў Слове: *in Verbo*. Толькі Божае Слова, народжанае, а не створанае, — поўнае і дасканалае адлюстраванне хвалы Айца.

Аднак ці можна лічыць свет, у якім столькі зла, Божым люстэркам? Часта чуваць пытанне: чаму Бог не стварыў такога свету, каб у ім не было зла? Філосаф, які павінен падыходзіць да кожнага пытання з халодным розумам, глядзець на прычыны і — наколькі гэта магчыма — унікаць пачуццёвага баласту, калі будзе мысліць правільна і ўважліва, мусіць прыйсці да такой высновы: як Бог не можа стварыць спрэчнага быту, гэтаксама Ён не можа паклікаць да існавання дасканалага быту, бо дасканалы быт у дакладным значэнні гэтага слова быў Богам. Вось жа, ніводзін быт, ні цалкам, ні ў якойсьці сваёй частцы, не можа быць цалкам дасканалым бытам. Чыстае здзяйсненне можа быць толькі адно, не можа быць двух Багоў. Св. Тамаш разважае: калі такія непарушныя правы рэчаіснасці, калі Бог не можа стварыць цалкам дасканалага быту, то найбліжэйшым, магчымым для рэалізацыі водбліскам дасканаласці будзе стварэнне цэлай шкалы бытаў ад найменш дасканалых да як мага найдасканалейшых. І ў гэтым ёсць нібы пэўная трагедыя: найбольш дасканалы створаны быт тым самым павінен быць бытам найбольш свабодным, бо гэта будзе найдасканалейшы дух, а поўная свабода ў сваю чаргу палягае ў тым, што гэты створаны дух можа выбраць дабро ці зло. З гэтага вынікае глыбокая падстава для выпрабавання і бунту анёлаў, а таксама для  выпрабавання і бунту чалавека, як першага чалавека, так і ўсіх нас. Гэта лёс кожнай духовай істоты: яна мусіць прайсці праз выпрабаванне свабодаю.

Сутнасць зла ў тым, што ў нейкім быце ёсць недахоп дабра, якое гэты быт павінен мець. Св. Тамаш піша ясна: *Privatio est eius quod quis natus est habere et debet habere. In privatione sic accepta est ratio mali (Contra gentiles, III,* 6, 1) — недахоп — гэта недахоп таго, што штосьці ці хтосьці з сваёй прыроды, сутнасці павінен мець. На недахопе, зразуметым такім чынам, і грунтуецца сутнасць зла. Гэта недахоп, які вынікае таксама з недасканаласці матэрыяльнага чынніка ў цялесным свеце. Вялікай таямніцай з’яўляецца залежнасць узроўню дасканаласці цялеснага чынніка ад стану духу ва ўсім свеце. Ёсць такія тэалагічныя тэорыі, якія сцвярджаюць, што ўвогуле ўсё матэрыяльнае зло пачало мучыць чалавецтва і свет ў выніку ўчыненых людзьмі грахоў. Калі б першародны грэх

не меў сваіх дрэнных наступстваў, калі б людзі паступалі інакш, то і жывёлы былі б менш злымі. Нам вядомыя прыязныя адносіны святых да жывёлаў — хоць бы св. Францішка ці св. Гераніма, якія сведчаць пра тое, што ёсць нейкая таямнічая залежнасць матэрыяльных вартасцяў, а таксама знішчальнасці, сапсаванасці матэрыяльнага свету ад вартасцяў духу ці ад іх недахопу.

Зло выяўляецца заўсёды альбо як недахоп у гэтым матэрыяльным аспекце, альбо як недахоп належнай арыентацыі ў нашых пазнаваўчых дзеяннях і ў жаданні, звязаным з гэтым пазнаннем, — гэта зло маральнае. Зло, і гэта важна, заўсёды ўкаранёнае ў чымсьці, у нейкай сутнасці, нейкім суб'екце, які ёсць добрым з той прычыны, што з'яўляецца быццём. Нават найбольшае зло (прыгадайма праблему шатана, пра якога ўжо была гаворка) заўсёды змяшчаецца ў суб'екце, які як быт — добры. Таму няма ніякай субстанцыялізацыі ані персаніфікацыі зла. Няма дрэнных рэчаў. Няма людзей дарэшты кепскіх. Ёсць толькі матэрыяльныя недахопы і недахопы духоўныя ў добрых суб'ектах. Калі б мы прыгледзеліся да ўсяго свету, выявілася б, што нічога з таго, што ёсць, не ёсць злом. Сказанае на пачатку Кнігі Быцця ў Аб'яўленні Старога Запавету пра стварэнні, — што яны былі вельмі добрыя — застаецца і надалей цалкам актуальным. Аднак фізічнае і маральнае зло надта адчувальнае! Ці Бог яго прычына?

Бог толькі ў той меры можа быць прызнаны за прычыну зла, што хоча бытаў прамінальных і абмежаваных. Калі б Ён не хацеў такіх бытаў, то ўвогуле нічога б не існавала, а лепш быць, чым не быць, лепш існаваць, чым не існаваць. І таму св. Тамаш кажа ў Суме Тэалогіі: *Deus quasi per accidens causat corruptionem rerum* (I q.49 a.2 c.) — Бог нібы ўскосна, выпадкова *per accidens,* спрычыняецца да сапсавання рэчаў, жадаючы, каб яны ўвогуле існавалі. Рэчы павінны прайсці праз усе фазы матэрыяльнай і духоўнай недасканаласці, каб пазней дасягнуць надпрыроднага стану, пра які вера кажа нам, што ён будзе існаваць «у новым небе і новай зямлі», у жыцці дасканалым, шчаслівым, у якім усё будзе адноўлена, знікнуць слёзы, цярпенні, смутак і гора, і застанецца толькі тое, што ёсць быццём, што ёсць добрым. Але такое бачанне дае вера (пар. Ап 21, 1-4); філасофія не сягае нагэтулькі далёка. Калі ж перад намі паўстае філасофская праблема прычыны зла, то трэба заўсёды памятаць, што Бог — як прычына ўсяго, што ёсць, — з'яўляецца прычынаю зла *per accidens.* Разрозненне *per se* і *per accidens* важнае ў схаластычнай мове: *per se* — значыць з сваёй сутнасці, а *per accidens* — ускосна. Таму толькі ўскосна, выпадкова, незнарок Бог з'яўляецца прычынаю зла. *Per se,* само з сябе, зло вынікае толькі ад недасканаласці другасных прычын, якія не могуць быць дасканалымі, бо калі б у іх не было магчымасці шматлікіх недахопаў і іх наступстваў, то яны ў такім разе не былі б стварэннямі — гэта асноўная думка, якая тут увесь час сцвярджаецца.

Відавочна, умацаванне ўсяго ў дабры, трыванне ўсіх рэчаў, перакананне, што нічога не гіне, што ўсё, што ёсць быццём, застаецца, гэта бачанне веры, якое таксама мае сваё абгрунтаванне ў філасофіі. Бо калі штосьці залежнае ў сваім існаванні ад таго кораня існавання, якім ёсць Бог, то яно таксама ўкаранёнае раз і назаўсёды ў гэтай крыніцы. Таму тут можна ўжыць тое, што сказаў калісьці Галчыньскі пра Баха, — што ў Баху знойдзеш усё[2]; гэтаксама ў Богу мы знойдзем усё, у Богу яшчэ бясконца больш усяго. Нічога з таго, што пачало існаваць, што ёсць — пачынаючы ад найменшага чарвячка ці атама і аж да найвялікшых духовых чынаў людзей і анёлаў — не гіне, усё ёсць у Богу.

Гэта, несумненна, аптымістычны падыход, і можна сказаць, пэўнае спрошчанае вырашэнне праблемы зла. Але гэты адказ здаецца мне адзіным, бо іншае вырашэнне заўсёды несла б у сабе адзнакі маніхейства, вымагала б прызнання дзвюх крыніцаў быту і двух яго відаў: адной — крыніцы дабра, другой — крыніцы зла. Але тады — зло субстанцыяльнае, і тады ёсць рэчы дрэнныя, ёсць дрэнныя быты; ёсць валадарства дабра і валадарства зла. Але такі погляд і з філасофскага гледзішча не вытрымлівае крытыкі і ў аснове сваёй, у корані, супярэчыць веры.

*Працяг будзе.*

*Пераклад з польскай мовы*
*Алеся Жлуткі.*

*Працяг будзе.*

[1] Gilson E. Le Thomisme. — Paris, 1944. — P. 259.

[2] Канстанты Ідэльфонс Галчыньскі (Konstanty Idelfons Gałczyński, 1905-1953) — польскі літаратар і паэт. Відавочна, што тут Свяжаўскі падае недакладную цытату з ягонага верша «Перад запальваннем ялінкі» (Przed zapalieniem choinki): Wszystko coś stracił, wszystko coś zgubił, // W Bachu, bracie, odnajdziesz. — Усё, што страціў, усё, што згубіў, // У Баху, браце, ты знойдзеш.

Ева ЛЯВОНАВА

# «НЕ Я ПРАЛЬЮ КРОЎ ЯГОНУЮ...»

## Вобраз Пілата ў творах расійскага, аўстрыйскага і беларускага пісьменнікаў: да тыпалогіі інтэрпрэтацый



Мікалай Ге. «Што ёсць Ісціна? Хрыстус і Пілат». 1890.

Адным з найбольш запатрабаваных сусветнай літаратурай біблейскіх вобразаў з’яўляецца новазапаветны вобраз Понція Пілата. Понціі, згодна з шэрагам крыніцаў, былі вядомым самніцкім родам, які цягам доўгага часу пастаўляў Рыму «вершнікаў» — воінаў і чыноўнікаў. Вершнікам у шасці пакаленнях, палкаводцам быў і Понцій Пілат (лац. *Pontius Pilatus*). Існуюць шматлікія версіі паходжання дадатковага імя роду Понціяў — Пілат. Паводле адной з іх, яно мае значэнне «чалавек у шапцы», або «чалавек у каўпаку», бо «пілеус» — гэта галаўны ўбор, шапка або лямцавы каўпак. Пішуць, што калі прадавалі раба, пілеус насаджвалі на дзіду; калі ж раба вызвалялі, пілеус надзявалі яму на галаву. Фрыгійскія каўпакі, якія будуць насіць удзельнікі Вялікай французскай рэвалюцыі, — гэта ўсё тыя ж пілеусы. Паводле іншай версіі, продак Понція Пілата ў другім пакаленні

---

**Ева Лявонава** — кандыдат філалагічных навук, прафесар кафедры замежнай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Крытык і навуковец. Працуе ў такіх галінах літаратуразнаўства, як германістыка, беларусістыка, кампаратывістыка, вывучае беларуска-замежныя літаратурна-культурныя сувязі. Апублікавала ў айчынным і замежным друку больш за 400 артыкулаў, навуковых і навукова-метадычных працаў, у тым ліку кнігі «Плыні і постаці: З гісторыі сусветнай літаратуры другой паловы XIX–XX стагоддзяў» (1998), «Беларуская літаратура XX ст. і еўрапейскі літаратурны вопыт» (2002), «Агульнае і адметнае: Творы беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя ў кантэксце сусветнай літаратуры» (2003), «Немецкая литература XX века: Германия. Австрия» (Москва: Флинта; Наука, 2010) і інш. Аўтар і сааўтар многіх вучэбных праграм, вучэбных дапаможнікаў і падручнікаў для выкладчыкаў-славеснікаў, студэнтаў і школьнікаў.

за праяўленую ў бітвах мужнасць быў узнагароджаны пілумам — ганаровым дроцікам (кідальным кап'ём), адсюль нібыта і імя — Пілат.

Понцій Пілат прайшоў усе прыступкі каманднай кар'еры — узначальваў кагорту, пасля — легіён і, нарэшце, на чале адной з армій быў пасланы абараняць межы імперыі ад германскіх і гальскіх плямёнаў. Тут ён атрымаў шэраг бліскучых перамогаў, але замест чаканага заахвочвання быў практычна сасланы імператарам Тыберыем у якасці пракуратара ў правінцыю, пра якую меў досыць туманнае ўяўленне. Глыбока пакрыўджаны і расчараваны, ён тым не менш пагадзіўся на новае прызначэнне. Адлюстраваныя ў Евангеллях падзеі адбываюцца ў Юдэі на пятым годзе дзейнасці Пілата. У час укрыжавання Хрыста пракуратар быў ва ўзросце паміж трыццацю і сарака гадамі. У адпаведнасці са сваёй пасадай ён падпарадкоўваўся намесніку Сірыі Вітэлію-старэйшаму.

Розныя версіі даносяць розныя звесткі пра далейшы лёс легата. Згодна з адной, за злачынства супраць Сына Божага ён быў жорстка пакараны Богам. Згодна з іншай, Пілат быў Вітэліем адпраўлены ў адстаўку з-за нечуванай жорсткасці, з якой ён у хуткім часе пасля ўкрыжавання Хрыста задушыў паўстанне самаранаў. Спадзеючыся апраўдацца, Пілат нібыта накіраваўся ў Рым, але Тыберый на той час ужо памёр, а яго пераемнік Калігула не захацеў нават выслухаць свайго падначаленага. Пасля гэтага Пілата ці то саслалі ў Галію, ці то ён знайшоў прыстанак на Сіцыліі, дзе пісаў філасофскія трактаты, ці то наогул скончыў жыццё самагубствам. У любым выпадку хутка пасля ўкрыжавання Хрыста Пілат знікае з гісторыі. Але — не з памяці чалавечай, у якой ён назаўсёды застанецца асобай, заплямленай саўдзелам у найвялікшым ліхадзействе.

Да вобраза Пілата сусветная літаратурная традыцыя звярталася шматкроць; апроч антычных трактатаў, апокрыфаў, згадаем творы Д. Штраўса, Э. Рэнана, А. Франса, Р. Грэйвза, Н. Мейлера, Э.Э. Шміта, М. Булгакава, А. Лернета-Холенія. Назавём і імя беларускага рускамоўнага пісьменніка В. Іванова-Смаленскага. На інтэрпрэтацыях вобраза Пілата апошнімі трыма з названых аўтараў мы і спынімся.

Вядома, што над раманам «Майстар і Маргарыта» Міхаіл Булгакаў (1891—1940) працаваў з 1928 па 1940 год, да канца сваіх дзён. Працаваў, знаходзячыся ў найцяжэйшым маральным, фізічным і матэрыяльным стане, абумоўленым самымі рознымі фактарамі — разлукай з братамі, «сардэчнай тугой» [3, с. 92] па іх; смерцю пісьменнікаў Я. Замяціна і І. Ільфа, прыналежных да зусім не шырокага кола яго сяброў; беспрасветнай адзінотай і элементарнай галечай; галоўнае ж — забаронай на публікацыі і пастаноўкі (іграліся толькі «Дні Турбіных»), шалёным цкаваннем, абвінавачваннямі ў «рэакцыйнасці», «няздарнасці», «убостве», «замаху на савецкі лад». 27 сакавіка 1929 года А.С. Булгакава робіць у дзённіку запіс: «Становішча наша страшнае» [3, с. 8], а роўна праз год, 28 сакавіка 1930 г., М. Булгакаў у адрасаваным ураду лісце з горыччу канстатуе: «...я знайшоў у друку СССР за дзесяць гадоў маёй працы 301 водгук пра мяне. З іх: ухвальных — было 3, зневажальна-варожых 298» [3, с. 84]. Праз сем гадоў ён напіша: «Цяпер сяджу і шукаю выйсце, і ніякага выйсця ў мяне, па ўсім бачна, няма... За сем апошніх гадоў я зрабіў шаснаццаць рэчаў рознага жанру, і ўсе яны загінулі. Такое становішча немагчымае, і ў доме ў нас поўная непрагляднасць і цемра» [3, с. 9]. Нягледзячы на намаганні пісьменніка («Дапісаць раней, чым памерці»), раман застаўся незавершаным. 26 гадоў ён захоўваўся ў паперах Булгакава, перш чым у 1966–1967 гг. быў апублікаваны часопісам «Москва».

Менавіта біблейская, евангельская лінія твора з'яўляецца самай яркай часткай незакончанага, шмат у чым недасканалага, неадшліфаванага, але пры ўсім тым геніяльнага рамана «Майстар і Маргарыта». Пра гэта, у прыватнасці, пісаў айцец Іаан Шахаўскі ў сваёй прадмове да першага рускага выдання кнігі ў Парыжы (1967); высока ацэньваючы эпіку яе «сучасных», «маскоўскіх» старонак, ён тым не менш заўважае: гэтая кніга — «не толькі выкрыццё бесчалавечнасці абывацельскай. У цэнтры яе паўстае ачышчальная навальніца над Галгофай, яна ўваходзіць на яе старонкі ўнутранай аповесцю пра Рымскага Пракуратара Юдэі, Понція Пілата» [8, с. 253]. Тую ж думку выказваў і К. Сіманаў: «...Калі гаварыць пра гісторыю Хрыста і Пілата, то гэта наогул адны з лепшых старонак рускай літаратуры 20-х гадоў» [цыт. па: 14, с. 241].

Праз сорак гадоў ва ўнісон ім скажа В. Аксёнаў: «А самае геніяльнае ў гэтым рамане — менавіта гісторыя Пілата... Дзіўнае пранікненне ў гэтую гісторыю ў Ерузалеме!.. Так-так, як быццам ён сам там сядзеў, падглядзеў і ўсё дэталёва апісаў — і Пілата, і як храбустаў пясок пад нагамі ў легата, і навальніцу... У Ерузалеме да гэтага часу гавораць: "Зірніце, які сёння захад булгакаўскі!"» [5, с. 200–201].

Бясспрэчна, вобразы Пілата і Хрыста ў М. Булгакава значна больш аб'ёмныя ў параўнанні з фантомным Воландам, гэта постаці ключавыя,

сэнсастваральныя. Галоўная якасць Пілата — яго дваістасць; у ім, паводле заўвагі а. Іаана Шахаўскога, «на дзіва ярка бачная асноўная трагедыя чалавецтва: яго паўдабро» [8, с. 254]. Пілат зацвердзіў смяротны прысуд Сінедрыёна «вандроўнаму філосафу», які назваўся Іешуа Га-Ноцры, з боязі загубіць сваю кар'еру ці нават апынуцца на месцы няшчаснага арыштанта, якога абвінавачваюць у крамольных казаннях і закліках да знішчэння ершалаімскага храма. Пры гэтым у душы пракуратар спачувае Іешуа, нават спрабуе позіркам, тонам і формай пытанняў перасцерагчы яго ад безразважнай шчырасці, намякнуць на выратавальныя адказы. Але галоўнае — яшчэ да прыняцця рашэння, у працэсе допыту Іешуа, булгакаўскага Пілата ўжо апаноўвае дзіўнае прадчуванне і ўласнай гібелі, якую абавязкова пацягне за сабой укрыжаванне Га-Ноцры («Думкі панесліся кароткія, бязладныя і незвычайныя: «Загінуў!», пасля: «Загінулі!..»»), «нейкай непазбежнай будучай — чыёй?! — несмяротнасці» [2, с. 33]; ён адчувае нясцерпную нуду, трывогу і віну, выкупіць якую пасля не ўдасца нічым, нават забойствам Юды.

Навела ж (у выданні рускага перакладу жанр вызначаны як раман) Аляксандэра Лернета-Халенія (1897—1976) «Пілат» («*Pilatus*») была апублікавана ў той жа час, што і раман М. Булгакава, — у 1967 годзе. Таленавітага аўстрыйскага пісьменніка (паэта, драматурга, празаіка, удзельніка абедзвюх сусветных войнаў) умоўна адносяць да «пакалення Крамера» (паводле імя вядомага аўстрыйскага паэта Тэадора Крамера, 1897–1958), прадстаўнікі якога ўвайшлі ў літаратуру пасля Першай сусветнай вайны — у адрозненне ад «пакалення Рыльке», якое абвясціла пра сябе яшчэ на мяжы XIX—XX стагоддзяў.

Твор А. Лернета-Халенія не выпадкова ў арыгінале мае падзагаловак «*Ein Komplex*». Сапраўды, пад адным тытульным лістом пададзены цэлы комплекс тэкстаў: уласна навела і дадатак, які ўключае выняткі з кананічных сведчанняў (Евангелляў ад Мацвея, Марка і Лукі), непасрэдна датычныя Пілата, і ўрыўкі з даследаванняў Паўля Кольца, Георга Гёрліца і Бруна Кіршнера, а таксама С. Дубнова, апублікаваных адпаведна ў 1934, 1930 і 1925 гг. А. Лернет-Халенія палічыў неабходным прапанаваць увазе чытача вышэйназваныя фрагменты, відавочна, таму, што яны дазваляюць спачатку супаставіць аўтарскую мастацкую інтэрпрэтацыю гісторыі Пілата з трыма выкладаннямі апошняй сіноптыкамі (адсылак да Евангелля ад Яна ў кнізе няма з прычыны больш позняга яго напісання), а пасля змясціць яе ў гісторыка-палітычны кантэкст, у атмасферу таго часу, калі Хрысту было наканавана ўзысці на Галготу.

Навела складаецца з двух раздзелаў, першы з якіх называецца «Пілат» і пачынаецца са сціслай прадмовы нейкага выдаўца да нататак нейкага прамыслоўца Філіпа Браніса; іншымі словамі, прадмова фіктыўнага выдаўца папярэднічае фіктыўным мемуарам. Назва другога раздзела таксама гаворыць за сябе — «Гісторыя Пакутаў Пана ў выкладанні невядомага». Вельмі складаны хранатоп першага раздзела: Філіп Браніс занатоўвае свае ўспаміны напярэдадні ўласнай блізкай смерці, але ў думках найчасцей вяртаецца да таго перыяду свайго жыцця, калі ад радзільнай гарачкі памірае яго жонка (дарэчы, руская) — «поўнай бязбожніцай» [7, с. 3], абыякавай да шчасця і няшчасця, да жыцця і смерці. У стане душэўна-духоўнай разгубленасці Браніс, які не можа пазбыцца думак аб жончыным нявер'і, па доказы існавання Бога звяртаецца да барона Данаці. Будучы настаяцелем сабора, Данаці тым не менш мае цалкам свецкія схільнасці і жыве ў раскошы. Ён, у сваю чаргу, пасвячае Браніса ў гісторыю ўласных юнацкіх духоўных пошукаў: некалі, яшчэ семінарыстамі, Данаці і яго таварышы стварылі дзве «партыі» — веруючых і тых, хто не верацъ або сумняваюцца, і сумеснымі высілкамі, аперыруючы аргументамі і контраргументамі, імправізуючы, але не мяняючы адпачаткавых пазіцый, паказалі ў асобах «усю новазапаветную драму» [7, с. 9]. Пры гэтым у ролю Пілата давялося ўжывацца самому Данаці. Іначай кажучы, біблейская гісторыя пададзена праз яе ўспрыманне нашчадкамі, якія не стамляюцца сцвярджаць і тут жа аспрэчваць, абвяргаць самыя істотныя яе складнікі.

У святле хвалюючых Браніса пытанняў Пілат у навеле мае асаблівае значэнне, бо ён — «адзіная персона, на якую мы, у рэшце рэшт, маглі абаперціся як на сапраўднага сведку» існавання Збавіцеля, тым больш што рымскі пракуратар — «адзіная фігура, якая...паўстае не толькі ў містычных прыцемках Адкрыцця, але і, няхай на малым адмежку часу, у промнях антычнага свету...» [7, с. 11]; гэта значыць, што ён — фігура гістарычная.

У адлюстраванні А. Лернета-Халенія Пілат — асоба традыцыйна дваістая, прычым мера гэтай дваістасці значна вышэйшая, чым у Пілата М. Булгакава. З аднаго боку, Пілат адчувае сімпатыю да Хрыста, знаходзіцца пад уражаннем ад харасства і моцы Яго словаў і думак, ад чароўнай магіі, што ідзе ад гэтага «самага гнанага і пагарджанага з усіх смяротных» [7, с. 98], пачынае з Ім дыялог, імкнучыся зразумець матывы і сэнс Яго паво-

дзінаў, намагаючыся пераканаць ворагаў Хрыста ў Яго бязвіннасці. З іншага боку, гэты чалавек, які нямала меў за душою, так і не здолеў дзеля справядлівасці ўзняцца над сваёй бесхарактарнасцю і страхам і, у працяг евангельскіх і больш позніх трактовак, «умыў рукі».

Канцэптуальна важна, што мы маем справу з падкрэсленым «ачужэннем» вобраза Пілата: перад намі не ён сам, а яго часовы пратаганіст, выканаўца яго ролі семінарыст Данаці, які тлумачыць паводзіны пракуратара адпаведна свайму пра яго ўяўленню. Зноў акцэнт з волі Бога пераносіцца на чалавека (хаця апошні і мае непасрэднае дачыненне да Царквы): як некалі чалавек Понцій Пілат стаў саўдзельнікам злачыннага ўкрыжавання Хрыста, так цяпер ад чалавека залежыць пасмяротная рэпутацыя самога Пілата, а разам з тым — і падмурак для веры, для здабывання яе тымі, хто прагне ўнутранага супакаення.

Такім чынам, і абараняць, і ганьбаваць пракуратара аўтар прымушае персаніфікаваных апавядальнікаў. Пры гэтым семінарысты-акцёры настолькі ўваходзяць у свае ролі, што часам самі перастаюць разумець, хто ж яны. Не выключана, што такі ход быў падказаны А. Лернету-Халенія яго літаратурным настаўнікам і сябрам, вядомым аўстрыйскім пісьменнікам Леа Перуцам, які гэтым прыёмам карыстаўся вельмі актыўна: «Праўда тое, што я, кожны раз уваходзячы ў незнаёмы для мяне свет, спрабую ўлезці ў шкуру якога-небудзь незнаёмага мне чалавека і абжыцца ў ёй. То гэта нямецкі ландскнехт, то шавец з Сіцыліі, то злодзей, то іспанскі арыстакрат...» [4, с. 514].

У розных выпадках прычыны выкарыстання персаніфікаванага апавядальніка могуць быць рознымі; у А. Лернета-Халенія іх некалькі. Па-першае, персаніфікаваны апавядальнік, кажучы словамі Ц. Тодарава, «можа засведчыць расповед, не ўскладаючы, аднак, на сябе абавязку прыняць канчатковае тлумачэнне» [12, с. 63]. У навеле А. Лернета-Халенія гэта тым больш да месца, што абсалютна пэўны, дакладны аповед пра падзеі, якія тояць у сабе больш лакунаў, чым фактаў, немагчымы. Увядзенне ж у твор персаніфікаванага апавядальніка дае аўтару жаданую магчымасць максімальна інтэнсіфікаваць свядомасць чытача, а чытачу, у сваю чаргу, — магчымасць праверыць біблейскай драмай уласную душу.

Па-другое, у выніку выкарыстання ў навеле персаніфікаваных апавядальнікаў адбываецца псіхалагічнае паглыбленне герояў — і насельнікаў новазапаветнага свету, і звычайных людзей, якія працягваюць шукаць адказы на адно з асноўных пытанняў быцця: «Што ёсць ісціна?»; невыпадкова першай частцы аповеду папярэднічае абгрунтаванне неабходнасці апублікаваць «у поўным аб'ёме» нібыта ўжо вядомыя чытачу нататкі «з прычыны іх важнасці» [7, с. 3].

Па-трэцяе, наяўнасць у творы персаніфікаваных апавядальнікаў мае сваім плёнам множнасць пунктаў гледжання на Пілата і Хрыста, напластаванне часоў, рухомасць і варыятыўнасць сэнсаў і ракурсаў, дэманстратыўную і заканамерную дваістасць персанажаў (магчыма, прадыктаваную спецыфічным аўстрыйскім светаўспрыманнем з яго своеасаблівай дуалістычнасцю, што незвычайна ўзмацнілася ў XX ст.), сумяшчэнне — іншым разам нават у адным героі — розных мысліцельна-паводзінавых мадэляў. Хтосьці заклінае Пілата прызнаць уласную невымерную, невыкупляльную віну, бо толькі ў іпастасі саўдзельніка злачынства, сузабойцы ён можа засведчыць праўдзівасць існавання Хрыста: «Якой бы жахлівай ні была твая віна, яна нішто ў параўнанні са сведчаннем, якое ты цяпер можаш прад'явіць. Бо ты цяпер з'яўляешся адзіным, апошнім, хто яшчэ можа засведчыць, што Бог сапраўды ёсць!» [7, с. 99–100]. Хтосьці спрабуе калі не абараніць, то хаця б зразумець Пілата. Ці мог пракуратар пэўна ведаць, што перад ім — Сын Божы? Калі нават сёння не спыняюцца спрэчкі пра Хрыста, то што ведалі тады? Ці не варта ўлічваць, што не пагадзіся Пілат на пакаранне Хрыста, яго самога ачарнілі б у вачах Вітэлія? Нарэшце, як вызначыць, на якіх шалях узважыць віну Пілата і ці была, ці ёсць яна ўвогуле, калі ўсё, з яго ўчынкам і лёсам Збаўцы ўключна, у руках Божых і, выходзіць, прадвызначана небам? «Дзеля чаго...ты ўвогуле так моцна жадаеш, каб я прызнаў учынак, які вы мне прыпісваеце? — пытаецца ў суддзі Пілат. — Бо калі б я гэта сапраўды здзейсніў, то гэта было б і злачынствам, якое Бог здзейсніў у адносінах да мяне, таму што яно, гэтае злачынства, было прадвызначана, і я не мог яго пазбегнуць, і гэтае злачынства яшчэ цяжэйшае, чым тое, якое нібыта я здзейсніў у дачыненні да Яго...». «Не ўзводзь паклёп на Бога, Понцій Пілат! Не ўкрыжоўвай Яго паўторна!» [7, с. 98–99, 100] — чуе ён у адказ на сваю спробу апраўдацца.

Маналог Пілата — адна з сэнсавых кульмінацый навелы, бо прымушае чытача шукаць адказы на пытанні, датычныя ўжо не толькі веры ў Бога, але і асноваў чалавечага быцця наогул. Што ж або хто правіць чалавекам — чыясьці чужая сіла, нешта трансцэндэнтнае або яго ўласная воля, яго ўласны маральны выбар, няхай і ў межах пакладзенага Богам? Калі чужая, то ці нясе сам чалавек адказнасць

за свае вялікія і малыя справы, за высакародныя і подлыя ўчынкі? А калі свая, то наколькі яна свая? Дзе заканчваецца воля Бога і пачынаецца грэх чалавека? Чытач, уцягнуты ў абмен развагамі, мусіць супастаўляць, параўноўваць, пагаджацца або пярэчыць, спрабуе рэканструяваць і нават у пэўным сэнсе рэміфалагізаваць самую трагічную новазапаветную гісторыю, не пакладаючыся на суб'ектыўныя вынікі чужых камбінаторных здольнасцяў.

Гатовых адказаў у навеле няма; можна толькі канстатаваць, што Аляксандэр Лернет-Халенія робіць акцэнт на неабходнасці экзістэнцыяльнага выбару для кожнай канкрэтнай асобы, бо, як сказана ў адным з вершаваных уключэнняў у твор, «не існуе нічога больш невядомага за чалавека» [7, с. 105].

Беларускі рускамоўны празаік Валерый Іваноў-Смаленскі (нар. 1948; сапраўднае прозвішча — Іваноў; юрыст з больш чым трыццацігадовым вопытам працы) досыць добра вядомы айчыннаму і расійскаму чытачу сваімі вострасюжэтнымі кнігамі. На яго рамане «Апошняе спакушэнне д'ябла, або Маргарыта і Майстар» (2007), які з'яўляецца інтэрпрэтацыяй булгакаўскага твора і вырас, паводле аўтарскага прызнання, з жадання пранікнуць у таямніцу задумы вялікага папярэдніка, ёсць сэнс спыніцца падрабязней.

Пачынаючы з падзагалоўка, В. Іваноў-Смаленскі свядома адмаўляецца ад «суверэннасці» свайго рамана і затым паслядоўна, практычна на ўсіх мастацкіх узроўнях, прытрымліваецца алюзіўна-рэмінісцэнтнага прынцыпу. На ўзроўні паэтыкі, што адсылае да булгакаўскага сумяшчэння несумяшчальнага, неверагоднага звядзення ў адзінай апавядальнай плоскасці рэальна-зямнога, нават банальнага, з умоўна-інфернальным. На ўзроўні творчага метаду, які ў дачыненні да рамана М. Булгакава айцец І. Шахаўскі вельмі трапна вызначыў як «метафізічны рэалізм» [8, с. 255]. На ўзроўні кампазіцыі, амаль сіметрычнай булгакаўскай (раман «Майстар і Маргарыта» складаецца з дзвюх частак, якія месцяць у сабе 32 раздзелы і эпілог; у кнізе-інтэрпрэтацыі, апроч нататкі «Ад аўтара», 36 раздзелаў і гласарый з тлумачэннямі некаторых словаў, выкарыстаных у творы). Нарэшце, на ўзроўні жанру, што сінтэзуе розныя раманныя формы (паводле аўтарскіх дэфініцый, перадусім прыгодніцкі раман і рэмінісцэнцыю).

Вызначэнне жанравай мадыфікацыі «Апошняга спакушэння д'ябла...» як рэмінісцэнцыі асабліва паказальнае і ад пачатку мае на ўвазе яго ўспрыманне ў святле рамана-папярэдніка. Увогуле, рэмінісцэнцыя ў сваёй зместавай сутнасці часта выкарыстоўваецца ў літаратурнай практыцы; розніца ў тым, што ў дадзеным выпадку аўтар ад пачатку, як ужо было сказана, дэкларуе «прывязку» сваёй кнігі да твора-першавытока. Выразнай жа дыферэнцыяцыі паняцця «рэмінісцэнцыя» (як і многіх іншых тэрмінаў) у навуцы пра мастацтва слова не існуе. В.П. Рагойша ў сваёй «Тэорыі літаратуры ў тэрмінах» раскрывае змест гэтага паняцця наступным чынам: «Рэмінісцэнцыя (лац. *reminiscentia* — успамін) — наўмыснае ці міжвольнае ўзнаўленне пісьменнікам (найчасцей паэтам) вобразаў, асобных выказванняў ці рытміка-сінтаксічных канструкцый інш. аўтараў» [10, с. 283]. Відавочна, па многіх параметрах раман В. Іванова-Смаленскага адпавядае вызначэнню «рэмінісцэнцыя», хаця гаварыць пра міжвольнасць адсылак да тэксту-папярэдніка не выпадае; наадварот, пісьменнік робіць усё магчымае (у тым ліку суправаджае кнігу ўступным словам), каб іх акцэнтаваць.

Дарэчы будзе прывесці і вызначэнне алюзіі (франц. *allusion* — намёк), да прыкладу — са «Слоўніка літаратуразнаўчых тэрмінаў» С.П. Белакуравай: «...мастацкі прыём, свядомы аўтарскі намёк на агульнавядомы літаратурны або гістарычны факт, а таксама вядомы мастацкі твор. А. заўсёды шырэй за канкрэтную фразу, цытату, той вузкі кантэкст, у які яна змешчана, і, як правіла, прымушае суаднесці твор, які цытуе, і твор, які цытуецца, у цэлым, выявіць іх агульную скіраванасць (або палемічнасць)» [1, с. 15]. Пры гэткім разуменні рэмінісцэнцыі і алюзіі кніга В. Іванова-Смаленскага ў большай ступені падпадае пад вызначэнне алюзіі.

Аднак стан навукі пра літаратуру сёння такі, што дастаткова лёгка абвергнуць адзін тэрмін іншым; так, вядомы расійскі літаратуразнаўца В.Я. Халізеў вызначае тую ж алюзію інакш — як разнавіднасць недагаворвання, як «намёкі на рэаліі сучаснага грамадска-палітычнага жыцця, прысутныя, як правіла, у творах пра гістарычную мінуўшчыну» [13, с. 272]. У кожным выпадку, літаратуразнаўца, які мае справу з кнігай «Апошняе спакушэнне д'ябла, або Маргарыта і Майстар», знойдзе багата падставаў для роздумаў аб яе жанры, тым больш што ён ускладнёны і вызначэннем твора як прыгодніцкага рамана. Думаецца, гэта своеасаблівая аўтарская «прынада» для масавай чытацкай аўдыторыі, якой слова «прыгоды» скажа значна болей, чым рэмінісцэнцыя і алюзія, разам узятыя. Кажам гэта не ў крыўду і не ў дакор аўтару; у рэшце рэшт, гэта таксама спосаб прывабіць

шырокага чытача да сур'ёзнага твора, якім кніга В. Іванова-Смаленскага, безумоўна, з'яўляецца. Дарэчы, спосаб, даўно і паспяхова апрабаваны пісьменнікамі-постмадэрністамі — Куртам Вонегутам, Умбэрта Эка, Мілорадам Павічам і іншымі, не менш вядомымі, для каго «знішчаць межы» паміж масавым чытачом і эрудытам — справа прынцыпу.

Жанравая неадназначнасць новай кнігі таксама з'яўляецца своеасаблівай аналогіяй з раманам «Майстар і Маргарыта», палітра жанравых дэфініцый якога, прыналежных вучоным і крытыкам, надзвычай шматстайная: інтэлектуальны раман, раман-міф, раман-пародыя, містэрыя, меніпея, неаміфалагічны раман, раман-казка, філасофскі раман, сатырычны раман і інш. — прычым кожнае з гэтых вызначэнняў мае пад сабою грунт, кожнае дадае да чытацкага ўспрымання твора новыя сэнсавыя параметры.

Асобнага аналізу заслугоўвае мова рамана В. Іванова-Смаленскага. Шмат у чым яна нагадвае мову булгакаўскага твора, і сам аўтар, знаёмячы чытача з пабуджальнымі матывамі напісання сваёй кнігі, папярэджвае аб свядомым «запазычванні» не толькі чужых вобразаў, але і «стылістыкі і моўных зваротаў» [6, с. 5]. У «Апошнім спакушэнні д'ябла...» сінтэзаваныя трагічнае і камічнае, канкрэтыка апісанняў (інтэр'ера, партрэта, пейзажа) і насамрэч гофманаўская фантасмагарычнасць, абыдзённае і ўмоўна-фантастычнае. Меў рацыю В. Аксёнаў, падкрэсліваючы дваістасць творчага метаду М. Булгакава: з аднаго боку, ён «трымаўся бунінскага...кірунку», гэта значыць рэалістычнага, з іншага — «час ад часу ўпадаў у авангард» [5, с. 51–52]. Маючы на ўвазе «Сабачае сэрца», «Барвовы востраў» і іншыя творы, з раманам «Майстар і Маргарыта» ўключна, В. Аксёнаў канкрэтызуе і напрамак, у рэчышчы якога яны, на яго думку, палягаюць, — сюррэалізм.

Адпаведна, сюррэалістычнасцю пазначаны і раман В. Іванова-Смаленскага, у хранатопе якога манціруюцца біблейскія гісторыі і карціны з жыцця XX ст. на розных яго адмежках, у тым ліку сугестыўна пададзены перыяд перабудовы, паўсядзённая ж рэчаіснасць (старажытная і сучасная) гранічна інферналізуецца. Пашыраецца і кола персанажаў: філасофствуе Сталін, ставіць перад падначаленымі задачы ўсёмагутны Ягода, размова ідзе пра Максіма Горкага, Вышынскага, Кагановіча, савецкіх военачальнікаў, узгадваюцца Карла дэль Понтэ і «чалавек з плямай на ілбе» (дарэчы, перанасычанасць імёнамі, прызначанымі актуалізаваць гістарычныя аналогіі, і «лабавымі» — у прамым і пераносным сэнсах — дэталямі прыўносяць у фінал аповеду пэўную аморфнасць, паніжаюць прытчавасць твора).

Зрэшты, чытачу, які перасягнуў парог XXI ст., да разнастайных мастацкіх «ізмаў» не прывыкаць; хутчэй, ён адчувае патрэбу ў дакуменце, факце. Раман В. Іванова-Смаленскага здольны такую патрэбу задаволіць дарэшты: павага да рэалій — адна з характэрных якасцяў прозы гэтага аўтара. Кніга максімальна насычана інфармацыяй самага рознага кшталту: ад экскурсаў у гістарычнае мінулае, датычных звычаяў і сімвалаў, смяротнага пакарання ў Юдэі і ўкрыжавання ў Рыме, капальняў цара Саламона і лоўлі жэмчугу, абраду хрышчэння і этымалогіі імя Понція Пілата, яго былых пасадаў і сутнасці яго канфлікту з Каяфай да заключэнняў судова-медыцынскай экспертызы, справаздачаў і даведак пра паказальныя працэсы, пратаколаў допытаў, каментарыяў да артыкулаў крымінальнага кодэксу, пастановаў пра аб'яўленне ў вышук, у якіх неверагодным чынам цалкам матэрыяльныя доказы спалучаюцца з містыкай.

Вельмі шырокая алюзіўная парадыгма рамана В. Іванова-Смаленскага; у яе, апрача разнастайных складнікаў непасрэдна інтэрпрэтаванага твора, гарманічна ўплятаюцца цытаты з евангельскіх тэкстаў, Квінта Гарацыя Флака і Іосіфа Флавія, Гётэ і Пушкіна, Ніцшэ і Дастаеўскага, Салаўёва і многіх іншых мысляроў і мастакоў слова.

Што да загаловачных персанажаў В. Іванова-Смаленскага, то ў іх характарах у параўнанні з літаратурнымі прататыпамі адбыліся істотныя змены. У М. Булгакава Маргарыта — ідэал сапраўднага і ахвярнага кахання, кахання найперш да мужчыны, але таксама і да чалавека ўвогуле, асабліва чалавека пакрыўджанага, пакутнага. У параўнанні з Майстрам, які невыпадкова, у рэшце рэшт, робіць выбар на карысць жыццёвага і быційнага супакою, яна больш дзейная, яе нярэдка апаноўваюць гнеў і раз'юшанасць, усё перажытае часам штурхае яе да разбуральніцтва. Дастаткова ўзгадаць учынены ёю разгром у доме Драмліта, калі напоўніцу хапіла не толькі сапраўдным ганіцелям Майстра, але і людзям, якія не жадалі яму зла і выпадкова трапілі Маргарыце пад руку. Пасля, што важна, настае працверажэнне.

У рамане В. Іванова-Смаленскага душэўны стан і паводзіны Маргарыты захоўваюць канфліктную напружанасць двух пачаткаў — жаноцкага, міралюбнага, з аднаго боку, і — д'ябальскага, з другога. Гэты другі, аднак, бярэ верх; Маргарыта, якая аддае, прычым па ўласным жаданні, душу Воланду, замест салодкага пачуцця бязмежнай свабоды і яе неабсяжных магчымасцяў, становіцца

не проста ваяркай, але часткай свету Воланда, свету цемры. У пэўным сэнсе на ёй таксама ляжыць віна за лёс Майстра, які зразумеў, але не прыняў пераўвасаблення,ператварэння каханай, не вынес адзіноцтва, пакінутасці ёю, сваім апошнім анёлам: у адчаі ён усё ж спаліць свой рукапіс і, па сутнасці, скончыць самагубствам, задыхнецца ў атрутным дыме раней, чым да яго цела дабярэцца агонь.

Дваістае ўражанне пакідае (як і пры чытанні рамана-папярэдніка) знакамітая тройца памагатых Воланда — Фагот, Азазэла і Бегемот; застаючыся, у працяг булгакаўскай традыцыі, своеасаблівымі персанажамі-трансформерамі, уяўна-прывіднымі і адначасна пераканаўчымі, яны стараюцца добрасумленна — праз усялякія правакацыі і махлярства — выканаць даручэнне гаспадара: канчаткова знішчыць Хрыста, прывесці Зло да незваротнага трыумфу і адзінаўладдзя ў сусвеце. У нейкім сэнсе яны, «расчалавечаныя» (а. І. Шахаўскі), часам выглядаюць больш чалавечнымі за людзей, нават спачуваюць Хрысту, якога пакінулі вучні, з якога здзекуецца народ, што яшчэ ўчора высцілаў Яму шлях пальмавымі галінамі і ўласным адзеннем. «На жаль, — прамаўляе Азазэла, — такая прырода чалавечая... Прыродная подласць прымушае іх спачатку стварыць сабе куміра, а пасля бязлітасна зрынуць яго». «Здаецца, ён ведае гэта, і даруе ім усім, — ледзьве чутна сказаў кот...» І панура заключыў: «Чаго не стала — таго і не было» [6, с. 126].

Нягледзячы на хітрасць, неймаверныя штукарствы і нават «вытанчанасць» сцэнарыяў знішчэння Хрыста, усе намаганні Воланда і яго памагатых застаюцца дарэмнымі: шматвяковая гісторыя супрацьстаяння Князя Цемры і Езуса Хрыста даўно пераканала першага, што пазбавіцца ад Хрыста можна толькі ў строгай адпаведнасці з законамі, усталяванымі людзьмі, тымі самымі людзьмі, за якіх Ён пакутаваў і змагаўся, якім даваў здраду і чые грахі ўсклаў на сябе, пайшоўшы на Галготу; у адваротным выпадку пакаранне Хрыста будзе неправасудным, а ўваскрэсенне — непазбежным. Д'ябал здатны на многае, апрача аднаго, — надаць злачынству не выгляд, але сутнасць законнасці і справядлівасці, бо гэта проста немагчыма. Менавіта таму зноў і зноў уваскрасае Хрыстус — і пасля Галготы, і ў Маскве 1936 года, куды Ён перамешчаны дзякуючы высілкам месіра і дзе павінна адбыцца другая спроба Яго знішчэння, гэтым разам — праз савецкую рэпрэсіўную сістэму (дзве спробы пазбавіцца Хрыста і складаюць аснову сюжэта новай кнігі).

Дарэчы, Воланд у новым рамане, у параўнанні са сваім булгакаўскім прататыпам, яшчэ больш фантомны, і не толькі па той простай прычыне, што ён існуе па-за часам; па сутнасці, ён толькі аддае загады, уносіць карэктывы, падводзіць рахункі, але сам амаль не дзейнічае.

Тое, што менавіта біблейская лінія булгакаўскага твора прыцягнула ўвагу нашага суайчынніка і сучасніка, — нядзіўна: ён таксама лічыць, што — хоць задума М. Булгакава цалкам невядомая — «галоўнымі героямі яго рамана былі не Майстар і Маргарыта» [6, с. 5]. Па сутнасці, не яны галоўныя і ў кнізе В. Іванова-Смаленскага, нягледзячы на тое, што фігуруюць — з пераменай месцаў — нават у яе падзагалоўку. Значна больш рэльефныя, як і ў М. Булгакава, вобразы Хрыста і Пілата; адпаведна, і «прачытанне» гэтых вобразаў беларускім аўтарам успрымаецца як больш значнае, чым «маскоўская» і «рымская» (у апошняй ад рукі Маргарыты гіне «подлы Тыберый») гісторыі.

Моцнае ўражанне пакідае вобраз Хрыста, сказіць які не ўдаецца ні першасвятарам, ні Воланду з яго світай. Як і ў рамане М. Булгакава, у новай кнізе ён падкрэслена чалавечны; не проста прадчуваючы, але ведаючы свой лёс, Хрыстус тым не менш «з тугой і самотай» звяртаецца да Айца ў надзеі, што ў апошняе імгненне Усявышні Яго ўратуе, што «келіх гэты» абміне Яго. Гэты эпізод насычаны пранізлівым смуткам, прасякнуты душэўным болем і журбой і ў абазнанага ў літаратуры чытача выклікае міжвольныя асацыяцыі са шматлікімі мастацкімі трактоўкамі адпаведных евангельскіх паданняў. У прыватнасці, з двума геніяльнымі вершамі пад агульнай назвай «Гефсіманскі сад». Адзін з іх належыць аўстрыйскаму паэту Райнеру Марыя Рыльке:

...Еще и это. И таков конец.
А мне идти — идти, слепому, выше.
И почему Ты мне велишь, Отец,
искать Тебя, раз я Тебя не вижу.

А я искал. Искал, где только мог.
В себе. В других. И в камнях у дорог.
Я потерял Тебя. Я одинок.

А я искал. И меж людей бродил.
Хотел утешить горечь их седин.
И с горем, со стыдом своим — один.

Потом расскажут: ангел приходил...
Какой там ангел!.. [11, с. 235].

Другі верш выйшаў з-пад пяра Барыса Пастарнака:

...Он отказался без противоборства,
Как от вещей, полученных взаймы,
От всемогущества и чудотворства,
И был теперь, как смертные, как мы...

И, глядя в эти черные провалы,
Пустые, без начала и конца,
Чтоб эта чаша смерти миновала,
В поту кровавом Он молил Отца... [9, с. 574].

Значна меншай ступенню дваістасці — у параўнанні з «Майстрам і Маргарытай» М. Булгакава — пазначаны ў трактоўцы В. Іванова-Смаленскага вобраз Пілата. У новай версіі пракуратар таксама разумны і праніклівы, але ўсе яго думкі і намеры скіраваныя на жаданае вяртанне ў Рым, якое стала б рэваншам за знаходжанне цягам амаль пяці гадоў у правінцыйнай глушы. Тутэйшы народ і яго першасвятароў ён ненавідзіць, іх звычаямі і ўкладам жыцця пагарджае. З мэтай пасеяць сур'ёзныя ўзрушэнні, для ліквідацыі якіх спатрэбіліся б дадатковыя войскі імператара Тыберыя, ён падбухторвае жаўнераў апаганьваць храмы, зневажаць пачуцці вернікаў; у адказ пракуратар душыць жорстка і бязлітасна хваляванні, аддаючы загады аб знішчэнні тысяч людзей, — у разліку на яшчэ больш маштабны і паўсюдны мяцеж.

Стаіцызм асуджанага на здзекі і пакутлівую смерць Хрыста і ў яго выклікае павагу, тым не менш зацвердзіць прысуд Сінедрыёна на рымскі від пакарання Пілат адмаўляецца не з імкнення захаваць Яму жыццё («Яго зусім не трывожыў лёс чалавека, які стаяў перад ім» [6, с. 118]) і нават не так з жадання самому «ўмыць рукі» («Не я пралью кроў Ягоную, але самі юдэі» [6, с. 120]), як у надзеі на тое, што цяпер, калі пачнуцца масавыя сутыкненні паміж стражнікамі Сінедрыёна і прыхільнікамі Хрыста, ён дачакаецца новых легіёнаў, залье крывёю падначаленую яму тэрыторыю і здзейсніць трыумфальнае вяртанне ў Рым; больш за тое, сам зможа пры спрыяльных для сябе абставінах прэтэндаваць на імператарства.

Калі ў рымскім пракуратары М. Булгакава, паводле словаў а. І. Шахаўскога, «на дзіва ярка бачная асноўная трагедыя чалавецтва: яго паўдабро», то ў дачыненні Пілата «новага» нават пра «паўдабро» гаварыць не выпадае. Тут зло адназначнае, крывадушнае і безальтэрнатыўнае. Ніякай метафізічнай трывогі аб сваім пасмяротным лёсе і несмяротнай рэпутацыі пракуратар не адчувае, праблема маральнага выбару яго зусім не хвалюе, у той час як адэкватнае ўспрыманне вобраза булгакаўскага Пілата (як, зрэшты, і евангельскага) без уліку яго дваістасці немагчымае.

Што ж сталася прычынай гэткага пераносу акцэнтаў у новай інтэрпрэтацыі Пілата? Думаецца, тое, што тут у яго трошкі іншае, скажам так, ідэйнае прызначэнне: прадэманстраваць механізмы маніпулявання, на якіх трымаецца гвалтоўная ўлада, што абыходзіцца з кожным — звычайным смяротным, рэпрэсаваным у перыяд культу Сталіна, ці з самім Хрыстом — як з разменнай манетай, як з пешкай у вялікай гульні. Прычым адлюстраванне гэтых механізмаў яскрава і пераканаўча сведчыць, што спрадвеку, з міфалагічных часоў і па сёння, тэхніка гвалту, асуджэння бязвінных на смерць па вялікім рахунку не змянілася, хіба што больш «вытанчанымі» сталі самі метады знішчэння людзей, як раней, так і ў XX ст. цалкам адпаведныя сумна вядомаму «няма чалавека — няма праблемы».

Іншая справа, што беларускі пісьменнік для суаднясення міфа і рэальнасці, мінуўшчыны і сучаснасці ў сімпатычным чарніле ўжо не меў патрэбы; формы і метады дзейнасці сілавых органаў у перыяд культу асобы ён выкладае мовай прафесійнай, спалучаючы іх, аднак, у працяг традыцыі М. Булгакава, з сюррэалісцкай умоўнасцю і элементамі неверагоднай містыкі.

Такім чынам, пры ўсіх адрозненнях мастацкіх інтэрпрэтацый евангельскай гісторыі расійскім, аўстрыйскім і беларускім пісьменнікам важна галоўнае: усе тры аўтары экстрапаліравалі новазапаветны сюжэт на сучасную ім рэчаіснасць, але калі Міхаіл Булгакаў і асабліва Аляксандэр Лернет-Халенія зрабілі гэта пераважна сугестыўна, то Валерый Іваноў-Смаленскі — з большай ступенню відавочнасці. І ва ўсіх трох інтэрпрэтацыях чытач мае справу з кнігамі, якія адначасова міфалагізуюць, сведчаць і перасцерагаюць.

**Літаратура**


1.Белокурова, С.П. Словарь литературоведческих терминов / С.П. Белокурова. — Санкт-Петербург., 2006.
2. Булгаков, М. Мастер и Маргарита / М. Булгаков. — Москва, 1988.
3. Булгаковы, М. и Е. Дневник Мастера и Маргариты / М. и Е. Булгаковы. — Москва, 2001.
4. Гуревич, Р.В. Лео Перуц / Р.В. Гуревич // История австрийской литературы: в 2 т. Т. 1: Конец Х1Х — середина ХХ века / отв. ред. В.Д. Седельник. — Москва, 2009.
5. Другие берега: Дни Турбиных. Альманах. — 2007. — № 22.
6. Иванов-Смоленский, В. Последнее искушение дьявола, или Маргарита и Мастер / В. Иванов-Смоленский. — Минск, 2007.
7. Лернет-Холениа, А. Пилат: Роман / пер. В. Летучего / А. Лернет- Холениа. — Москва; Харьков, 2001.
8. О. Иоанн Шаховской. Метафизический реализм: Предисловие к первому русскому изданию романа «Мастер и Маргарита» в Париже, 1967 / О. Иоанн Шаховской // Другие берега: Дни Турбиных: Альманах. — 2007. — № 22.
9. Пастернак, Б. Доктор Живаго: Роман / Б. Пастернак. — Минск, 1990.
10. Рагойша, В.П. Тэорыя літаратуры ў тэрмінах / В.П. Рагойша. — Мінск, 2001.
11. Рильке, Р.М. Гефсиманский сад / пер. А. Карельского / Р.М. Рильке // Золотое сечение. Австрийская поэзия Х1Х—ХХ веков в русских переводах. — Москва, 1988.
12. Тодоров, Ц. Введение в фантастическую литературу / Ц. Тодоров. — Москва, 1997.
13. Хализев, В.Е. Теория литературы / В.Е. Хализев. — Москва, 1999.
14. Яновская, Л. Творческий путь Михаила Булгакова / Л. Яновская. — Москва, 1983.

Андрэй Шпунт

# ПАД ПЫЛАМ ЗАБЫЦЦЯ

...8 верасня 1655 года маскоўскія войскі ўвайшлі ў Навагрworld, і адразу ж «доблесныя ваяры» кінуліся да касцёла. Толькі дарэмна. Рэктар калегіума а. Юры Рафаловіч, ведаючы, які лёс напаткаў Вільню і яе святыні (у тым ліку і праваслаўныя) адправіў братоў і ўсё, што мела вартасць, у Ломжу, а сам пайшоў насустрач «вызваліцелям» і, не паспеўшы нават штосьці сказаць, быў забіты ўдарам сякеры ў галаву прама ў касцёле. Намесніку рэктара а. Андрэю Кавячынскаму «пашанцавала» — на ім разарвалі сутану, звязалі і як «знатнага заложніка» павезлі на Усход. Вось толькі не ведалі тады нашыя браты-«вызваліцелі», што не столькі ён «знатны» колькі небяспечны...

Наша краіна не ведае больш страшнага часу, чым 13-гадовая вайна. «Вайна, — як пісаў польскі гісторык Веспасіян Кахоўскі, — крывавая, несправядлівая, без прычыны і абвяшчэння». А калі азірнуцца на поўдзень Рэчы Паспалітай, дык атрымаецца амаль дваццаць гадоў няшчаснага панавання Яна Казіміра Вазы, што пачаліся жудасным выбухам грамадзянскай вайны ва Украіне, дзе першымі ахвярамі палі «жыды і папы супастаты». «Папы супастаты» — гэта езуіты. Крыважэрныя казакі нават у Кіеве 1649 года маглі пагадзіцца на існаванне іншых каталіцкіх ордэнаў, але толькі не езуітаў, бо ад іх, як ад жыдоў, «усе няшчасці і беспарадкі». Нянавісць казацкага люду шчодра падсілкоўвалася прапагандай з Канстанцінопаля, Кіева і Масквы. Касцёл, што яшчэ нядаўна ў Рэчы Паспалітай, як і па ўсёй Еўропе, адступаў пад ціскам Рэфармацыі, са з'яўленнем езуітаў паўстаў нібыта Фенікс з попелу. Блудныя авечкі пачалі вяртацца, зямля пакрылася сеткай калегіумаў і місій, а да Неба ўзносіліся ўсё новыя барочныя званіцы і вежы святыняў. Рух, зададзены езуітамі, быў настолькі моцным, што зацягнуў у сваю арбіту праваслаўе ў Вялікім Княстве і ва Украіне. Усходнія іерархі акрамя падбухторвання казацкай масы адказаць нічым не маглі — не было ў іх сваіх Скаргаў. І вось палі ахвярамі Хмяльніцкага езуіцкія калегіумы і дамы ў Пераяславе, Кіеве, Ксавераве, Астрогу, Луцку, Вінніцы і Бары. Забівалі і рабавалі бязлітасна. Даставалася нават памерлым: у Пераяславе апаганілі парэшткі брацлаўскага ваяводы, старосты пераяслаўскага, і фундатара мясцовага калегіума Лукаша Жалкеўскага — саркафаг разбілі, здабыўшы ваенныя рэгаліі, а з пальца садралі дыямэнтавы пярсцёнак...

Не здолеўшы перамагчы, Хмяльніцкі аддаў Украіну Аляксею Міхайлавічу, і ў 1654 годзе статысячнае маскоўска-казацкае войска абрынулася на ВКЛ, знішчаючы ўсё на сваім шляху. Перад дзесяцікратнай перавагай ворага быў бяссільным нават геній Януша Радзівіла. Езуіцкія калегіумы і іх маёнткі ў Смаленску, Полацку, Віцебску, Навагрудку, Нясвіжы, Гародні і Вільні былі разрабаваны і спалены. Ад Бацькаўшчыны нашай засталіся адны галавешкі, але ўсё роўна чужынцам яна не дасталася. Праз некалькі гадоў паўстаў народ па ўсёй Беларусі, нават тыя, хто сустракаў адзінаверцаў хлебам-соллю, зведаўшы ўсе жахі «братэрскага» праўлення. Аднак палонныя, якіх безліч было вывезена ў Маскву, акрамя ўсяго іншага, зрабілі неацэнны ўклад у развіццё рускай культуры, сфармаваўшы яе аблічча другой паловы XVII стагоддзя. Сярод тых палоных быў і наш суайчыннік — езуіт, імя якога губляецца за імем маскоўскага апалагета Сімяона Полацкага, а між тым меліся шанцы да культурнай экспансіі дадаць рэлігійную, бо Таварыству Езуса самыя цяжкія заданні былі па сілах.

Андрэй Кавячынскі (у розных напісаннях — *Кавачынскі*, ці *Кавечынскі*) нарадзіўся ў 1619 годзе ў шляхецкай сям'і герба «Астоя», аселай у Навагрworld. У 15 гадоў уступіў у езуіцкі навіцыят у Вільні. Атрымаў бліскучую адукацыю (езуіцкая адукацыю заўсёды была лепшаю ў свеце). У 1636–1638 гадах вывучаў рыторыку ў Нясвіжы, у 1638–1641-м — філасофію ў Віленскай езуіцкай акадэміі. Пасля заканчэння Акадэміі на працягу пяці гадоў настаўнічаў у пачатковых класах гімназій у Пултуску, Ломжы, Оршы і Полацку. У 1646–1648 гадах вывучаў маральную тэалогію ў Крожах на Жмудзі (Жмудзь, ці Самагіція — задворкі ВКЛ, сучасная Літоўская Рэспубліка), пасля чаго зноў вярнуўся да настаўніцтва.

---

**Андрэй ШПУНТ** — беларускі гісторык, архівіст. Нарадзіўся ў 1969 годзе. Скончыў БДУ (1997). У 1989—1994 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі (аддзел старажытнабеларускага мастацтва). У 1996—1998 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (генеалагічныя даследаванні), у 1998—2000 гг. — вядучы спецыяліст Дзяржкамархіва (геральдыка і генеалогія), аўтар зацверджаных праектаў гербаў Маладзечна, Заслаўя, Крупак, Акцябрскага (Рудабелка), Белаазёрска, Івянца. Аўтар шэрагу навуковых і папулярных публікацый.



Будынак былога Пінскага езуіцкага калегіума.
Фота кс. Казіміра Свёнтка. 1970-я гг.

У пачатку маскоўскай агрэсіі быў упраўляючым маёнтка Пінскага калегіума (будынак якога, на шчасце, захаваўся і сёння аздабляе цэнтр горада, падобны ў сваім барочным харастве на іспанскі галён часоў Вялікай Армады). Што было далей — ведаем. Неўзабаве а. Андрэй апынуўся ў Маскве, дзе меў пэўную свабоду, якую выкарыстоўваў так, як гэта мог зрабіць сапраўдны член Таварыства Езуса. У самым асяродку праваслаўя, у Маскоўскім Крамлі, у доме «нейкага каталіцкага саноўніка», — па вызначэнні біёграфа Кавячынскага Браніслава Натонскага, арганізаваў свайго роду місію. Потым у другім месцы з'явіўся яшчэ адзін асяродак каталіцкай веры. Тады ж маскоўскія саноўнікі мелі неасцярожнасць (мабыць, проста ад нудоты ці каб разнастайніць жыццё расейскай сталіцы) прапанаваць а. Андрэю ўдзел у рэлігійным дыспуце з праваслаўнымі святарамі. Трэба заўважыць, што і Сімяон Полацкі з яго рамесным сілабічным вершаскладаннем выглядаў на тле маскоўскага грамадства вельмі адукаваным чалавекам (нездарма скончыў Віленскую езуіцкую акадэмію), то што ўжо гаварыць пра езуіта? Хто мог скласці яму канкурэнцыю, калі нават праваслаўныя іерархі не заўсёды валодалі дастатковай адукацыяй. Пасевін піша: «Некаторыя манахі не ведаюць, які манастырскі статут у іх выкарыстоўваецца, не ведаюць і пачаткаў граматы», а Бернштэйн у 1579 годзе не мог знайсці сярод белага святарства ніводнага чалавека, які растлумачыў бы яму розніцу паміж каталіцтвам і праваслаўем, і гэта пры тым, што святарства ў Маскоўшчыне традыцыйна лічылася самай адукаванай часткай грамадства. Зразумела, а. Андрэй перамагаў, але гвалт — апошні аргумент слабейшага. Пад канец 1659 года ці на пачатку 1660-га ён быў сасланы ў Сібір, у Табольск, а адтуль — у Нарым на Абі. «Падарожжа» цягнулася больш за паўгода. Жыў самотна сярод туземцаў-паганаў, працуючы ў каменяломнях, дзе страціў здароўе. Дзякуючы намаганням каралеўскіх паслоў выйшаў на свабоду. У другой палове 1664 года перасёк межы Вялікага Княства і працаваў упраўляючым маёнткамі Нясвіжскага калегіума.

...Дзве постаці — Полацкі і Кавячынскі. Можна не біцца аб заклад, каб адказаць, імя каго з іх засталося ў гісторыі, — дастаткова падняцца на шосты паверх Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі, і на вас з вялікага пано запытальна-пакорліва паглядзіць, па трапным вызначэнні Абецэдарскага, «видный сторонник воссоединения Белоруссии с Россией» Сімяон Полацкі. Пры іншым раскладзе пыл забыцця не пакрыў бы імя Кавячынскага. Паводле гісторыка Літоўскай правінцыі Таварыства Езуса Станіслава Растоўскага, які жыў у XVIII стагоддзі, а. Андрэй пакінуў мемуары, якія, апроч усяго, з'яўляюцца адным са старэйшых апісанняў Сібіры, зробленых нашымі суайчыннікамі. Верагодна, яшчэ ў XVII стагоддзі яны захоўваліся ў архіве айцоў езуітаў у Вільні пры касцёле св. Казіміра. Далейшыя іх сляды губляюцца, нягледзячы на пошукі польскіх даследчыкаў Міхала Яніка ў Польшчы і Юзафа Кжышкоўскага ў Рыме. На думку расейскага даследчыка Барыса Палявога, апісанне Сібіры магло трапіць у архівы Ватыкана.

Айцец Андрэй памёр 29 студзеня 1667 года. На наступны дзень адбылося Андросаўскае перамір'е.

**ЛІТАРАТУРА**
1. Сагановіч Г. Невядомая вайна: 1654 – 1667. – Мінск, 1995.
2. Сіюль А. Стары хрост//Наша Ніва. – Мінск, 1993. № 14.
3. Шпунт А. 600 рублёў золатам і 700 срэбрам: Сімяон Полацкі – выдатны дзеяч беларускай культуры?//Наша Ніва. – Мінск, 1997. №№ 27-28.
4. Абецедарский Л. Белорусы в Москве XVII в. – Мінск, 1957.
5. Grzebeń L. Kawieczyński Andrzej//Encykłopedia katolicka. T. VIII. – Lublin, 2000. – S. 1251–1252.
6. Kijas A. Polacy w Rosji od XVII wieku do 1917 roku. Słownik biograficzny. Warszawa – Poznań. 2000. – S. 148.
7. Natoński B. Kawieczyński Andrzej //PSB. T. XII. – Wrocław – Warszawa – Kraków, 1966 – 1967. – S. 249.
8. Zalęski S. Jezuici w Polsce. T. III. cz. I – Lwów, 1902.
9. Zalęski S. Jezuici w Polsce. – Kraków, 1908.

Міхась Скобла

# З НЕБЫЦЦЯ – НА ПОКУЦЬ

*Ліс А. Выбранае / уклад. і камент. аўтара, прадм. М. Казлоўскага. — Мінск, «Беларуская навука» — серыя «Беларускі кнігазбор». — 2014. 2000 асобн., 592 стар.*




Мы ідзем па асеннім прыснулым Панарскім лесе з віленскім беларусам Яраславам Войцікам. Ідзем да месца, дзе калісьці ў зацішнай лагчыне стаяла хатка-мазанка, у якой жыла незабыўная Зоська Верас — бабуля майго спадарожніка. Застаўшыся без гаспадыні (ледзь не на сотым годзе жыцця яна перабралася да дачкі ў Вільню), хатка праіснавала зусім нядоўга — пайшла дымам у неба. Што гэта было — падпал невядомымі зламыснікамі ці самаспаленне з дапамогай няспраўнай электраправодкі — так і засталося нявысветленым. Калі Яраслаў адным з першых прыімчаўся на пажарышча, у куце яшчэ дагаралі кнігі і вецер гартаў палаючыя старонкі...

Ён расказвае, і я бачу, што нават праз чвэрць стагоддзя для яго — гэта балючы ўспамін. Каб на душы палягчэла, мы заходзім спачатку ў захоплены лесам сад, дзе напаўадзічэлыя яблыні частуюць нас крамянымі сакаўнымі антонаўкамі. І я задаю Яраславу пытанне, якое ўжо даўно, з тае пары, як пачаў збіраць мемуарную і эпісталярную спадчыну Зоські Верас, не дае мне спакою. А чым займалася заўсёды актыўная беларуская дзяячка ў часы Другой сусветнай вайны? Ні ва ўспамінах, ні ў лістах я не знайшоў адказу на гэтае пытанне. Нават намёку не знайшоў. Названы перыяд у жыццяпісе Зоські Верас для мяне — поўная таямніца.

Яраслаў Войцік трохі іранічна глядзіць на мяне і няспешна, нават неяк задумліва разважае ўслых: «А можа, бабуля, жывучы ў лесе, і не заўважыла, што адбылася вайна? Ды і пасля вайны доўгі час яна жыла пустэльніцай. Да актыўнага жыцця яе вярнуў Арсень Ліс — ён, па сутнасці, «абудзіў» Зоську Верас з летаргічнага сну, падгаварыў яе пісаць успаміны, паказаў дарогу да Лясной хаткі многім беларусам, якія шукалі тут сапраўднай беларускай гісторыі».

«Абудзіў» Арсень Ліс... Потым я знайду пацвярджэнне гэтым словам у аўтабіяграфіі самой Зоські Верас.

Арсень Ліс — менавіта будзіцель. Ён абудзіў не толькі Зоську Верас, ён настойліва і мэтанакіравана будзіць, раскатурхвае ад сну ўвесь народ. Бо абуджэнне з летаргіі чалавека ці народу, для якога сон можа цягнуцца стагоддзямі, магчымае толькі пры наяўнасці памяці. Пры амнезіі — поўнай страце памяці — абуджаны чалавек ці народ рызыкуюць пачаць жыццё немаўляці — з чыстага аркуша. Зразумела, тады яны маюць пільную патрэбу ў апекунах-настаўніках.

Кнігі Арсеня Ліса — гэта лекі ад амнезіі, ад страты нацыянальнай памяці. Іх няшмат (лекаў і не трэба шмат), але яны дзейсныя. Хто іх прачытае — умацуе сябе нацыянальна, атрымае эфектыўную прышчэпку ад шкоданосных антыбеларускіх вірусаў, для якіх у нашай краіне ізноў створаная спрыяльная атмасфера.

Калі яшчэ ў студэнцтве трапіла мне ў рукі кніга «Вечны вандроўнік» — пра Язэпа Драз-

---

**Міхась СКОБЛА** — паэт, журналіст, даследчык літаратуры. Нарадзіўся 23 лістапада 1966 г. на хутары каля мястэчка Дзярэчын Зэльвенскага раёна. У 1991 г. закончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Выдаў зборнікі паэзіі «Вечны Зьніч» (1990), «Вочы Савы» (1994),«Нашэсьце Поўні», кнігу літаратурных пародыяў «Розгі ў розьніцу» (1993), зборнік вершаў для дзяцей «Камень-перунок» (1998), кнігу гістарычных нарысаў «Дзярэчынскі дыярыюш» (1999). Укладальнік анталогіі беларускай паэзіі ХХ ст. «Краса і сіла» (2003), шматлікіх твораў класікаў нацыянальнай літаратуры ў серыі «Беларускі кнігазбор», анталогіі перакладаў сусветнай паэзіі ХХ ст. на беларускую мову «Галасы з-за небакраю» (2008) і інш.

довіча, і была прачытаная на адным дыханні, я зразумеў, што павінен знайсці і прачытаць усе кнігі гэтага аўтара. І паступова знаходзіў, хоць зрабіць гэта было, трэба прызнаць, нялёгка. Не здаюць людзі ў букіністычныя крамы кніг Арсеня Ліса. І ўсё ж за гадоў дзесяць мэтанакіраваных пошукаў у маёй бібліятэцы шчасліва апынуліся і «Браніслаў Тарашкевіч» (1966), і «Мікола Шчакаціхін» (1968), і «Пётра Сергіевіч» (1970), і «Купальскія песьні» (1974), і «Песьню — у спадчыну» (1989), і «Пякучай маланкі след» (1981), за якою я найдаўжэй паляваў. Апошняя кніга — пра таленавітага заходнебеларускага мастака Язэпа Горыда, вернутага літаральна з забыцця. Ці трэба казаць, што мой кнігазбор папоўніла — адразу ж па выхадзе ў свет — «Цяжкая дарога свабоды» (1994), а аб'ёмны фаліянт (754 шырокафарматныя старонкі!) «Gloria victis!» (2010) за апошнія гады па перачытванні ўпэўнена займае першае месца.

«Gloria victis!» — Слава пераможаным! Менавіта такім воклічам варта сустракаць герояў кніг Арсеня Ліса. Сустракаць з небыцця і забыцця, з заплеценых хлуслівай павутой камораў і камераў, што і дагэтуль ахоўваюцца прыслужнікамі цёмначасся. Сустракаць і праводзіць на покуць Беларускага Дому, на самае пачэснае месца, якое яны заслужылі. Бо не можа покуць быць пустапарожняй, неадушаўлёнай.

Хто ж яны, вартыя, на думку Арсеня Ліса, святога месца — покуці — у Беларускім Доме? Аляксандр Уласаў і Браніслаў Тарашкевіч, Аляксандр Цвікевіч і Тамаш Грыб, Леапольд Родзевіч і Аркадзь Смоліч, Рыгор Шырма і Мікола Шчакаціхін, Антон Грыневіч і Максім Танк, Пётра Сергіевіч і Уладзімір Караткевіч... Яны і сталіся галоўнымі героямі новай кнігі нястомнага даследчыка, якая нядаўна пабачыла свет у класічнай серыі «Беларускі кнігазбор».

«Почему Лис поднимает этих мертвецов?» — яшчэ ў канцы 60-х дапытваўся адзін служака з таго фронту, які прынята называць нябачным, у выкліканых на размову пісьменнікаў. Няўцям было таму служаку, што малады даследчык «падымае» не нябожчыкаў, а дойлідаў беларускай дзяржаўнасці, якія ў дужа неспрыяльных умовах паспелі закласці падмуркі Беларускага Дому. Мала хто тады, паўстагоддзя таму, верыў, што Дом гэты адбудуецца па ўсіх правілах дзяржаўнага будаўніцтва і на мапе Еўропы з'явіцца Рэспубліка Беларусь. Арсень Ліс верыў і ведаў, і дзеля гэтага працаваў не пакладаючы рук.

Чытаючы кнігазбораўскі том, я заўважыў, што хоць імёны і паўтараюцца (Тарашкевіч, Шчакаціхін, Сергіевіч...), але аўтар сабе паўтарацца не дазваляе. У новай кнізе — новыя тэксты, новыя факты. І — новыя імёны, пра якія — пазней.

Пра Браніслава Тарашкевіча мы маем дзве манаграфіі — адна, ужо згаданая, Лісава, другая — польскай даследчыцы Аляксандры Бергман. Здаецца, там дадзены падрабязныя жыццяпісы знанага палітыка, навукоўца і дзеяча на ніве культуры. У свой час я тыя манаграфіі старанна чытаў, нават канспектаваў. Але ўчытваюся ў невялічкі шаснаццацістаронкавы нарыс «Браніслаў Тарашкевіч», і ягоны герой адкрываецца для мяне яшчэ адной гранню свайго разнастайнага таленту. Што Браніслаў Адамавіч на турэмных нарах «Пана Тадэвуша» пераклаў, а значыць меў паэтычны дар, — гэта бясспрэчна. Але тое, што ён яшчэ і ўласныя вершы пісаў, сталася для мяне сапраўдным адкрыццём. Ды якія вершы! Адзін з іх — «Сто тысяч нас было, сяброў...» — меўся стаць гімнам Беларускай Грамады:

*Смялей, сябры, ужо світае,*
*Гарыць зарой усход.*
*І беларус ярмо скідае –*
*Змагаецца народ.*
*Ўжо волі час, ўжо волі час,*
*Ўжо волі час бліжэй да нас!*

Яшчэ адзін дойлід нашай дзяржаўнасці — рэдактар «першай беларускай газэты з рысункамі» Аляксандр Уласаў. Сенатар Уласаў сустрэўся з Зоськай Верас і запрапанаваў ёй выдаваць дзіцячы часопіс, паабяцаўшы сціплую фінансавую падтрымку. «Як можна за 30 злотых выдаць часопіс?» — запыталася кандыдатка на выдаўца-рэдактара. «А вы скромненька», — адказаў Ула-



Арсень Ліс запісвае народныя песні ў вёсцы Шчорсы на Наваградчыне. Пач. 1970-х гадоў.


Арсень Ліс з мастаком Пётрам Сергіевічам падчас яго персанальнай выставы ў Мінску.

саў... І пачаў часопіс «Заранка» выходзіць у свет, і выйшла яго ажно 15 нумароў!

Са старонак кнігі Аляксандр Уласаў паўстае не толькі ўмелым арганізатарам-выдаўцом, палітыкам і грамадскім дзеячам, але і спрактыкаваным гаспадарнікам. Ён яшчэ сто гадоў таму разумеў, што лес — нацыянальнае багацце беларусаў і з ім трэба абыходзіцца ашчадна. Мяне як чытача ўразілі развагі і падлікі Уласава адносна адбудовы Беларусі пасля Першай сусветнай вайны. Ён падлічыў, што на адну хату запатрабуецца 180 дрэваў, на 200 000 хатаў — 36 мільёнаў дрэваў, дзеля чаго мае быць высечана 200 тысяч дзесяцін спелага лесу. Адсюль выснова Уласава — Беларусь можа быць ператвораная ў аравійскую пустэльню. І ён просіць знаёмых архітэктараў, насамперш Лявона Дубейкаўскага, спраектаваць будынкі з цэглы, каменя і жалеза. І насамрэч — дойлід.

З цікавасцю прачытаў я і эсэ Арсеня Ліса «На разломе эпохі» — пра Максіма Танка. У ім так арганічна пераплятаюцца развагі абазнанага архівіста, літаратуразнаўца і ўспаміны пра асабістыя сустрэчы і гутаркі з паэтам. Мабыць, не памылюся, калі скажу, што ніхто да Арсеня Ліса не спрабаваў у нас даследаваць такую далікатную тэму, як маральная адказнасць Максіма Танка перад рэпрэсаванымі савецкай уладай паплечнікамі і сябрамі. А ў паваенны час іх нямала апынулася ў Гулагу — ксёндз Адам Станкевіч, выдавец Янка Шутовіч, рэдактар адзінага нумару часопіса «Крыгалом» Юры Кепель... Не было ў Максіма Танка на той час вялікіх магчымасцяў для іх абароны — сваёй свабодай рызыкаваў, але ішоў, стукаўся ў высокія кабінеты, тлумачыў. І сяго-таго ўдалося ўратаваць. Скажам, заходнебеларускага паэта Міхася Васілька, якога ў 1944-м НКВД загрэбла за тое, што друкаваўся ў берлінскай газеце «Раніца». Якім гэта было злачынствам для савецкіх уладаў, сведчыць наступны факт: праз пяць гадоў, у 1949-м, яшчэ адна аўтарка «Раніцы», Ларыса Геніюш, атрымала ад Вярхоўнага суда БССР дваццаць пяць гадоў зняволення...

А як нечакана дапаўняецца партрэт народнага паэта наступным штрыхом. Падчас выступу ў БДУ студэнты запыталіся з залы: калі вам, шаноўны Яўген Іванавіч, найлепей пісалася? Адказ быў лаканічным: «У польскай турме». Яго чуў сам аўтар — на той час студэнт філфака. З такіх жыццёвых крэсак і вымалёўваецца постаць творцы і грамадзяніна, а не толькі з дэпутацкіх і вярхоўнасавецкіх прамоваў, якіх ці не зашмат у нядаўна выдадзеным Зборы твораў у 13 тамах.

Эсэ «З любасцю, думна, годна» — адно з лепшых у кнізе. І лепшае з усяго таго, што мне давялося прачытаць пра Уладзіміра Караткевіча. Я ажно не даў веры вачам, не знайшоўшы яго ў таўшчэзнай кнізе «Быў. Ёсць. Буду: Уладзімір Караткевіч», якая выйшла ў 2005 годзе ў серыі «ЖЗЛБ» («Жыццё знакамітых людзей Беларусі»). Паглядзеў уважліва яшчэ раз і яшчэ — няма. А эсэ тое было апублікаванае яшчэ ў 1986-м! Зрэшты, у тым «ЖЗЛБ» няма і выдатнага эсэ Рыгора Барадуліна. Як па мне, дык лепш такіх кніг увогуле не выдаваць, чым выдаваць у гэткім выглядзе, пасмяротна абкрадаючы класікаў.

Сваім абурэннем я падзяліўся па тэлефоне са старэйшым сябрам, які як мала хто ведае ўсю — празаічную і паэтычную — Караткевічыяну. «А ты зірні, як пачынаецца тое эсэ Ліса, — пачуў я ў слухаўцы насмешлівы голас. — «Не быў блізкім сябрам...». Гэта, відаць, і адштурхнула ўкладальніцу». Можа і так.

«Не быў блізкім сябрам...». Такі пачатак сведчыць хіба пра сціпласць і шляхетнасць аўтара. А ўспомніць яму было пра што. Хоць бы пра тое, як ён у бытнасць сваю супрацоўнікам выдавецтва выратаваў ад рэдактарскага глуму тры вершы ў першым зборніку У. Караткевіча «Матчына душа». Сярод іх — і вядомая сёння элегія «У векавечнай Бацькаўшчыне клёны...». А хіба не цікавы сюжэт пра тое, як Арсень Сяргеевіч выступіў у ролі свата і вазіў Уладзіміра Сымонавіча на агледзіны ў Вільню? Ды цаны такім успамінам няма! І як жа добра, што яны напісаліся — з любасцю, думна, годна, і — дадамо ад сябе — таленавіта.

Калі я рыхтаваў для «Гарадзенскай бібліятэкі» том спадчыны Зоські Верас, мне яўна бракавала інфармацыі пра яе першага мужа Фабіяна Шантыра. Так, таленавіты публіцыст,

харызматычны прамоўца на салдацкіх мітынгах, кароткі час пабыў нават наркамам у першым савецкім урадзе Беларусі. І раптам — арышт і расстрэл у 1920-м. Сама Зоська Верас не знала прычынаў, пра смерць мужа даведалася з гарадзенскай газеты. І вось сустракаю ў новай кнізе Арсеня Ліса звесткі, запісаныя ім непасрэдна ад старога беларускага дзеяча Язэпа Сушынскага: «Энергічна і нервова паводзіў сябе на Усебеларускім з'ездзе бальшавік Фабіян Шантыр. Імклівы, амбітны, з кольтам праз плячо, у неадступным суправаджэнні некалькіх чалавек (казалі — група Шантыра) снаваў між дэлегатамі. У адказ на нейчую рэпліку-нязгоду запальчыва кідаў: «Патрабую сатысфакцыі за абразу!». Зноў жа — некалькі штрыхоў, а партрэт вымалёўваецца. Хіба складана было ў той час нарвацца амбітнаму, ужо пабываламу ва ўладзе нацыянал-бальшавіку, да таго ж узброенаму кольтам, на такіх жа ўзброеных проста бальшавікоў...

Ладнаватае месца ў кнігазбораўскім аднатомавіку займаюць фальклоразнаўчыя даследаванні Арсеня Ліса. Так, ён яшчэ і выдатны фальклярыст — тэарэтык і практык, які з груваcткім бабінным магнітафонам абышоў не адзін дзясятак вёсак, вышукваючы залацінкі народнага меласу. У полі яго зроку — калядкі і шчадроўкі, купальскія, пятроўскія, касецкія і жніўныя песні. Я з належнай пашанотай стаўлюся да шматтомавай серыі «Беларуская народная творчасць», але калі душа прагне спеваў, я бяру ў рукі не груваcткія, з акадэмічнымі каментарамі тамы, а маленькі томік «Беларускія народныя песні» (1970), складзены Арсенем Сяргеевічам. Густ у яго бездакорны, ды і фармат кніжкі зручны — хоць за пазухай насі.

Ужо даўно, дастаўшы з паштовай скрыні тыднёвік «Новы час», я з нецярпеннем шукаю ў ім працягу ўспамінаў Арсеня Ліса. Добра, што знайшлося для іх месца і ў кнігазбораўскім выбраным. Аўтар вяртаецца ў незабыўную пару школьнага юнацтва, і мне было цікава разам з ім апынуцца ў яго роднай Залескай школе, якая працавала і пад нямецкай акупацыяй. У свой час мой школьны настаўнік Пятро Марціноўскі падараваў мне «Беларускую граматыку для школ» Браніслава Тарашкевіча. Мяне ўразіў яе наклад — 100 000 асобнікаў, што не спалучалася з высновамі савецкай прапаганды, дзе беларускаму школьніцтву ў гады вайны месца не знаходзілася. І мяне цікавілі падрабязнасці: як і што ў такіх школах чынілася, у якой атмасферы знаходзіліся там вучні.

Аказалася, што юны Арсень Ліс вывучаў родную мову па той самай граматыцы Тарашкевіча — 1943 года выдання, з букецікам васількоў на вокладцы. Ён з удзячнасцю прыгадвае выкладчыка малявання Паўла Южыка — прафесійнага мастака, выпускніка Віленскай рысавальнай школы прафесара Трутнева (потым вучань пра свайго настаўніка напіша бліскучае эсэ «Мастак родам з Вётхава»)... Чытаю — і нібы прысутнічаю на ўроку ў той Залескай школе. Вось у клас заходзіць «жвавы і энергічны» настаўнік Аляксандр Быкоўскі і замест звыклага «добры дзень» вітаецца воклічам «Жыве Беларусь!». «Жыве!» — шматгалоса адказвае клас. На партах перад вучнямі — чытанка «Родны край», адкуль і да гэтай пары Арсень Ліс памятае вершы Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы, Алеся Гаруна, байкі Альгерда Абуховіча. У школе практыкаваліся звароты «спадар настаўнік», «спадарыня настаўніца».

Як і многім дзеткам у Заходняй Беларусі, школьніку Арсеню свяціла і ўжо згаданая «Заранка» Зоські Верас. Выдаваная «скромненька», яна тым не менш настойліва ўзгадоўвала ў юных душах парасткі патрыятызму. Каб выпісаць улюбёны часопіс, дзеці збіралі і сушылі лекавыя зёлкі. Арсеню пашанцавала — «Заранку» прывёз яму сваяк з Вільні, дзе паражніўся склад пры старой кнігарні.

Падпісчыкаў і чытачоў часопісаў «Заранка» і «Беларуская борць» Зоська Верас пасля расшуквала ўсё жыццё. Яны парабіліся яе найбліжэйшымі сябрамі і вернымі карэспандэнтамі. Таму мне бачыцца невыпадковай яе сустрэча з адным з чытачоў — іх лучыла «Заранка», іх яднalі замоўчаныя і прызабытыя ў савецкай Беларусі постаці, дух якіх, здавалася, лунаў у Лясной хатцы. З іх адсланяла заслона бяспамяцтва, паказвалася належнае ім месца — на покуці. І Арсень Ліс выдатна справіўся з роляй будзіцеля, што засведчана Зоськай Верас, што мусім засведчыць і мы — ягоныя чытачы.

Я не прыхільнік даваць парады творцам. Як правіла, яны самі ведаюць, пра што і пра каго пісаць. Але прыканцы гэтых нататак я ўсё ж асмелюся выказаць спадзеўную просьбу: Арсень Сяргеевіч, я вельмі спадзяюся, што ў Ваш цыкл гісторыка-літаратурных эсэ «Дойліды беларускай дзяржаўнасці» неўзабаве дадасца роздум-успамін пра Зоську Верас. Тыя 400 з гакам лістоў ад яе, якія Вы ашчадна перахоўваеце, — неацэнны матэрыял, які проста просіцца на старонкі новай кнігі, на сустрэчу з чытачамі. Месца Зоські Верас — таксама на покуці, і найлепей пра гэта ведаеце Вы — будзіцель яе і будзіцель усяе Беларусі.



# Мар’ян Дукса

## *Радасць крохкая, нібы шкло...*

Мар’ян ДУКСА — паэт.
Нарадзіўся ў 1943 г.
у вёсцы Каракулічы на Мядзельшчыне.
Закончыў філалагічны факультэт БДУ.
Выдаў зборнікі вершаў
«Спатканне» (1967), «Крокі» (1972),
«Станцыя» (1974),
«Прыгаршчы суніц» (1976),
«Забытыя словы» (1979),
«Зона супраціўлення» (1982),
«Твая пара сяўбы» (1985),
«Заснежаныя ягады» (1989),
«Горн прымірэння» (1993),
«Валуны на пагорках» (1994),
«Прыйсці да алтара» (2003).
Лаўрэат Літаратурнай прэміі
імя А. Куляшова.
Жыве ў Солах, на Смаргоншчыне.

* * *

Вось-вось, здаецца, роспач пераможа,
бо свету сівер працінае золкі.
Сваёй надзеі – дзякуй Табе, Божа, –
я склейваю халодныя асколкі.
Няўдзячная яна – такая праца.
Пасуюць думкі – майстраваць умельцы...
Як мала значыць – проста пастарацца,
каб ажывіць рассыпаныя шкельцы.
Малітвы зерне па ўсім сэрцы сею,
мо радасць мне і прыадчыніць дзверы.
А раптам прарашчу сваю надзею,
трымаючы яе ў крыніцы веры.

* * *

Радасць крохкая, нібы шкло...
Раптам пырснула ў сэрцы святло
і патухла – як не было...
Радасць – яблыняў хмельных парад.
Як духмянай ты квецені рад!
Але глянь – асыпаецца сад.
Радасць – цёплага ветру парыў.
Радасць – вось ты бяду пакарыў.
Мог упасці – не ўпаў у абрыў.
Радасць – сон малады пад шчакой,
калі сонца й любоў пад рукой.
Радасць – знойдзенай веры спакой.

* * *

З дрыготкаю пашанай,
як найвялікшы цуд,
Перамяненне Пана
святкуе ўсюды люд.
Стаў ясным, прамяністым.
І тым усё сказаў.
На момант Езус Хрыстус
дзівосна ўвесь заззяў.
Стаў іншым на імгненне,
як Пасланец нябёс.
Здранцвенне й прасвятленне
Ён вучням двум прынёс.
Ты душам зруйнаваным,
скуль сонца ўжо сышло,
Перамяненне Пана,
пашлі сваё святло.
Іх неспакой аціхне,
нібы падчас Імшы.
І можа, зноў успыхне
увесь абшар душы.

## Адвэнт

Прыбраць усё. Пазбавіцца ад бруду.
Падмесці лісце. Бадыллё спаліць.
Навесці поўны марафет усюды.
Пафарбаваць і хаты пабяліць.

Дажджы асеннія сваё зрабілі –
слой пылу змыўшы сцежак і дарог.
Каб сад не здаўся шэрым хоць на хвілю,
сняжок яму змяніцца дапамог.

Ці не задоўга ў мітусні аўральнай
мы носім смецця поўныя кашы?
Мо час заняцца чысткай генеральнай
сваёй такой запушчанай душы.

Вільготнай губкай думкі ўсе працерці,
абмыць малітвай адчуванні ўсе.
І разважаць штодзённа пра бяссмерце,
а гэта мудрасць сэрцу прынясе.

І выветрыць з яго благія звады,
крыклівую затоеную злосць,
нікчэмны гонар, прадчуванне здрады,
чаго не любіць Найсвяцейшы Госць.

І зведаць скруху ў пакаянні скрытным.
А можа, усміхнуцца хоць разок,
павесіўшы на самым месцы відным
Святой Малечы зыркі абразок.

* * *

Ёсць праўды соль і солад прафанацый...
Абмацваем парэшткі ўсе ў журбе.
Ах, колькі іх было – цывілізацый?
Няўжо ўсе зніклі самі па сабе?
Ёсць, мусіць, неспазнаная прычына
ўсяго таго, што творыцца наўкруг,
таго, што сёння ў стане супачыну,
таго, чаго застаўся толькі дух.
І тут, няйначай, умяшаўся Провід.
Дзень пакарання – ён не прамінуў,
калі магутны, цяжкі астэроід
па нашых дрэвах, водах сцебануў.
А колькі іх, тых цяжкіх мінералаў,
наўкруг зямлі ляціць непадалёк.
Ды хтосьці іх прадбачліва-удала
адводзіць ад яе кудысьці ўбок.
Не самі выраслі піраміды.
Сваю ж мы самі клікалі бяду.
Не проста так былая Атлантыда
схавалася аднойчы пад ваду.
З'явіліся планеты ўраз з нябыту,
ніхто не нёс у свет іх на гарбе.
Вось круцяцца па правільных арбітах –
якія ўзніклі самі па сабе ?..
Ну хто там сілу чэрпае з нічога,
каб змайстраваць ракету, дэльтаплан?
Тварыць з нічога – гэта воля Бога.
Нам ці спазнаць Яго дзівосны план?
Гэй, кніжнікі, мяняйцеся ў гаворцы,
хай розум сена Праўды падграбе...
Вось бальшыня ўжо туліцца да Створцы.
А вы дагэтуль – самі па сабе?



# Аксана Данільчык

Аксана Данільчык — паэтка, перакладчыца, кандыдат філалагічных навук. Закончыла філфак БДУ і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Аўтар зборнікаў вершаў «Абрыс Скарпіёна» (1996), «Il Mezzogiorno. Поўдзень» (2006), «Сон, які немагчыма забыць» (2011) і кніжкі вершаў для дзяцей «Павуцінка на агрэсце» (2005). Перакладае з італьянскай мовы, займаецца даследаваннем беларускай і італьянскай літаратуры. Жыве ў Мінску.

## *Італія зімой*

### **Мілан**

На вуліцы Цёмных Кветак
мне раптам адкрылася безліч
падземных нябачаных плыняў,
энергій, што з напластаванняў
гісторый чужых пілігрымак
выходзілі на паверхню
і тут, ужо ў плынях паветра,
спыняліся над брукаванкай
і дыхалі ў твары тубыльцаў.

На вуліцы Светлых Кветак
вярталіся раптам з нябыту
старыя забытыя рэчы:
паштоўкі, гадзіннікі, лінзы,
што ў бляску зімовага сонца
імкнуліся зноў нарадзіцца
для новых напружаных жыццяў.

А я, прасціраючы рукі
ў святле невыноснага рання,
расчытвала дзіўныя назвы,
збірала па кроплях сюжэты,
застылая на скрыжаванні
ад вуліцы Цёмных Кветак
да вуліцы Светлых Кветак.



## Мадэна

Голуб, што адпачывае
на прыступках сінагогі,
гатовы ў любы момант
сігануць як мага далей
ад месца, дзе нетрываласць
створанага чалавекам
разбягаецца расколінамі па сценах.
Ён ведае, што такое землятрус.
А паколькі яму яшчэ рана паміраць,
ён займаецца тым, што марыць
пра наступнае жыццё.

Мая самота
нікому не кідаецца ў вочы,
пакуль усе ідуць, іду і я.
Потым усе знікаюць,
а я застаюся спасцігаць
чужую рэчаіснасць.

Але як толькі халоднае паўдзённае святло
ці то зімы, ці то прадвесня
запаўняе прастору вуліц,
край, які ніколі не стане маім,
сціскае мяне тваімі абдымкамі.

## Ферара

Назіраючы за гэтай жанчынай
з прывабнай усмешкай,
якая проста ідзе без парасона
па дажджлівай вуліцы,
ніхто і не здагадаецца, што гэта ўсяго толькі
змяяня, якое спрабуе вылупіцца з яйка,
прабіцца на святло,
змяяня, што выгінаецца і шукае паратунку
ў прыцемках неўсведамлення.

Пад шкарлупіннем
цела крывавіць чырвонымі кропкамі капіляраў
і запаўняецца вобразамі,
якія пераходзяць адзін у адзін,
набываюць новыя формы,
мяняюць сэнс навакольнага асяроддзя,
светабачанне і светабудову.

Змеяня вылупіцца, калі апусцеюць вуліцы,
калі дождж змые крывавыя сляды,
а мокры замак з чырвонай цэглы
асвецяць начныя паходні.

І слізгане па брукаванцы,
і схаваецца пад вежай.

Няўлоўнае і непрадказальнае,
як сама паэзія.

## Балонья

Непазбежныя пераўтварэнні
калі адлегласць у часе і ў прасторы,
здаецца, тлумачыць самую сябе —
хоць гэтае тлумачэнне
і не з'яўляецца вычарпальным —
зачароўваюць нованароджанымі выявамі...
Жыццё ёсць сон...
Але жыццё не ёсць сон.

Прачнуцца і па белых дахах,
дзе скручваецца лёгкі дым,
прабегчы здзіўленым паглядам
і не паверыць на імгненне,
што гэта снег, сапраўдны снег, —
на кветках, правадах ліхтарняў
і на адкрытых століках кавярняў.

Я адчыняю аканіцы
і думаю: мне гэта сніцца.

Але вяртаецца рэальнасць,
дзе ўсіх уцёкаў бачна марнасць,
а ўсіх памкненняў ідэальнасць
рассыпецца імгненна ўшчэнт,
так проста — твар у твар сустрэцца,
і — знерухомець, заглядзецца,
як цераз порцікі-тунэлі
праходзіць белы сілуэт.

А снег — прысуд або збавенне,
мая параза ці маё паразуменне,
мая нагода знікнуць назаўжды
у белым горадзе, дзе белыя сляды
ужо не патрабуюць тлумачэнняў.

## Аэрапорт Мальпенса

Пераадольваючы горныя хрыбты,
нібы прыступкі светасузірання,
душа няспынна рухаецца ўперад,
пакуль сама сабой не захлынецца
і затрапечацца, і скаланецца.

І вось тады ў транзітным існаванні
між хаатычным броўнаўскім рухам
яна застыне тут навідавоку
і спыніцца — нібы правесці рысу
паміж мінулым і наступным крокам.

Каб адштурхнуцца і пайсці далей,
туды, дзе ад людзей і ад падзей
яе падымуць у нябеснае адхланне
і панясуць бязгрэшныя аблокі.



# Уладзімір МАРОЗ

Уладзімір МАРОЗ — паэт, вядучы рэдактар дакументальнага кіно Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм». Нарадзіўся ў 1953 годзе ў горадзе Косава Івацэвіцкага раёна. Скончыў архітэктурны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (1975) і Літаратурны інстытут імя А.М.Горкага ў Маскве (1983).
Аўтар паэтычных зборнікаў «Пяшчотны дотык», «Голас», «Рэй», «Хутаранская зорка», «Дабрадаць», кніг эсэ «Беларускі храм», «Мінск. Верхні горад», «За брамай забытых мелодый», «Мінск старадаўні і малады», «Магілёў» і інш., сцэнарыяў звыш пяцідзесяці дакументальных стужак. Фільм па сцэнарыі Уладзіміра Мароза «Успамін пра Міколу Равенскага» адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь (1994).

## Іншасвет

О несамотныя мясціны,
Дзе нас няма, дзе проста рай!
Наўзбоч будзённай каляіны
Недасягальны небакрай.

Туды лятаюць самалёты,
Але бракуе на білет.
Усё адкладваеш на «потым» —
Няхай чакае дзіўны свет.

Дзе ззяюць колеры вясёлкі,
Спявае мора-акіян.
Лагодныя пястуюць золкі
Вяртання мары-мроі стан.

О несамотныя часіны! —
Там мы былі, там нас няма.
Ніхто нікому тут не вінны,
Пяшчота спеліцца сама.

Яшчэ наперадзе каханне,
Усе шляхі перад табой.
Калі надарыцца адхланне
Парой дзяцінства залатой?

Але ж ізноўку забракуе
Купіць да шчасця той білет...
Так недасяжна і красуе
Нязнана-знаны іншасвет.

## Там і тут

Застаючыся — адыходзіць,
Быць там і тут, але ісці.
З нястрымным часам жыць у згодзе,
Адною ніткаю сплясці.

Дзяцінства побач бачна востра,
Як Нёман лашчыць твой спакой.
Таемнай згадкай гульняў востраў,
Лазы раскоша над ракой.

Юнацтва светлыя дарогі,
Калі адкрыты цэлы свет.
Ніводнай хмарачкі-трывогі,
Тым больш — ні гора ані бед.

Усё жыве ў душы з табою —
Але сягоння ты не там.
Не паддавайся лістабою,
Каб затаптаным стаць слядам.

Пагляд ускінь штораз у неба,
Адхланнем смагу наталі.
Бо не адзіным жыцьмем хлебам
На Богам дадзенай зямлі.

## Стамлёны матыў

Бывай асадка, не крану цябе,
І ты радок мне болей не запішаш.
Стаміўся цэп гуляць у малацьбе,
Імпэт ужо нічым не раскалышаш.

Здаецца, лёг бы проста і ляжаў,
Бязмэтна-шэра гледзячы на неба.
Напэўна, ёсцека ў жыцці мяжа,
Пасля якой нічога ўжо не трэба.

Стаміўся жыць будзённай мітуснёй,
Дзе спрэс падман і нелюбоў, і зайдрасць.
Няма ні кроплі тут вады жывой,
Схавалі хмары і святло, і радасць.

Але, паверце, гэта не адчай,
А проста з часам поўная знямога.
Дык адпаўзі, счакай, ператрывай,
Маліся шчыра – прыдзе дапамога.

І зможаш зноў кахаць, любіць і жыць,
Пускаць у свет радкі надзеі й веры.
Суладдзя смагу змогуць наталіць
У райскі сад расчыненыя дзверы.

## Ліха

Ат, пайшло яно ўсё...
І пайшло яно
Спрэс па белым свеце гуляць,
Дзе прытоена, дзе непрытоена
Зводзіць з тропу Яго дабрадаць.

Чалавек, у граху новаспечаны,
Адгукаецца рупна ў адказ.
Што там думаць пра шлях свой асвечаны,
Калі жыцьмем адзін толькі раз?

І пайшло яно ўсё, і паехала —
Весяліся да скону душа.
Хто шчабеча аб міры пад стрэхамі? —
У нутрах толькі свіст скавыша.

А яно аж трасецца ад радасці:
Душы ўсіх да сябе забяру!
Хай усе патанаюць у зайдрасці
У маю, у ліхую пару.

Як святых запаветаў пазбыліся,
Значыць, сёння дазволена ўсё.
Не згадаем, калі і маліліся,
Так з сабою свой бруд і нясём.

І пайшло яно ўсё, і не спыніцца,
Азірнуцца нам сіл не стае.
І душа дагарае, нішчымніца —
Што рабіцьмем, браткі вы мае?

## Жыццё

Калі цябе чакае хутар родны
З цярплівасцю сялянскай залатой —
Хай забярэ хутчэй інстынкт прыродны,
Туды, дзе ўсё буяе пекнатой.

Дзе край маленства, праз гады нязводны,
Чароўна-восеньскі, адзіна той.
Лес, луг і Нёман — водар першародны,
Жывой пяшчоты лекавы настой.

Здаецца, больш нічога і не трэба,
І не турбуе спрэс кавалак хлеба —
Тут існаваць штотыдзень і штодзень.

Але ізноў кладзецца хмурны цень,
Ізноў за руль, і ў горад мкнешся порстка –
Быццё ў абдымкі забірае жорстка.



Да роднай бярозы прыпасці…

2 сакавіка адышоў у вечнасць народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, аўтар звыш 70 кніг паэзіі, а таксама шматлікіх зборнікаў паэтычных перакладаў. Развітальнае богаслужэнне прайшло 4 сакавіка ў мінскім Чырвоным касцёле святых Сымона і Алены (у 11.15 адбылася паніхіда ў грэка-каталіцкім абрадзе, а ў 12.00 — святая Імша ў рыма-каталіцкім абрадзе). На гэтае развітанне Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроцці скіраваў сваё слова ў памяць пра народнага паэта, якое было зачытана падчас святой Імшы.

# ДА ВЫШЫНЯЎ ПРЫГАЖОСЦІ

## Слова Апостальскага нунцыя ў Беларусі арцыбіскупа Клаўдыё Гуджэроцці на Імшы развітання з Рыгорам Барадуліным

...У той момант, калі Касцёл аддае апошнюю зямную пашану вялікаму паэту, давяраючы яго міласэрнай любові Бога, прагну і я маліцца разам з вамі.

Глыбокае і тонкае мастацтва Рыгора Барадуліна — гэта голас маўклівай душы беларускага народа. У ім паэзія і духоўнасць яднаюцца ў моцных абдымках. <...>

Мова — гэта інструмент, якім карыстаецца Бог, каб размаўляць з народам. Таму яна святая і вартая, каб яе шанавалі і любілі, як маці. На гэтым інструменце Рыгор Барадулін умеў выконваць дзівосныя мелодыі і дазволіў беларускаму народу сваёй мовай дакрануцца да вышыняў прыгажосці.

Барадулін хацеў таксама, каб шляхетныя паэты іншых культур маглі паўтарыць свае спевы на беларускай мове. Разам з іншымі таленавітымі аўтарамі ён спрычыніўся да перакладу «Рымскага трыпціха» Яна Паўла ІІ, якога крыху больш чым праз месяц Каталіцкі Касцёл абвесціць святым. <...>

Веру, што беларусы, якія разам з іншымі святымі жывуць у ззянні Божага святла, выйдуць яму насустрач, каб падвесці яго да Бога. І, быць можа, Бог прывітае яго ў сваім доме простымі словамі, якімі беларускае сэрца вітае гасцей: «Калі ласка, Рыгор».

Дарагія беларусы, любіце вашых мастакоў — вялікіх і шматлікіх. Яны вучаць вас узнімаць свае вочы ўгору, да Бога надзеі, да жыватворнага сонца, якое ззяе ў вашым вечна прывабным небе, абуджаючы ў вас сілы да штодзённага ўваскрасення.

Божа, благаславі Беларусь і яе народ з яго даверлівай мовай і пяшчотнымі спевамі.



Фота А. Шчыглінскай.

Ірына Багдановіч



# ПАЭТЫЧНАЕ АПОСТАЛЬСТВА РЫГОРА БАРАДУЛІНА

У першы сакавіцкі дзень знайшоўся ў паштовай скрыні чарговы нумар беларускай газеты «Новы час», а ў ёй, як заўсёды, цікавы штомесячны дадатак «Літаратурная Беларусь». Увагу адразу прывабіла паэтычная старонка з вершамі народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна «Чысты боль», якія прачыталіся на адным дыханні, а некаторыя і перачытваліся, даючы новы досвед у спасціжэнні таямніц быцця. Глыбока ўразіў светлы верш, яго простыя і дакладныя радкі: «*Як дома // Я даўно на гэтым свеце, // Не дужа-ткі // Спяшаюся на той. // Яшчэ ні карты // З мёртваю вярстой, // Ні свечкі, // Што гарачаю слязой // Спакойна свеціць. // Яшчэ на гэтым свеце // Я як дома. // А як на тым, // Дагэтуль // Невядома*».

А ў нядзельны вечар 2 сакавіка Беларусь абляцела тужлівая вестка — памёр, адышоў у вечнасць, да алтара Пана Бога, Рыгор Барадулін, наш любімы дзядзька Рыгор, шаноўны Рыгор Іванавіч — НАРОДНЫ ПАЭТ АЙЧЫНЫ... І вось жа сталася нібыта працягам таго верша: «*А як на тым...*» — цяпер яму вядома...

4 сакавіка ў Чырвоным касцёле св. Сымона і Алены ў Мінску адбылося народнае развітанне з Паэтам. Пахавальную цырымонію набажэнства ў грэка-каталіцкім абрадзе ўрачыста цэлебраваў архімандрыт айцец Сяргей Гаек. Рыма-каталіцкую жалобную Імшу ўзначаліў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч у суправаджэнні шматлікага каталіцкага і ўніяцкага духавенства, тысяч вернікаў і беларусаў розных канфесій, якія прыйшлі развітацца са сваім сапраўды народным паэтам, выразнікам народнай душы, яе прагі Бога, Праўды і Свабоды. Над труною, якую ўкрывала мора кветак, пераважна белых і чырвоных ружаў, гваздзікоў і цюльпанаў, што былі знакам народнай памяці і любові, прагучала таксама ўшанавальна-развітальнае слова Апостальскага нунцыя ў Беларусі Клаўдыё Гуджэроцці. Так праводзіла Беларусь у апошні шлях свайго слыннага, геніяльнага сына, цела якога кіравалася ў родную Вушачу, каб спачыць у роднай зямельцы побач з маці Кулінаю, апетаю ў яго шматлікіх вершах і паэме, а душа — у Нябесную Гасподу Бога-Айца...

У сваім прачулым казанні падчас развітальнай Імшы арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч адзначыў не проста вялікі паэтычны талент Рыгора Барадуліна, а тое, што гэты талент ведаў свой шлях, ведаў, куды ісці. Ён ведаў, хто ёсць і Дарога, і Праўда, і Жыццё, а таму яго творчасць пазначана Боскай пячаткаю і нясе ў сабе святло высокай духоўнасці, шчодра рассяваючы яго ў душах усіх, хто судакранаецца з яго паэтычным боганатхнёным словам. Эксцэленцыя вельмі дакладна падкрэсліў асаблівую місійную ролю, якую мае паэзія Рыгора Барадуліна ў святле новай евангелізацыі свету, бо сваёй паэзіяй Рыгор Барадулін прапаведаваў Божае слова, нёс Евангелле ў гэты зямны свет. Менавіта гэтак і можна разумець творчасць таго, хто злучаў *ксты* ў паэтычным маленні — маленні за Беларусь, за душы сваіх суайчыннікаў і ўсіх людзей свету, здольных яднацца ў Божай Любові, а таксама перадусім за душу ўласную, даверану Богу. У гэтай даверанасці ёсць адна з прычынаў таго, што ў паэзіі Барадуліна шукаюць і знаходзяць сугучча са сваімі душамі іншыя людзі, яна становіцца выразнікам

і іх даверанасці Богу, і іх адчуваннем Праўды, прагі Свабоды, увасабленнем Любові і Надзеі. Гэтыя якасці і абумоўліваюць феномен народнасці паэта: ён народны па сутнасці сваёй творчасці, па ўвасабленні ў ёй Свету і Чалавека ў пераплеценасці яго духоўнага і цывілізацыйнага існавання. Другою прычынаю варта назваць непераўзыдзеную мастацкую дасканаласць барадулінскіх вершаў, палёт і бляск іх самых разнастайных формаў, маланкавую бліскучасць вобразаў, асацыяцый, метафар, вадаспады нечаканых рыфмаў, словатвораў, смеласць эксперыментаў, якія, матэрыялізуючыся ў зямной слоўнай форме, даносяць да Нябёсаў тую энергію, якою Пан Бог прамаўляе да нас, выбраўшы за пасрэдніка-прарока Рыгора Барадуліна і надзяліўшы яго адпаведным Дарам.



Рыгор Барадулін з архімандрытам Сяргеем Гаекам на аўдыенцыі ў Яна Паўла II. Ватыкан, 2004 год.

Рыгор Барадулін пакінуў нам і ўсім будучым пакаленням дзівосную сваёй прыгажосцю і дасканаласцю формы, глыбінёй думак і пранікнёнасцю пачуццяў ПАЭЗІЮ, у якой увасобіўся свет душы беларуса, што злучае ў сабе зямлю і нябёсы, родны край і цэлы свет, чалавечую слабасць і веліч Божага ўсынаўлення. Гэта па сутнасці паэтычная Біблія беларусаў, дзе кожны зможа знайсці адказы на ўсе свае пытанні: патрыятычныя і духоўныя, прыватна-сямейныя і нацыянальны-гістарычныя, філасофскія і бытавыя. Тут усё багацце і складанасць чалавечага жыцця і народнага жыцця.

Уладаром беларускай песні быў і ёсць Янка Купала. Такім жа ўладаром беларускага слова ёсць (не хочацца яшчэ казаць быў!) Рыгор Барадулін — па таленту і пакліканню, дадзеных яму Богам. З мяккай і цёплай слова-гліны — вушацкай, роднай — вылеплівае нацыянальны паэтычны свет Майстра і ўдыхвае ў яго жыццё-дух, нібыта слухаючыся Голасу, які кажа яму: «Ідзі за Мной, Я ёсць і Дарога, і Праўда, і Жыццё...» І ён пайшоў, цалкам давяраючыся Богу, можа, адразу і не ўсведамляючы, што яго творчасць стане сапраўды новым паэтычным апостальствам для Беларусі.

Паэзія Рыгора Барадуліна ад пачатку несла ў сабе ўтаёны духоўны складнік, які струменіў з тэматыкі і вобразаў яго творчасці нават у глухія да Бога савецкія часы. Згадаем хоць бы ўсім вядомыя любімыя радкі, што сталіся даўно хрэстаматыйнымі: «*Трэба дома бываць часцей, // Трэба дома бываць не госцем, // Каб душою не ачарсцвець // І не страціць святое штосьці...*». Нібы насуперак тым жорсткім атэістычным часам душа шукала сваё «*святое штосьці*» ў розных праявах жыцця і, натуральна, у прывязанасці да роднага дома, роднага краю, роднай мовы, дадзеных чалавеку ў дар ад Бога, а не ад дзяржавы, якой бы яна ні была. Напоўніцу ж духоўны патэнцыял творчасці Барадуліна, яе скіраванасць на паэтычнае асэнсаванне Божага слова, Бібліі, выявіўся ў кнізе паэзіі «Евангелле ад Мамы» (1995), а ў далейшым паглыбляўся і пашыраўся, стаўшыся малітоўным стрыжнем выніковай кнігі паэзіі «Ксты» (2005), якая вытрымала ўжо чатыры выданні. Сімвалічна і тое, што кніга была выдадзена ў Мінску Рыма-каталіцкай парафіяй святых Сымона і Алены — Чырвоным касцёлам, а гэта яшчэ раз падкрэслівае яе глыбінную духоўнасць, яе сапраўды чынны ўдзел у новай евангелізацыі свету. Усяго Чырвоным касцёлам у Мінску за гэты час было выдадзена 12 кніг Рыгора Барадуліна і рыхтуюцца новыя выданні.

«Евангелле ад Мамы» адкрываецца праграмным вершам, які вызначыў аблічча новай кнігі і кірунак усёй далейшай творчасці паэта:

*Як у сцюдзёную раку,*
*Памалу ў Біблію заходжу,*
*Бо веру, што душу злагоджу,*
*І думаю, бяду ўраку ...*

*Свяжэе потых сіўярка,*
*Чужэе цесната людская.*
*Душу спакоем абмывае,*
*Як свет глыбокая рака.*

Далей «выпраменьвае святло» адмысловы барадулінскі «Трыкірый»: «*Трыкірый — // Тры свечкі святла // Айца й Сына й Духа Святога...*», які



Р. Барадулін з кс. У. Завальнюком
на радзіме паэта ва Ушачах
у аднаўленым касцёле святога Лаўрэнція.

склалі тры біблейскія цыклы вершаў — «Следам Эклезіяста», «Следам Прыпавесцяў Саламонавых» і «Следам Апостала Паўла». Асобны цыкл у кнізе складаюць вершы-ўражанні ад наведвання Святой Зямлі — «Стане Віфлеемам сэрца» (у пазнейшай рэдакцыі «Бэтлеемам стане сэрца»). Мноства іншых вершаў у кнізе закранаюць праблемы гістарычнага і духоўнага жыцця Беларусі ў іх узаемапранікальнасці і злучанасці («Беларушчына», «Каліновец», «Слуцкім паўстанцам», «Язэп Драздовіч», «Грунвальд», «Васілю Быкаву ў светлы дзень» ды іншыя). Завяршае кнігу таксама знамянальны і мудры верш — верш падзякі Богу за дар жыцця. Гэта стала таксама новым і дзіўным у той, толькі што пачаўшайся, постсавецкай рэальнасці, дзе чалавек прывык адно наракаць на праблемы матэрыяльнага жыцця, а Бог быў наогул ад яго дзесьці вельмі далёка:

*Дзякуй Госпаду за дазвол*
*Папрысутнічаць на бяседзе,*
*Дзе на ўсіх засцілаўся стол,*
*Дзе прыткнуўся я*
*Збоку недзе...*
*Дзякуй Госпаду за дазвол.*

Думаецца, што этапнай падзеяй на шляху паэтычнага апостальства Рыгора Барадуліна стала яго сустрэча з папам Янам Паўлам II у чэрвені 2004 г. у Рыме падчас асабістай аўдыенцыі ў Ватыкане з нагоды перакладу ім на беларускую мову «Рымскага трыпціха» Святога Айца. Пераклад быў выдадзены да 25-годдзя Пантыфікату Папы Беларускай Грэка-каталіцкай Царквой. Аб важнасці гэтай падзеі гавораць словы самога паэта: *«Святы Айцец пераклаў на мае рукі сваё блаславенне, прыняў пераклад і падараваў мне асвечаны ружанец. Варта было жыць, каб дапасці душой да незвычайнай паэзіі Яна Пайла II, бо гэта размова з Вечнасцю, са Словам, гэта прачытанне Вечнай Кнігі святой душой... Гэта дар Усявышняга...».*

Паэтычнай рэфлексіяй на гэтую падзею стаў «Рымскі дыптых» самога Рыгора Барадуліна, выдадзены асобнай кнігай у Полацку Грэка-каталіцкай парафіяй святога пакутніка Язафата ў 2006 годзе. «Рымскі дыптых», прысвечаны Яну Паўлу II, мае падзагаловак «Узрушэнне. Рэлігійная паэзія». Сапраўднае ўзрушэнне выклікаюць радкі вершаў гэтай кнігі, асабліва першага:

*Укленчыць і прыпасці да рукі,*
*Якая свет мудрэць дабраслаўляе.*
*Адчуць, як ціхаміраецца вякі,*
*Як у душы зняможанай світае.*

*Прыняць ружанец з дарчае рукі —*
*Замроеныя пацеркі Сусвету.*
*Пачуць сустрэчы голас трапяткі*
*Ўваскрэслы светла*
*Ў словах Запавету.*

«Рымскаму дыптыху» ў якасці паэтычнай прадмовы папярэднічалі два хрысталагічныя вершы, якія таксама ёсць жывым сучасным сведчаннем веры, сведчаннем таго, што і для сучаснага чалавека, як і ва ўсе іншыя, мінулыя і будучыя, вякі, менавіта Хрыстус ёсць Дарога, Праўда і Жыццё. У адным вершы паэт называе Уваскрэслага Езуса «Дошкай выратавання», на якой «Госпад дазволіў ... плысці» ў бурлівым моры жыцця, «маючы ветразем веру». У другім вершы Хрыстус — «Зорка выратавання»:

*Сцежкаю думкі, дарогай хады,*
*Ветрам дыхання жывога*
*Вечныя нашы й зямныя гады*
*Рушаць да Пана Бога.*

*Крыжам аслонены свеньціцца лёс*
*Радасцю райскага рання.*
*У моры адчаю*
*Светлы Хрыстос —*
*Зорка выратавання.*

Памятаецца, як падчас прэзентацыі «Рымскага дыптыху» ў Мінску ў Літаратурным музеі Янкі Купалы народнаму паэту нехта з прысутных у зале задаў сакрамэнтальнае пытанне: «Як Вы прыйшлі да Бога?». Рыгор Іванавіч здзіўлена ўскінуў бровы, вочы яго засвяціліся, і ён імгненна адказаў: «А я ад Яго ніколі і не адыходзіў»... Адказ, як бачна, быў

таксама сакрамэнтальным.

Духоўны маштаб кнігі паэзіі «Ксты» проста ўражвае. Сапраўды, не перабольшваннем, нават не проста метафарай будзе сказаць, што гэта сучасная беларуская Біблія ў вершах, у якой канцэнтруецца праява Божага Провіду аб беларусах, нацыі ў яе гісторыі, сучаснасці і будучыні.

У вядомага польскага паэта Казімежа Вяжыньскага ёсць верш «Польская Біблія» (укладальнік В. Смашч у 1996 г. так назваў і кнігу выбраных вершаў паэта), у якім ён метафарычна называе такія творы як «Дзяды», «Пан Тадэвуш» Адама Міцкевіча, «Кардыян» Юліуша Славацкага і іншыя менавіта «Бібліяй польскай», у якой «польскі свет ад бацькоў перадаецца сынам» з пакалення ў пакаленне. Такое параўнанне гаворыць аб моцы і сакральнасці нацыянальнага жыцця, святасці справы нацыянальнага адраджэння для кожнага народа. Для беларусаў увасабленнем такой духоўнасці, святасці, сакральнасці ў маштабе ўсёй нацыянальнай супольнасці стала менавіта паэзія Рыгора Барадуліна, праз якую наша краіна годна і велічна рэпрэзентуецца і ў сям'і народаў, пушчаных Богам у гэты свет.

Першае выданне кнігі «Ксты» адкрываецца вершам «Чырвоны касцёл», прысвечаным ксяндзу-пробашчу Уладзіславу Завальнюку, ініцыятару гэтага і будучых выданняў паэта. Важнасць гэтага верша, які пазней вырасце ў трыпціх, у тым, што ў ім вобразна вызначаецца тая асаблівая роля, якую адыгрывае ў людскім жыцці жывы Касцёл як малітоўная супольнасць людзей, дзе прысутнічае сам Езус Хрыстус: *«Бажэе ў вяках небадол. // І душы жагнае трывога. // У цемначы тлуму людскога // Світае Чырвоны касцёл...»*. Эпіграфам да кнігі, як, можна сказаць, і да ўсяго жыцця паэта, узятыя радкі, пададзеныя копіяй аўтографа: «*У бажбе, // У шчырай мальбе // Да Цябе // Ксты зводзяцца самі. // У неба грукаюся // Не кстамі — // Словамі ціхай малітвы. // Пачуй мяне, // Божа Вялікі... Рыгор Барадулін*».

Першым цыклам кнігі «Ксты» становіцца паэтычны «Ружанец», у якім боганатхнёна пераствораны ў вершах усе найважнейшыя хрысціянскія малітвы: «Ойча наш, што ў нябёсах», «Багародзіца, Вечнадзева Марыя», «Веру ў адзінага Бога Айца», «Госпадзе, не забудзься ўранні», «Устаўшы з пасцелі, як з дамавіны», «Святы анёле» ды іншыя. Затым ідуць вядомыя нам па «Евангеллю ад Мамы» паэтычны «Трыкірый», «Бэтлеемам стане сэрца». Новым асэнсаваннем біблійных глыбіняў і мудрасці становяцца цыклы, таксама непасрэдна звязаныя з Вечнай Кнігай — «Псальмы Давідавы», «Дванаццаць біблейскіх баладаў», «Песня над песнямі Саламонава».

Зорны россып іншых вершаў Барадуліна, сабраных у кнізе «Ксты», спарадкаваны ў тэматычныя і асацыятыўныя сузор'і-цыклы («Босая зорка», «На ўскрайку вечнасці», «З застрэшша мамінае хаты» ды іншыя). Яны раскрываюць усю немагчыма-магчымую паўнату Боскага быцця чалавека ва ўнутраным і знешнім свеце, на скрыжаваннях прасторы і часу, у працэсе яго крочання крыжовай дарогай зямнога шляху, яго пазнання той ісціны, што «*Чым Бог бліжэйшы да зямлі, // Тым Ён нябеснейшы...*».

Беларусь, яе шматпакутная гісторыя і сучаснасць, пазнаюцца паэтам таксама ў святле веры. Яшчэ ў 1992 г. ён напісаў верш «Маленне за Беларусь», які гучыць вельмі актуальна і сёння:

*Божа, пашлі Беларусі*
*Ласку з Тваімі вачамі,*
*Сэрцы суцеш у скрусе,*
*Злітуйся над крывічамі.*

*Зніknуць, Святы, не дай нам*
*Ад рукатворнага жаху,*
*Верацьмем вечным тайнам*
*Руху Твайго і шляху.*

*Божа, вярні дадому*
*Блудныя душы з выгнання.*
*Поперак духу злому*
*Воля Гасподняя стане.*

*Хай беларус беларуса*
*Будзе любіць як брата.*
*Светлая Імем Ісуса*
*Наша крывіцкая хата.*

*Божа, на ўсіх раздарожжах*
*Нас ад напасцяў варожых*
*Твой зберажэ напамін.*
*Амін.*

Завяршыць гэтыя сціслыя (як вяночак памяці на яго свежую магілу) разважанні аб духоўнай паэзіі Рыгора Барадуліна, якая ўся гучыць як Запавет, якой наканавана неўміручасць і ўваскрасенне для Вечнасці, хочацца яго светлымі прарочымі радкамі з верша «Вераю» (2005):

*У нябёсаў святла стае,*
*Каб адпрэчыць хмурыну шэрую,*
*Адмаліўшы грахі свае,*
*Беларусь адродзіцца Вераю.*

Верым жа ў гэта і мы, слухайма голасу прарока нашай айчыны, якога Бог паклікаў быць Апосталам Хрыстовай веры для беларусаў праз дар паэтычнага слова, што сталася для нас і будзе назаўсёды ўвасабленнем святла Боскай Праўды, Любові і Надзеі.

Сяргей Кандрычын

# Позірк Езуса: вопыт псіхадрамы

Калісьці ў маленькім дворыку дзеці гулялі ў Бога. У цэнтры яны пабудавалі гару са старой мэблі і ламачча; на яе ўзабраўся «Бог», а «анёлы», махаючы крыламі, лёталі вакол яго пад гукі «анёльскіх» спеваў. У эпагеі дзейства «Бог» павінен быў узняцца над «анёламі»… Але праз хвіліну хлопец ляжаў на зямлі са зламанаю рукою.

Такі быў першы «спантанны вопыт» эксперыментальнай тэалогіі Якаба Леві Марэна — стваральніка сацыяметрыі і псіхадрамы. Гэты метад псіхатэрапіі прапануе ўваход у вобраз, які дазваляе пераадолець жыццёвыя цяжкасці, фармуе найвышэйшы адаптацыйны патэнцыял, развівае крэатыўныя здольнасці, змушае па-новаму ставіцца да жыцця. На думку Я. Марэны, сустрэча чалавека з Богам можа адбыцца ў мастацкай і духоўнай сферах; гэтая падзея вызваляе чалавека, дае яму зарад іскры Божай — той духоўнай энергіі, якая знаходзіць праяўленне ў штодзённым дзеянні. Дыялог чалавека з Богам утварае падмурак для пераймання, перажывання па найвышэйшым узоры.

Аднак чалавек павінен быць падрыхтаваным да такой сустрэчы: «спачатку чалавек павінен сустрэцца з сабою, потым — з тымі, хто жыве з ім пад адным дахам, потым — з тымі, хто жыве з ім у адной супольнасці, у адной краіне. Толькі тады магчыма Сустрэча з Богам». Хутчэй за ўсё, тады ўжо Бог сам выйдзе насустрач.

Ці варта спрабаваць прыспешваць гэтую сустрэчу? — Чаму не?

Дзеля прыкладу, ці здольны ты здзейсніць вандроўку ў часе і стаць сведкам падзеі, якая адбылася амаль дзве тысячы гадоў таму?

Галгота.

Сярод колераў больш карычневага і шэрага — плямы жоўтага.

Неба шэрае, пробліскі блакіту, і вецер, абавязкова ёсць вецер.

Невялікі натоўп, каля сотні чалавек, набліжаецца да пагорка.

Ідуць спяшаючыся, здалёк выглядае як нешта будзённае.

Углядаешся, як пагойдваюцца крыжы.

Ты разумееш, што ў хуткім часе павінна адбыцца, але яшчэ здольны ўсё спыніць, здольны ўратаваць Хрыста. Як спыніць? Усё роўна як, бо ты з XXI стагоддзя. Можаш выклікаць спецназ ці проста напалохаць гэты натоўп і тых некалькіх воінаў, якія самі не вельмі адрозніваюцца ад натоўпу.

Можаш?..

І тут жа прыпыняешся, бо нават губляешся ад думкі, ***што*** ў гэтым выпадку ты можаш спыніць. Чамусьці прыгадваецца — «што робіш, рабі хутчэй», і з пакораю далучаешся да той волі, якая ўжо выконваецца.

Раптам адзін з тых, хто нясе крыж, рэзка адхіліў галаву — у яго кінулі камень. Ты ўбачыў ягоны твар, кроплі поту і крыві. І позірк — прамільгнуў позірк — гэты позірк толькі прайшоўся па табе, але ты адразу кінуўся да яго бліжэй. Хоць дапамагчы... І зноў бачыш гэты позірк, і дзесьці ўнутры само складаецца:

— Гэта Мой крыж, і Я яго нясу — вазьмі свой…

— Дзе? Дзе мой крыж, Езу?

— Ідзі наперад і … — перарваў свіст біча.

Мала, каб стаць сведкам? Пэўна, што так.

Аднак з такіх сустрэчаў складаецца асоба, якая здольная ісці і адчуваць праўду свайго выбару. А такія моманты ў жыцці абавязкова ўзнікаюць. Мы выбіраем свой кірунак, спадзяемся, што ён наш, але нікому, як і табе самому, не зразумелы і не прыдатны да ніякіх ацэнак. Ацэнкі, наадварот, перашкаджаюць, асабліва калі прыгадваецца «плюралістычнасць» дабра, адпаведна, і «плюралістычнасць» зла: тут жа іх рацыянальнасць, адпаведнасць, прыдатнасць…і іншыя варыянты — «фарысейскай закваскі».

Каб цалкам не згубіцца ў гэтай блытаніне, можна па асобай сувязі звярнуцца да святара з самай беднай парафіі ў Мексіцы, якога ты раней бачыў у амерыканскай стужцы (фон больш жоўты і блакітны, менш брудна-карычневага). Або паўтарыць словы Томаса Джэферсана: «Калі робіш першы крок, яшчэ не ведаеш, які будзе наступны, і ўсё ж ідзі за праўдаю, справядлівасцю, правасуддзем і прастатою ў адносінах і ніколі не сумнявайся, што яны выведуць цябе з лабірынту самым кароткім шляхам...».

Аднойчы сказаў Бог свае слова, і яго шмат разоў чуюць ўсе, хто здольны чуць. І не варта чакаць дадатковых тлумачэнняў, каментараў, мроіць, што Ён прызямліцца з хорам анёлаў і павядзе за сабою зноў... Безумоўна, гэта ўзрушвае, але ёсць усе падставы лічыць, што хтосьці чакае ад цябе самастойнага ўчынку. Твайго самастойнага кроку наперад, твайго ўласнага пошуку. І толькі тады, калі пройдзеш добрую частку свайго шляху, пачынаеш разумець, «куды ідзеш». Можа здарыцца нават так, што табе застанецца зрабіць яшчэ крок і ты ўжо — укрыжаваны разам з Хрыстом. У гэтую хвіліну табою будуць ганарыцца многія, сярод іх будзе і сацыёлаг-фантазёр Якаб Марэна.

**Літаратура**

Марино Р.Ф. История Доктора: Джей Л. Морено — создатель психодрамы, социометрии и групповой психотерапии. — Москва, 2001.

*Аўтар удзячны Васілю Бязмену за сяброўскую дапамогу ў працы над тэкстам.*

# Сабор святога Пятра ў Рыме



Нам — першакурснікам факультэта гісторыі і тэорыі мастацтва — падабалася спаборніцтва з рэхам. Трэба было стаць на сярэдзіну ўнутранага двара будынка пецярбургскай Акадэміі мастацтваў (усе называлі гэты двор «цыркулем» з прычыны адпаведнай яго формы) і гукаць або пляскаць у ладкі. Розгалас, што лунаў у замкнёнай прасторы, здаваўся нам абуджанымі галасамі нашых папярэднікаў, якія жылі і вучыліся ў гэтых мурах. Тым больш што прафесура патлумачыла нам: аўтары будынка Акадэміі — маніфеста класіцызму ў рускай архітэктуры XVIII стагоддзя — запраектавалі і пабудавалі яго цэнтральную частку вакол цыркульнага двара, перыметр якога паўтараў памер перыметра падкупальнага барабана сабора святога Пятра ў Рыме. Праз дзесяцігоддзі мара юнацтва здзейснілася і многія з нас убачылі ватыканскую святыню...

Чаму з пакалення ў пакаленне людзі вяртаюцца да гэтага шэдэўра архітэктуры? Чаму архітэктары розных традыцый і школ шукалі ў ім узор творчага вырашэння? Дастаткова зірнуць на панараму таго ж Рыма (напрыклад, з Авенцінскага пагорка), каб убачыць у агульным сілуэце Вечнага горада яшчэ некалькі меншых па памерах амаль дакладных «рэплік» купала ватыканскага сабора. Архітэктурныя гіганты, якія сталіся сімваламі еўрапейскіх сталіцаў, былі плёнам натхнення саборам святога Пятра — саборы святога Паўла ў Лондане і святога Ісакія ў Санкт-Пецярбургу. Прыклады можна пералічваць і далей. Польскі мастацтвазнаўца Караль Эстрэйхэр так напісаў пра святыню: «Сабор св. Пятра з'яўляецца найвялікшым дасягненнем рэнесансу, і хто ведае, ці не найвялікшым архітэктанічным здзяйсненнем свету. Не ў памерах веліч гэтай будовы, хаця сабор каласальны і мае 200 м даўжыні, а купал узносіцца на 120 м. Манументальнасць дыктуюць прапорцыі, перш за ўсё панаванне купала над цэлым»[1].

У I ст. пры імператары Нероне на гэтым месцы быў пабудаваны цырк — месца для забаваў і спаборніцтваў даўжынёю 590 м і шырынёю 95 м. У гэтым цырку (Калізея яшчэ не было) прымалі смерць хрысціянскія пакутнікі, а ў 66 годзе быў укрыжаваны святы Пётр. Дарэчы, абеліск, прывезены з Егіпта папярэднікам Нерона імператарам Калігулам, стаяў у цэнтры цырка і быў перанесены ў цэнтр плошчы св. Пятра ў XVI стагоддзі (пры гэтым абеліск разламаўся, і цяпер мае значна меншую вышыню). Першыя хрысціяне таемна ўшаноўвалі магілу свайго біскупа. Калі ў 326 годзе імператар Канстанцін завяршыў пабудову першай базылікі святога Пятра, алтар храма размясцілі над мяркуемым месцам магілы Апостала. У новы час скептыкі падвергі сумніву сапраўднасць гэтых дадзеных, але ў 2013 г. археолагі адкрылі ў сутарэннях сабора магілу з надпісамі ў гонар Апостала, што ёсць неабвержным аргументам супраць скепсісу.

Канстанцінаўская базыліка прастаяла амаль 1200 гадоў і сталася сцэнаю для многіх драматычных падзеяў. У 800 г. папа

Леў III каранаваў тут Карла Вялікага жалезнай каронай валадара Заходняй імперыі. У 846 г. сарацынскія піраты прарваліся на сваіх караблях у Тыбр і разрабавалі базыліку разам з іншымі храмамі. З даўніх часоў базыліка з'яўлялася месцам пахавання многіх рымскіх біскупаў. Шэраг выяваў дае ўяўленне аб тым, як выглядаў гэты сабор: вялікая трохнававая базыліка, што мела 120 алтароў і была вельмі падобная да рымскага сабора св. Паўла за мурамі *(San Paolo fuori le muri)*, які захаваўся дагэтуль. Ужо ў XV стагоддзі старажытная базыліка знаходзілася ў аварыйным стане — яе рамантавалі і дабудоўвалі. І ўрэшце папа Джуліа II загадаў разбурыць стары храм і пабудаваць на гэтым месцы новы, які б сапраўды стаўся сімвалам універсальнага Каталіцкага Касцёла. Дарэчы, у Рыме можна ўбачыць архітэктурныя дэталі даўняй базылікі, яе калоны ўпрыгожваюць арку на плошчы *Piazza del Popolo*.

Будаўніцтва ўрачыста распачалося 18 красавіка 1506 г. і завяршылася ажно ў 1626 годзе. Комплекс плошчы сабора св. Пятра быў завершаны толькі ў 1667 годзе. Такім чынам, тытанічная праца тысячаў людзей і найвыдатнейшых архітэктараў эпохі працягвалася паўтара стагоддзя, што можна параўнаць толькі са стваральным подзвігам сярэднявечнай Еўропы.

Распачаў працу над новым саборам вялікі архітэктар Даната Брамантэ, хаця практычна ўсе галоўныя архітэктары праекта — гэта славутыя майстры італьянскага дойлідства. Але ў аснове доўгіх пошукаў архітэктурнага вырашэння былі накіды генія Адраджэння Леанарда да Вінчы (выкананыя не для гэтай канкрэтнай пабудовы, а як узор рэнесансавай сістэмы цэнтральна-купальнага храма). Дамінанта вялікага купала, такім чынам, існавала з пачатку працы над унікальным праектам. Брамантэ распачаў пабудову ў форме грэчаскага крыжа — з роўнымі бакамі. Пасля яго смерці будаўніцтвам кіраваў вялікі Рафаэль, які настойваў на форме лацінскага крыжа ў плане пабудовы — з больш падоўжаным чацвёртым бокам. Пасля яго архітэктар Бальдасарэ Перуццы спрабаваў будаваць цэнтрычную пабудову. А ў 1546 г. кіраўніком праекта быў прызначаны Мікеланджэла — менавіта яму належыць агульнае вырашэнне сабора і яго дамінанты — купала.

Пецярбургскі мастацтвазнаўца Ігар Барценеў так ахарактарызаваў работу генія: «Праект Мікеланджэла выйграў у цэласнасці кампазіцыі, сабор зрабіўся больш злітным, кампактным, выключна манументальным. Але ён, як і раней, трактаваўся не толькі як месца малітоўных сходаў, але і як помнік, што ўвасобіў перш за ўсё рэлігійную ідэю»[2].



План цырка Нерона, сабора і плошчы святога Пятра.

Даследчыкі лічаць, што ў гэтым творы Мікеланджэла-архітэктар зрабіў адкрыцці, якія дазваляюць называць яго першапраходцам новага архітэктурнага стылю — барока. Ён прымусіў выгінацца сцены, адмовіўся ад строгай прасталінейнасці архітэктурнай масы і плана пабудовы. Мікеланджэла захапіўся перспектыўнымі скарачэннямі ў трактоўцы антаблемента. Калі ўглядацца ў дэталі (у маштабах каласальнай пабудовы таксама вельмі вялікія), то адчуваецца, як майстра трактаваў форму вельмі пластычна, з захапленнем скульптара, і гэта пры ўсёй павазе да ўласна традыцыйных архітэктурных формаў. Аднак трэба прызнаць, што гэтыя дынамічныя рысы зусім не чытаюцца, калі стаіш на плошчы св. Пятра перад саборам. Ён захапляе сваёй арганізаванай, неверагодна вялікай масай, у якой, зразумела, дамінуе ўраўнаважаная гармонія рэнесансу.

Працуючы над купалам, Мікеланджэла ўважліва вывучаў рымскі помнік антычнага дойлідства — Пантэон, купал якога на працягу стагоддзяў захапляў архітэктараў і інжынераў. Каб умацаваць канструкцыю цэглавага купала, Мікеланджэла зрабіў яе двухслойнай (па прынцыпе трубы), што павялічыла яе стабільнасць (трубу значна цяжэй сагнуць і парушыць, чым аднаслойны аб'ект). Да таго ж, знешні слой купала мае 16 каменных рэбраў (яны выразна чытаюцца ў экстэр'еры купала), што таксама ўмацавала канструкцыю. Аднак Мікеланджэла не дажыў да свайго інжынернага трыумфу. Купал (самы высокі ў свеце) быў завершаны ўжо пасля яго смерці Джакама да Віньёлам і Джорджа Вазары паводле ягоных чарцяжоў. Сам Мікеланджэла паспеў выканаць падкупальны барабан, упрыгожаны 16-цю аркамі з парамі карынфскіх калонаў. Магутныя, як і ўсё ў гэтым саборы, яны абрамляюць шырокія праёмы вокнаў (якія дазваляюць аблегчыць ціск




барабана на ніжэйшыя канструкцыі). Мікеланджэла вывучаў шэдэўр заснавальніка рэнесансавай архітэктуры Брунэлескі — купал сабора Санта Марыя дель Ф'ёрэ ў Фларэнцыі. Як і папярэднік, ён таксама пайшоў на выцягванне формы купала ўверх (яйкападобная або авалападобная форма), але значна меншае, чым у фларэнційскай пабудове. Мікеланджэла цікавіўся і падкупальнай аркадай Брунэлескі, але пакпіў з яе, называючы «клеткаю для саранчы». Ён быў майстрам тытанічных формаў і кампазіцый.

Карла Мадэрна завяршыў галоўны фасад сабора ў 1614 годзе. Ён прыклаў усе намаганні, каб захаваць рытміку і вобразнасць, зададзеную Мікеланджэла. За гэта яму давялося вытрымаць несправядлівую крытыку сучаснікаў — панавалі ўжо зусім новыя мастацкія густы. Зразумела, што пазнейшыя пакаленні былі ўдзячныя Мадэрну за тое, што ён пазбегнуў эклектычнага вырашэння. Каласальныя карынфскія калоны і пілястры ўзнімаюцца праз два ярусы і трымаюць строгі антаблемент. Атык фасада вянчаюць скульптуры: фігуры Хрыста, Яна Хрысціцеля і апосталаў (акрамя Пятра). У цэнтры кампазіцыі, пад самым франтонам паміж калонамі, знаходзіцца Лоджыя благаслаўлення, адкуль вернікам паведамляюць пра абранне новага Папы.

Коплекс сабора і плошчы святога Пятра быў завершаны ў 1667 годзе Джавані Бэрніні самым яркім ягоным архітэктурным творам — каланадаю (гэта дзве паўкруглыя каланады тасканскага ордэра, якія кампазіцыйна далучаныя праз дзве карацейшыя простыя каланады да сабора, але не змыкаюцца з ім). Мільёны пілігрымаў, якія з усіх канцоў зямлі ішлі і ідуць у хрысціянскі Рым, перажываюць незабыўнае ўражанне, калі трапляюць у цудоўны свет саборнага комплексу. Каланада і сабор маюць агульную сімвалічную форму ключа святога Пятра.

...І вось расчыняюцца гіганцкія дзверы сабора. Гармонія інтэр'ераў сабора цалкам рэнесансавая. Як і ўсё ў гэтай пабудове, інтэр'еры ўражваюць каласальнымі памерамі, прасторы здаюцца бясконцымі, касмічнымі. Аркі, скляпенні, пілястры — усё падпарадкавана строгім лініям і прапорцыям, што прачытваецца вельмі выразна, нягледзячы на багацце пластычных дэталяў.

...Патрэбна цэлая кніга, каб распавесці пра ўсе мастацкія каштоўнасці і святыні, якія жывуць у суладдзі сабора. Мы абмяжуемся самым галоўным: у канцы цэнтральнай навы знаходзіцца бронзавая статуя св. Пятра, створаная ў XIII стагоддзі Арнольфа дзі Камбіа. Вернікі лічаць яе цудадзейнай і прыкладаюцца вуснамі да яе бронзавай нагі. У першай капліцы ад увахода справа стаіць знакамітая кампазіцыя «П'ета» з белага мармуру разца Мікеланджэла. Але дамінуючым уласна скульптурным складнікам інтэр'ера сабора з'яўляецца 29-метровы балдахін (ківорый) на чатырох кручаных калонах, выкананы з бронзы Джавані Бэрніні ў падкупальнай прасторы над магілай Апостала. Пышныя шматслойныя формы гэтага барочнага твора ўсё ж выбіваюцца з агульнай рэнесансавай кампазіцыі.

...У беларусаў у саборы ёсць свая нацыянальная святыня: з 1946 г. тут знайшло вечны спакой цела святога Язафата Кунцэвіча.

Рым немагчыма ўявіць без знакаміцейшай святыні каталіцтва. У гэтым найвышэйшым дасягненні мастацтва заключана ідэя вечнай перамогі хрысціянства. У ім гучыць адказ на пытанне да ўсіх нас — Quo vadis? Адказ сфармуляваны Генрыкам Сянкевічам: «І так прамінуў Нерон, як мінаюць віхор, бура, пажар, вайна або пошасць, а базыліка Пятра пануе дагэтуль з ватыканскіх вышыняў над горадам і светам».

*Валеры Буйвал*

[1] Estreicher K. Historia sztuki w zarysie. — Warszawa, Kraków, 1981. — С. 433.
[2] Бартенев И. А. Форма и конструкция в архитектуре. — Ленинград, 1968. — С. 65.

---

**Валеры Буйвал** — мастацтвазнаўца, перакладчык. Нарадзіўся ў 1955 г. Закончыў Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна ў Санкт-Пецярбурзе (1977). Даследуе беларускае і заходнееўрапейскае мастацтва. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы М. дэ Сервантэса, Г. Г. Маркеса, Ж. Амаду, Б. Б'ёрнсана, А. Стрындбэрга, Дж. Вэргі, К. Чапэка і інш.



Аляксей Яроменка

# КАТАЛІЦКІЯ СВЯТЫНІ АСТРАВЕЧЧЫНЫ

**Мястэчка Гудагай.** Паводле падання, некалі ў гэтых мясцінах (упершыню Гудагай згадваецца ў 1534 г. як паселішча ў складзе маёнтка Астравец-Урбаноўскі) разбойнікі абрабавалі караван купцоў, які ішоў з Усхода на Захад, а саміх купцоў пазабівалі. На месцы разбою старац-пустэльнік, які жыў непадалёк у «будзе ў гаю», знайшоў у крыві абраз Маці Божай з Дзіцяткам. Ён упрыгожыў абраз у сваёй будзе і маліўся перад ім і за вяскоўцаў, і за тых разбойнікаў. З часам і людзі сталі шанаваць абраз, а месца з «Будагая» стала Гудагаем. Пазней на месцы буды вернікі пабудавалі драўляную каплічку, дзе і змесцілі абраз. У 1656 г. шведскі «патоп» знішчыў капліцу, але тагачасныя ўладальнікі маёнтка Развадоўскія ўратавалі абраз.

У XVII ст. капліцу ў Гудагаі, які належаў Развадоўскім, абслугоўвалі кармэліты старога статута з недалёкай адсюль парафіі Слабодка. 25.09.1735 г. Людвіка Ганна з Суліcтроўскіх, Козел-Паклеўская па першым мужы, набыла Гудагай у Развадоўскіх і ўжо ў 1736 г. пабудавала для абраза капліцу на месцы стражытнай, спаленай шведамі. А ў 1763 г. тут быў узведзены драўляны касцёл, асвечаны пад тытулам Наведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі. Амаль адразу, 19 студня 1764 г., Юзаф Крыштаф Война, абозны полацкі, і Людвіка Ганна, стаўшая яго жонкаю, зрабілі фундацыю на заснаванне пры касцёле кляштара кармэлітаў босых. Сярод іншых фундатараў былі Амброзій Козел-Паклеўскі, староста дзісненскі і сын Людвікі Суліcтроўскай ад першага шлюбу, Юзаф, паручнік пяцігорскі, Тадэвуш, староста мядзянскі. Так вось і сталася, што амаль у суседніх паселішчах (паміж Гудагаем і Слабодкай каля 5 км, сёння гэта адна парафія) існавалі два кляштары кармэлітаў, але з XVI ст. кармэліты старога статута і босыя (новага статута) былі ўжо двума рознымі ордэнамі.

Ужо 8 жніўня (па інш.зв. — верасня, на свята Нараджэння НМП) 1764 г. адбылася ўрачыстая інтрадукцыя кармэлітаў, для якіх злева ад касцёла пабудавалі кляштарны дом, разлічаны на 3-4 законнікі. Кляштар быў залічаны да Літоўскай правінцыі ордэну, і нарэшце, 21 верасня 1777 г., Віленскі біскуп Якуб Ігнацы Масальскі зацвердзіў заснаванне гудагайскай парафіі — на той час каля 1500 вернікаў.

Драўляны комплекс кляштара, абнесены штакетнай агароджаю, складаўся з касцёла, брацкага корпуса, двух'ярушнай чацверыковай званіцы (там былі 3 званы, адзін з якіх быў адліты ў 1792 г. стараннем кс. Раймунда пры дапамозе парафіянаў, і некалькіх гаспадарчых пабудоваў з садам. У 1800 г. пры кляштары адчыніўся шпіталь, дзейнічала і школа для сіротаў, дзе навучалі рэлігіі, чытанню, пісанню і матэматыцы. У гэты час у кляштары ўжо было 13 братоў.

Касцёл Наведзінаў НМП у той час уяўляў з сябе невялікі залавы двухвежавы храм у стылі

---

**Аляксей ЯРОМЕНКА** — архітэктар, даследчык архітэктуры. У 1989 г. скончыў архітэктурны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута. Працаваў у ВА «Белрэстаўрацыя», ДПІ «Мінскпраект», творчых майстэрнях пры Саюзе архітэктараў РБ. Лаўрэат міжнародных і рэспубліканскіх архітэктурных конкурсаў. Большасць работ зроблена ў галіне культавага дойлідства, рэстаўрацыі і рэканструкцыі сакральных аб'ектаў. Аўтар праектаў культавых збудаванняў у Бабруйску, Бараўлянах, в. Браздзечына, Мінску, Слуцку, в. Цэнтральнай і інш. Займаецца выяўленнем і фіксацыяй руінаў раней не даследаваных культавых аб'ектаў. Жыве ў Мінску.

барока, прамавугольны ў плане, з пяціграннай апсідай і дзвюма невялікімі і нізкімі сакрыстыямі, на бутавым атынкаваным падмурку. Галоўны фасад з выяваю Глорыі на трохвугольным франтоне фланкавалі дзве чацверыковыя вежы пад барокавымі купаламі. Інтэр'ер пад плоскай падшыўной столлю ўпрыгожвалі 5 алтароў — галоўны са слынным цудамі абразом Маці Божай Гудагайскай копія XVII ст. абраза Маці Божай Уладзімірскай на дубовай дошцы памерамі 31,2 x 27,7см; срэбраная з пазалотай шата на абраз была створана яшчэ ў 1746 г. віленскім майстрам Анджэем Эўрэліем, кароны аздобленыя рубінамі) і 4 бочныя алтары. Над уваходам на 2 слупы абапіраліся хоры з арганам.

Кляштар дзейнічаў да 18 жніўня 1832 г., да часу ліквідацыі разам з іншымі кляштарамі. Гудагайскі ж касцёл як парафіяльны працаваў яшчэ да 1867 г. (да 1850 г. дзейнічаў як капліца ад слабодскай парафіі, потым быў прыватнай капліцай, а ў 1870-я гг. выкуплены пробашчам з Солаў), але царскія ўлады ліквідавалі і парафію (будынкі былі адабраныя ў дзяржаўную казну і прададзеныя габрэям на разборку). Аднак будынак касцёла захаваўся (зніклі алтары і былі разабраныя вярхушкі вежаў) і ў якасці капліцы быў далучаны да сольскай парафіі. Цудадзейны абраз Маці Божай перанеслі ў касцёл у Ашмянах, дзе апошні гудагайскі прыёр а. Урбан Кляпацкі стаў вікарыем з правам нашэння габіта.

На пач. XX ст. намаганнямі кс. Даната Сямашкі з Солаў касцёл паднавілі: над франтонам галоўнага фасада з'явілася прыгожая вежа; у інтэр'еры ўсталявалі тры новыя двух'ярусныя алтары ў стылі г. зв. станіслаўскага класіцызму; у галоўным змясцілі абраз Маці Божай Шкаплернай (перанесены 9 чэрвеня 1856 г. з ліквідаванага касцёла ў Слабодцы), а над ім — копію цудадзейнага абраза. З 1878 г. святыня дзейнічала ўжо як філіяльны касцёл. У 1904 г. злева ад касцёла была пабудаваная новая драўляная званіца, а касцёльную тэрыторыю абнеслі бутавай атынкаванай агароджаю.

Адразу ж пасля царскага маніфеста 1905 г. аб свабодзе веравызнання гудагайскім вернікам дазволілі аднавіць парафію, і з жніўня 1906 г., пасля прыезду кс. Фелікса Мінгіна, тут паўстала парафія Ашмянскага дэканата. У наступным, 1907 г., 2 жніўня, касцёлу быў вернуты славуты абраз Маці Божай.

У 1927 г. касцёл быў рэстаўраваны (галоўны ўваход упрыгожылі дзверы з дэкорам у выглядзе мальтыйскага крыжа), у 1938 г. быў усталяваны арган. У тыя гады да гудагайскай парафіі былі прыпісаныя капліцы ў Лошы і Слабодцы, а колькасць парафіянаў складала амаль 6 000 вернікаў.

Касцёл дзейнічаў і падчас Другой сусветнай вайны. У 1944 г. нават планавалася пабудаваць новы комплекс касцёла-санктуарыя паводле праекта віленскага архітэктара Яна Бароўскага, аднак прыход савецкай улады адмяніў гэтыя планы, хоць старажытны касцёл працягваў сваю дзейнасць, толькі з 1973 г. (16 ліпеня памёр кс. Адам Вайцэхоўскі, які служыў тут з 1956 г.) тут не было пастаяннага ксяндза.

У наш час паўнацэннае каталіцкае жыццё гудагайскай парафіі нармалізавалася. З 1991 г. тут ізноў адроджаны мужчынскі кляштар кармэлітаў босых, для якіх побач з касцёлам пабудаваны кляштарны дом з капліцаю. Як і ў старажытны час, у парафіі працуюць 3–4 законнікі. З 1991 г. тут працуюць і сёстры кармэліткі ад Дзіцяткі Езуса.

Сёння касцёл Наведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі зноў рэстаўраваны; у цэнтры галоўнага алтара змешчаны цудадзейны абраз Маці Божай Гудагайскай (фэст 16 ліпеня, а 14 ліпеня 2007 г. быў каранаваны абраз Маці Божай Шкаплернай), у 2-м ярусе — абраз Наведзінаў; па баках стаяць фігуры св. Марыі Магдалены і св. Барбары. Упрыгожваюць святыню і бочныя алтары: св. Казіміра і Божай Міласэрнасці. Як і раней, да гудагайскай парафіі належаць капліцы ў Лошы і Слабодцы.

**Вёска Лоша.** Капліца пад тытулам Божай Міласэрнасці ў Лошы, вядомая з міжваеннага часу, драўляная, прамавугольная ў плане, з трохграннай алтарнай часткай, перакрытая двухсхільным дахам з вальмамі над алтаром, пад падлогай — крыпта; побач — чацверыковая званіца.

Пасля вайны капліца была зачынена і занядбаная, а пахаванні разрабаваныя. У 1989 г., дзякуючы намаганням гудагайскага пробашча айца Бэрнарда Радзіка, вернікі адрадзілі сваю святыню, пабудавалі новую званіцу. Капліца была нанава асвечаная 21 верасня 1997 года.

**ЛІТАРАТУРА І КРЫНІЦЫ**


1. Ochmański J. Biskupstwo Wileńskie w średniowieczu: Ustrój i uposaźenia. — Poznań. 1972.
2. Памятная книжка виленского генерал-губернаторства на 1868 г. Под ред. А. М. Сементовского. — Санкт-Пецярбург, 1868.
3. Калекцыя фотаздымкаў канца XIX – пач. XX ст. з аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. BAN 23-2-24.
4. A. Hlebowicz. «Kościoł w niewoli». — Warszawa. 1991.
5. Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. — Мінск. 1985–1988.
6. C. Jankowski. «Powiat Oszmiański». Tom I–III. — Kraków. 1896–1898.
7. Jan Kurczewski. «Biskupstwo Wileńskie». — Wilno. 1912.
8. А. М. Кулагін. «Каталіцкія храмы на Беларусі». — Мінск. 2000.
9. «Наша вера»: Юры Туронак. «Фарміраваньне сеткі рыма-каталіцкіх парафій на Баларусі ў 1387–1781 гг.». № 1, 1995.
   Аркадзь Куляха OCD. «Санктуарый Маці Божай Шкаплернай у Гудагаі». № 2, 2007.
10. «Materiały do dziejów sztuki sakralnej na ziemiach wschodnich dawnej Rzeczypospolitej». Redaktor naukowy serii Jan K. Ostrowski, redakcja naukowa Maria Kałamajska-Saeed: Część III. «Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa Wileńskiekiego». Tom 1. — Kraków, 2005.
11. Rocznik informacyjny diecezji Grodzieńskiej. — Grodno, 2005.
12. Słownik Geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T 1–14. — Warszawa. 1880.
13. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. — Мінск. 1994–2001.



# Бэрнарда Строццы. АПОСТАЛ ПЁТР АЗДАРАЎЛЯЕ ПАРАЛІТЫКА

Бэрнарда Строццы (1581–1644) не належыць да гігантаў сваёй эпохі, але ягонымі творамі ганарацца многія музеі Еўропы і Амерыкі.

Сучаснікі часцей называлі мастака не па імені, а выкарыстоўвалі два ягоных «творчых псеўданімы»: Il Cappuccino (Капуцын) і Il Prete Genovese (Генуэзскі святар). Бэрнарда Строццы нарадзіўся ў Генуі. У 17-гадовым узросце ён уступіў у Ордэн капуцынаў, а ў 1610 г. з дазволу генерала Ордэну пакінуў кляштар, каб утрымліваць сваю сям'ю. Ягоная святарская біяграфія пасвойму драматычная. У 1630 г. памерла яго маці і Ордэн запатрабаваў ягонага звароту ў кляштар. Калі Строццы адмовіўся, то быў ... арыштаваны, але здолеў уцячы ў Венецыю, дзе жыў і працаваў да смерці.

Малады мастак вучыўся ў генуэзскага жывапісца Валерыя Картэ і сіенца П'етра Сорры. Ён быў таксама майстрам інжынернага мастацтва. У гарадскіх архівах яго згадваюць як карабельнага інжынера Генуэзскай рэспублікі. Строццы, як і многія іншыя сучаснікі, захапіўся творчасцю Караваджа. Да таго ж у Генуі ён блізка пазнаёміўся з караваджыстамі — французам Сімонам Вуэ і італьянцам Арацыа Джэнцілескі. Генуя была таксама горадам, дзе па некалькі гадоў працавалі вялікія фламандскія жывапісцы эпохі Пітэр-Паўль Рубенс і Антоніс ван Дэйк, творы якіх паўплывалі на Строццы. У Венецыі мастак успрыняў уплывы выдатнага майстра Паола Веранэзэ. Але ўсе гэтыя ўплывы не перашкодзілі мастаку выпрацаваць у жывапісе сваю непаўторную манеру.

Калі карціна Строццы, прысвечаная святому Пятру, трапіла ў 1940 годзе ў зборы Львоўскай карціннай галерэі, вялікіх праблемаў з недатаваным аўтарам палатном не было. Цэнтральная постаць сюжэта лёгка пазнавалася ў іншых карцінах мастака, выкананых менавіта ў позні перыяд яго творчасці, у 1630-я гады. Аднак у параўнанні з работамі, што знаходзяцца ў іншых музеях (Санкт-Пецярбург, Будапешт, Таронта), яркая натура праявілася найбольш выразна і дынамічна менавіта ў гэтым палатне. Святы Пётр Строццы — гэта не знаёмая нам з безлічы мастацкіх твораў сімвалічная фігура, якую лёгка ідэнтыфікаваць сярод іншых апосталаў паводле ключа або кнігі ў руцэ. Мастак стварыў кампазіцыю амаль у рамках бытавога жанру, распавёўшы пра цуд лекарскай практыкі. Тое, што гэта цуд, мы разумеем з усхваляванай рэакцыі персанажаў карціны, і не толькі.

...Апостал бярэ за руку пажылога паралітыка і аздараўляе яго малітвай і сілай, дадзенай яму Богам. Яго рука далікатна, але ўпэўнена сціскае бязвольную руку хворага – і чалавек вызваляецца ад свайго няшчасця. І хаця гэты кампазіцыйны вузел знаходзіцца ў цені, ён з'яўляецца адным з вызначальных у карціне. Дакрананне адбываецца на першым плане і падкрэслена чырвонымі тонамі, якія прабіваюцца з паўзмроку. Але цуд створаны не толькі тым, што ў медыцыне называецца мануальным кантактам. Выратаваны паралітык падымае галаву і ў захапленні, з удзячнасцю ўглядаецца ў твар Апостала. Яны равеснікі — хворы і апостал Пётр.

Абодва сівавалосыя барадачы з сакратаўскімі галовамі. У кожнага за плячыма пражытае жыццё. Мастак падкрэслівае ў выяве паралітыка плоцевы пачатак існавання. Мы бачым торс некалі моцнага, нават атлетычнага чалавека. Вызвалены ад немачы, ён, увесь прасякнуты рухам, імкнецца насустрач свайму выратавальніку. Гулкі кантраст белі і чырвані яго вопраткі і магутнай карнацыі торса яшчэ больш узмацняе дынаміку твора...

Але цэнтрам усяго, вяршыняй піраміды, што выразна чытаецца ў фігурнай кампазіцыі, з'яўляецца постаць святога Пятра, які высока ўзнімаецца над іншымі фігурамі. Ён паварочвае і крыху схіляе галаву насустрач выратаванаму ім чалавеку. Ягоны твар поўны дабрыні і спачування. У той жа час і ў твары і ў самой фігуры Апостала ёсць магутная духоўная энергія, якая распаўсюджваецца ва ўсёй атмасферы палатна. Галава апостала Пятра — лепшае з таго, што намаляваў за ўсё сваё жыццё Бэрнарда Строццы. У гэтым партрэце ёсць сіла рэалізму, якая час ад часу прабівалася на паверхню ў творчасці лепшых мастакоў барока. Яркі, вялікі блік разам з лятучымі ценямі лепіць прыгожую галаву Апостала. Вось дзе ажылі ўрокі Рубенса — у гэтым шматслойным, сакавітым, тэмпераментным жывапісе! Рух колеравай масы працягваецца і ў фігуры Апостала: ярка ззяюць бяліламі дзве лініі на ягоных грудзях — кромкі кашулі, што скляліся ў сілуэт наканечніка стралы.

Святы Пётр пэндзля Строццы не падобны на многія рашэнні гэтага вобраза іншымі мастакамі. Але генуэзскі жывапісец не падманваецца прыземленай апавядальнасцю абранага сюжэта. Апостал — пасланец Збаўцы, прадаўжальнік справы Хрыста на зямлі. Увесь пярэдні план карціны, бакавыя фігуры чытаюцца амаль цалкам на фоне цёмнай архітэктурнай махіны (цяжка зразумець, што гэта — будынак, аркада, а можа нават мост; для мастака гэта не важна). І толькі галава апостала Пятра намалявана там, дзе мастак разрывае цяжкую архітэктурную дэкарацыю і адкрывае прастору неба, віры лёгкіх воблакаў, кранутых святлом. Халодны блакіт у бясконцых нюансах стварае каларыстычны кантраст першаму плану палатна, дзе дамінуюць цёплыя тоны. Але не толькі гэта. Абрыс аркі (няхай сабе не геаметрычна правільны, абрэзаны краем палатна), як німб, атачае галаву паслядоўніка Хрыста. Апостал Пётр належыць нябёсам — так завяршае мастак сваё бачанне вобраза святога. (Калі адчуваеш гэта, то адразу разумееш велічны пафас усёй карціны).

Сведкам аздараўлення з'яўляецца малады чалавек, які, выцягнуўшы шыю, глядзіць цераз плячо Апостала, назіраючы за тварэннем цуда. Яго фігура рэзанансна паўтарае нахіл направа і дыяганаль, пазначаную фігурай паралітыка. Сведка — у цэлым амаль люстранае паўтарэнне гэтай першапланавай фігуры, але ягоная роля другасная. Гэта тое, што ў мастацтвазнаўстве называецца «дзяжурнай фігурай», змешчанай у кампазіцыю для раўнавагі. У гэтай фігуры найбольш за ўсё адчуваецца тэатральны пачатак, уласцівы барока. Паглядзіце, як намаляваны рукі з доўгімі тонкімі пальцамі — у іх жэсце ёсць манернасць выказвання перажывання, і гэта ўспрымалася сучаснікамі мастака як натуральная праява душэўнага ўзрушэння. Твар і шыя маладога чалавека ярка выдзелены мастаком даволі халодным пучком святла і здаюцца самым штучным фрагментам карціны. А можа і сам аўтар ставіўся да гэтай фігуры абыякава, проста выкарыстоўваючы яе?

Цэнтральны вобраз карціны — гэта пранікнёны расповед мастака пра завяршэнне зямнога шляху Апостала. Ён выконвае запавет Настаўніка — ловіць душы чалавечыя, збаўляе людзей, нясе ім святло хрысціянскай ідэі. Святы Пётр ужо стаўся скалою, на якой утвараецца Касцёл. Ён нясе людзям, якія атачаюць яго, упэўненасць і радасць вызвалення. Гэта нястомны работнік на хрысціянскай ніве. І сам ён шмат перажыў. Згадаем, што рука, якая асцярожна кранае нямоглую плоць інваліда, схапіла меч, каб абараніць Хрыста ў Ерузалеме. Перад намі раскрываецца складаная і супярэчлівая натура, яркая індывідуальнасць. Але, безумоўна, справа не ў характарным натуршчыку, якога Строццы намаляваў у шэрагу сваіх работ у 1630-я гады. Глыбокая адухоўленасць мастацкага вобраза народжана шчырай, гарачай верай жывапісца і адлюстроўвае стан ягонай душы.

Бэрнарда Строццы стварае карціну трыумфу хрысціянства, яго перамогі. Няма яшчэ велічных храмаў і ўрачыстых працэсій. Хрысціянскія супольнасці абярэжна захоўваюць агонь веры ў варожым атачэнні паганскага свету, і яшчэ наперадзе жорсткія ганенні і доўгія часы паняверкі. Але ідэя збавення ўжо жыве і рэалізуецца ў справах духоўных лідараў і простых людзей. Гэта і ёсць сапраўдны цуд, які азорвае чалавецтва.

*Валеры Буйвал*

## CONTENTS

At the beginning of this issue you will find a number of materials devoted to the canonization of the Blessed Popes John XXIII and John Paul II, among which we placed excerpts from the encyclical of John XXIII *Pacem in terris*, «*Testament of John XXIII*», excerpts from the book by archbishop M. Mokrzycki and B. Grysiak «*The Story of Holiness of John Paul II*», and also an article by S. Pomykalo SJ *«Communion of Saints» with John Paul II* (p. 2-25).

An essay by K. Lialko «*The Great Gift of Admiration*» is dedicated to the 100th anniversary of Cardinal K. Swiatek (p. 26-29).

I. Bagdanovich in her article «*I Pray to You, Dear God*» writes about Belarusian prayer poetry in the old times and today. Here you will also find a poem by Cyril of Turau «*A Prayer to the Mother of God*» (p. 30-31).

In the article «*Eden*» M. Pashuk interestingly talks about the origin of the name of the biblical garden (p. 32-34).

We also continue to publish the translation of the work by Stephan Svyazhauski «*Saint Thomas, re-read*», made by A. Zhlutka, Section X «*The First Reason – the Secondary Reasons*» (p. 35-37).

E. Liavonava in her article «*I Didn't Shed His Blood...*» reflects upon the complex image of Pilate in literature (p. 38-45).

An article by A. Shpunt «*Under the Dust of Oblivion*» is dedicated to a little-known person fr. A. Kaviachynski (p. 46-47).

M. Skobla in his article «*From Nothingness to the Red Corner*» presents a book by well-known folklorist A. Lis «Selected Works» (p. 48-51).

In the column «Poetry» we placed poems by M. Duksa, A. Danilchik, U. Maroz (p. 52-57).

«*The Word of Apostolic Nuncio in Belarus...*» abp C. Gugerotti and article by I. Bagdanovich «*Poetic Apostolate of Rygor Baradulin*» are dedicated to the memory of national poet of Belarus R. Baradulin (p. 58-63).

«*Glimpse of Jesus: the Experience of Psychodrama*» is the title of reflection of S. Kandrychyn on meeting man with God (p. 64).

Art historian V. Buival in the essay «*St. Peter's Basilica in Rome*» writes about the world masterpiece of Christian architecture (p. 65-67).

Article by architect A. Yaromenka is dedicated to the Catholic churches of Astravets region (p. 68-69).

V. Buival in column «Gallery» introduces another masterpiece of art, work by Italian artist B. Strozzi «*St. Peter Cures the Lame Beggar*" (p. 70-71).

## RESÜMEE

Diese Nummer der Zeitschrift beginnt mit einer Reihe von Materialien, die der Kanonisierung der seligen Päpste Johannes XXIII. und Johannes Paul II. gewidmet sind. Darunter befinden sich Auszüge aus der Enzyklika von Johannes XXIII. *Pacem in terris*, „Das Testament von Johannes XXIII.“, Auszüge aus dem Buch des Erzbischofs M. Makschyzki und B. Grysjak „Erzählung über die Heiligkeit von Johannes Paul II.“, der Artikel des Paters S. Pamykala SJ «„Die Einheit der Heiligen“ mit Johannes Paul II.» (S. 2-25).

Dem 100.Geburtstag des Kardinals K. Swjatek ist der Essay von Kristina Lialko „Die große Gabe der Begeisterung“ gewidmet (S. 26-29).

Über belarussische Gedichte-Gebete für Kinder von früher schreibt auch heute I. Bagdanowitsch im Artikel „An Dich bete ich, barmherziger Gott“. Hier befindet sich das Gedicht von Kiryla Turauski „Das Gebet an die Gottesmutter“ (S. 30-31).

Im Artikel „Eden“ reflektiert M. Paschuk über die Herkunft des Namens des biblischen Gartens (S. 32-34).

Fortgesetzt wird die Publikation von A. Shlutkas Übersetzung des Werkes von Stefan Swjashauski „Heiliger Thomas, neu gelesen“ – Abschnitt X, „Die Grundursache – die sekundären Ursachen“ (S. 35-37).

Über die komplizierte Gestalt von Pilatus in literarischen Werken reflektiert E. Ljawonawa im Artikel „Nicht ich habe Sein Blut vergossen…“ (S. 38-45).

Der Gestalt des wenig bekannten Paters A. Kawjatschynski ist der Artikel von A. Spunt „Unter dem Staub der Vergessenheit“ gewidmet (S. 46-47).

M. Skobla präsentiert den LeserInnen das Buch des bekannten Folkloristen A. Lis „Auserwähltes“ im Artikel „Aus dem Nichtsein – unter die Ikonen“ (S. 48-51).

In der Rubrik „Poesie“ befinden sich Gedichte von M. Duksa, A. Daniltschyk, U. Maros. (S. 52-57).

Dem Andenken an den Volkspoeten von Belarus R. Baradulin sind die „Worte des Apostolischen Nuntius in Belarus…“ C. Gujerotti und der Artikel von I. Bagdanowtisch „Das poetische Apostelsein von Rygor Baradulin“ gewidmet (S. 58-63).

„Der Blick Jesu: Erfahrung eines Psychodramas“ heißt die Überlegung von S. Kandrytschyn über das Treffen von Gott und Mensch (S. 64).

Der Kunstwissenschaftler W. Bujwal schreibt im Essay „Der Petersdom in Rom“ über das weltberühmte Meisterwerk der christlichen Architektur (S. 65-67).

Den katholischen Heiligtümern im Rayon Astrawez ist der gleichnamige Artikel des Architekten A. Jaromenka gewidmet (S. 68-69).

W. Bujwal macht in der Rubrik „Galerie“ die LeserInnen mit einem weiteren Meisterwerk der Weltkunst bekannt – mit dem Bild des italienischen Malers B. Strozzi „Wunder des heiligen Petrus von Alcantara“ (S. 70-71).

## PODSUMOWANIE

Niniejszy numer czasopisma rozpoczyna się materiałami poświęconymi kanonizacji błogosławionych papieży Jana XXIII i Jana Pawła II. Między innymi są to fragmenty encykliki Jana XXIII Pacem in terris, «Testamentu Jana XXIII», książki abp M. Mokrzyckiego i B. Grysiak «Miejsce dla każdego. Opowieść o świętości Jana Pawła II» oraz artykuł o. St. Pomykały SJ „Świętych obcowanie" z Janem Pawłem II» (s. 2-25).

100-ej rocznicy urodzin kard. K. Świątka został poświęcony esej K. Lalko «Wielki dar zachwytu» (s. 26-29).

O dawniejszych i dzisiejszych białoruskich wierszach modlitewnych pisze I. Bogdanowicz w artykule «Modlę się do Ciebie, Boże miłościwy». Zawiera on także wiersz Cyryla Turowskiego «Modlitwa do Matki Boskiej» (s. 30-31).

W artykule «Eden» M. Paszuk zapoznaje czytelnika z tematem powstania nazwy ogrodu biblijnego (raju) (s. 32-34).

Czytelnik znajdzie także ciąg dalszy tłumaczenia A. Żłutki publikacji Stefana Świeżawskiego «Święty Tomasz na nowo odczytany» — rozdział X «Przyczyna pierwsza – przyczyny wtóre» (s. 35-37).

O niejdnoznacznym wizerunku Piłata w dziełach literackich rozważa E. Lawonawa w artykule «To nie ja przelałem Jego krew…» (s. 38-45).

Artykuł A. Szpunta «Pod kurzem zapomnienia» jest poświęcony osobie mało znanego ojca A. Kawiaczyńskiego (s. 46-47).

W artykule «Z niebytu — na miejsce honorowe», M. Skobła prezentuje Czytelnikom książkę znanego folklorysty A. Lisa — «Wybrane» (s.48-51).

W rubryce «Poezja» zostały umieszczone wiersze M. Duksy, A. Danilczyk, U. Maroza (s. 52-57).

Pamięci wybitnego białoruskiego poety R. Baradulina zostało poświęcone «Słowo Nuncjusza Apostolskiego na Białorusi…» Claudio Gugerotti oraz artykuł I. Bogdanowicz «Apostolstwo poetyckie Ryhora Baradulina» (s. 58-63).

«Spojrzenie Jezusa: doświadczenie psychodramatu» — to z kolei rozmyślanie S. Kandraczyna o spotkaniu człowieka z Bogiem (s. 64).

Znawca sztuki W. Bujwał w eseju «Bazylika św. Piotra na Watykanie» pisze o tym powszechnie znanym arcydziele architektury chrześcijańskiej (s. 65-67).

Tytuł artykułu „Świątynie katolickiego kraju Ostrowieckiego" pióra architekta A. Jaromienko mówi sam za siebie, stąd zbędne wyjaśnienia (s. 68-69).

W. Bujwał w rubryce «Galeria» zapoznaje Czytelników z kolejnym arcydziełem sztuki światowej, jakim jest słynny obraz włoskiego malarza Bernardo Strozzi «Święty Piotr uzdrawia paralityka» (s. 70-71).

## SOMMARIO

Questo numero inizia con una serie degli articoli dedicati alla canonizzazione dei benedetti Papi Giovanni XXIII e Giovanni Paolo II: i brani dell'enciclica di Giovanni XXIII *Pacem in terris,* "Il Testamento di Giovanni", i brani tratti dal libro dell'arcivescovo M. Makšizky e B. Grysiak "Un racconto della santità di Giovanni Paolo II", l'articolo del padre S. Pamykala SJ "L'unione dei santi" con Giovanni Paolo II" (p. 2-25).

Al 100° anniversario della nascita del Cardinale K. Sviontek è dedicato il saggio di Krystyna Lalko "Il grande dono dell'ammirazione" (p. 26-29).

I. Bagdanovič racconta dell'evoluzione delle poesie-preghiere bielorusse nell'articolo "Ti prego, Dio misericordioso". Qui è collocata la poesia di Cirillo di Turau "Preghiera alla Madonna" (p. 30-31).

Nell'articolo "Eden" M. Pašuk riflette sulle origini del nome del giardino biblico (p. 32-34).

Continua la pubblicazione della traduzione dell'opera di Stefan Swiezawski "San Tommaso riletto" eseguita da Ales Žlutka. Si pubblica la parte X "Causa principale, cause secondarie" (p. 35-37).

Nell'articolo "Non sono stato io a versare il Suo sangue..." E. Liavonava riflette sulla complessa immagine di Pilato nelle opere letterarie (p. 38-45).

Alla persona poco conosciuta del padre A. Kaviačynski è dedicato l'articolo di A. Špunt "Sotto la polvere dell'oblio" (p. 46-47).

M. Skobla presenta ai lettori il libro del famoso studioso di folclore A. Lis "Opere scelte" nell'articolo "Dal non essere all'angolo sotto le icone" (p. 48-51).

Nella rubrica *Poesia* sono pubblicate le opere di M. Duksa, A. Danilchyk, U. Maroz (p. 52-57).

Alla memoria dell'insignito del titolo "Poeta del popolo bielorusso" Rygor Baradulin è dedicata "La parola del Nunzio Apostolico in Bielorussia..." C. Gugerotti e l'articolo di I. Bagdanovič "L'apostolato poetico di Rygor Baradulin" (p. 58-63).

"Lo sguardo di Gesù: l'esperienza di psicodramma" è il titolo della riflessione di S Kandryčyn sull'incontro dell'uomo con Dio (p. 64).

Il critico d'arte V.Bujval nel saggio "La Cattedrale di San Pietro a Roma" scrive del capolavoro dell'architettura cristiana famoso in tutto il mondo (p. 65-67).

L'articolo dell'architetto A. Jaromenka è dedicato ai santuari cattolici della provincia di Astravez (p. 68-69).

Il critico d'arte V.Bujval nella rubrica *Galleria* presenta ai lettori un altro capolavoro dell'arte mondiale, il quadro del pittore italiano B. Strozzi "L'Apostolo Pietro cura il paralitico" (p. 70-71).

---

На 1-й ст. вокладкі — базыліка святога Пятра ў Рыме. Акварэль Таццяны Брыткінай.


*Часопіс «**НАША ВЕРА**», № 1 (67)/2014.*
*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 293-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/*

*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*
*Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія РКК у РБ. Вуліца Рэвалюцыйная, 1а, 220030, г. Мінск.*
*Галоўны рэдактар — Крыстына Аляксееўна Лялько. Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за № 903.*
*Падпісаны да друку 21.03.2014 г. Фармат 60x84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад – 1 300 экз. Зак № 205.*
*Надрукавана ў друкарні ООО «Юстмаж»ЛП № 02330/0552734 ад 31.12.2009.*
*Вул. Каліноўскага, д. 6, Г4/К, пакой 201. 220103 г. Мінск.*



*Бэрнарда Строццы.*
*Апостал Пётр аздараўляе паралітыка.*
*1630-я гг. Палатно, алей. 120x111 см.*
*Львоўская карцінная галерэя.*



Касцёл Наведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі ў мястэчку Гудагай.
Фота А. Яроменкі.